+тэлепраграма
№ 7 (269) 15 лютага 2002 г.
# НАША НІВА
Заснаваная ў 1906. Аднаўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## ФІЛЬКІНЫ ГРАМАТЫ

### Козік аб'явіў Расеі "халодную дружбу"

## ЮРАСЬ КОРБАН



### Небясьпечныя сувязі віцебскага пацана

## Гандаль ТРУПАМІ па-польску

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Нацыянальны кансэнсус

## *па пытаньні прыватызацыі нафтахіміі*

Працоўныя калектывы навапалацкіх "Паліміру" і "Нафтану", бабруйскай "Белшыны", гарадзенскага "Азоту", сьветлагорскага ды магілёўскага "Хімвалокнаў" далі згоду на прыватызацыю сваіх прадпрыемстваў. Увесну гэтыя прадпрыемствы сьпешнаператворацца ў акцыянэрныя таварыствы, а ўвосень частку іх акцыяў прададуць расейскім інвэстарам. Аднак ладзіць хаўтуры па эканамічнай незалежнасьці краіны зарана. Пакуль будзе трываць цяперашняя ўлада, буйную нафтахімію будзе кантраляваць беларуская дзяржава.

Пасьля 9 верасьня прыватызацыйныя заявы беларускага боку сталі асьцярожнымі, летні запал зьнік. Зрабілася ясна, што ніхто не зьбіраецца задарма аддаваць галіну, зь якой Беларусь атрымлівае пятую частку бюджэту і трацішу валюты. Ні адкрыты шантаж з боку расейскага прэм'ера Касьянава, ні падкуп прапановамі таннага газу не паўплывалі на пазыцыю ўраду.

Вольны продаж акцыяў быў заменены больш складанай прыватызацыйнай схемай. Цяпер тыя шэсьць прадпрыемстваў нафтахіміі могуць быць прыватызаваныя толькі пры ўмове іх мадэрнізацыі, захаваньня працоўных месцаў і сацыяльнай інфраструктуры, паставак сыравіны. Апошняе адразу выкрэсьлівае са сьпісу прэтэндэнтаў на большую частку прадпрыемстваў нерасейскі бізнэс. У той жа час дзяржава зьбіраецца захаваць у сябе прынамсі 51% акцыяў і па-ранейшаму будзе цалкам кантраляваць сытуацыю.

Няма сумненьняў, што першым часам "Лукойл", "Сургутнафтагаз", "Ітэра", "Сібур" і "Амтэл" скарыстаюць самую сьціплую магчымасьць, каб легальна замацавацца на беларускіх прадпрыемствах. Літоўскія, польскія і ўкраінскія заводы ўжо падзеленыя, а беларускія патэнцыйна ўяўляюць някепскі трамплін на рынак ня толькі Ўсходняй, але і Цэнтральнай Эўропы. Беларуская нафтахімія — кавалак ня менш смачны за беларускі транзыт. Пасьля непазьбежна абдудзецца сутыкненьне інтарэсаў. Праз 2—3 гады расейскія нафтавыя кампаніі запатрабуюць поўнага кантролю. Яны пастараюцца пусьціць карані ў беларускай палітыцы і будуць гатовыя скарыстаць зь любога крызысу беларускай эканомікі, каб завалодаць прадпрыемствамі цалкам.

Наш урад пакуль гатовы ісьці на поўную прыватызацыю істотных для дзяржаўнае стабільнасьці прадпрыемстваў толькі з так званай "залатой акцыяй" у кішэні, якая дазваляе скасаваць рашэньне рады акцыянэраў. Справа тут не ў памкненьнях пакінуць сацыяльныя гарантыі дзяржавы працоўным. Пусьціць буйны расейскі бізнэс на сваю тэрыторыю — значыць страціць вялікую частку эканамічнай і палітычнай улады ў краіне.

**С.І.**




REUTERS

**Самым яркім алімпійскім днём для беларусаў быў аўторак, калі нашыя хакеісты перамаглі зборную Францыі зь лікам 3:1. Беларусы першыя прапусьцілі шайбу — на 4-й хвіліне яе закінуў Марыс Разэнталь, але ўжо праз пяць хвілінаў нападнік "Северсталі" Андрэй Расолька зраўняў лік. На 18-й хвіліне другога пэрыяду Ўладзімер Цыплакоў з "Ак Барсу" закінуў другую шайбу, а за дзьве хвіліны да канца матча пераможную кропку паставіў нападнік новакузьнецкага "Мэталюргу" Зьміцер Панкоў. Ізноў выдатна згуляў і наш варатар Сяргей Шабанаў, аднаклюбнік Зьмітра Панкова. А ў першым матчы са зборнай Украіны, калі беларусы перамаглі 1:0, ён не прапусьціў ніводнай шайбы. Пераможную шайбу закінуў вэтэран зборнай 38-гадовы Алег Мікульчык з васкрасенскага "Хіміка". Дзякуючы перамозе зборнай Украіны над Швайцарыяй (5:2) беларусы датэрмінова выйшлі ў наступны раўнд. Мы трапілі ў групу "D" і будзем гуляць з Расеяй, ЗША, Фінляндыяй. У групу "C" (Канада, Швэцыя, Чэхія) трапіла зборная Нямеччыны, яна ў апошнім матчы групавога турніру перамагла латышоў 4:1.**

**На здымку: Аляксандар Журык валіць француза Марыка Разэнталя.**

алімпійскі дзёньнік

# Радасьць хакеістаў, гора лыжнікаў

Алімпіяда для нашых атлетаў пачалася ў суботу лыжнымі гонкамі ў жанчынаў на 15 км. Чэмпіёнка Алімпіяды-88 Сьвятлана Нагейкіна прыйшла на фініш 6-й, прайграўшы алімпійскай чэмпіёнцы з Італіі Стэфаніі Бэльмонда 23 сэкунды. Беларуска (перабежчыца з Расеі) увесь час трымалася ў лідэрскай шасьцёрцы і змагалася за бронзу, але за чатыры кілямэтры да фінішу паваліся — яе "падрэзала" падчас абгону фінка Кайра Варыс. Страчаная дарагія сэкунды — і толькі сьпіны суперніцаў перад сабой. Змарнаваны шанец завяваць мэдаль, вядомая рэч, сапсаваў Сьвятлане настрой, і ў аўторак, у гонцы на 10 км клясычным стылем, Нагейкіна была толькі 16-й. Алімпійскае золата здабыла нарвэжка Бэнтэ Скары з часам 28 хвілін і 5,6 сэк, літаральна вырваўшы перамогу ў Вольгі Даніловай з Расеі.

Цікава выступілі ў суботу ў лыжных гонках сёстры-блізьняткі Вера і Натальля Зяцікавы. Яны нават на фініш прыйшлі побач з аднолькавым вынікам — 42.04,5, падзяліўшы 18–19-е месцы. А ў аўторак паўтарыць такое ня здолелі: занялі 29-е і 37-е месцы адпаведна.

У мужчынскай гонцы на 20 км найлепшым зь беларусаў быў Сяргей Далідовіч (15-е месца).

У нядзелю пачаліся самыя прыгожыя і захапляльныя спаборніцтвы — гарнальжныя хуткасныя спуск і скачкі на лыжах з трампліну. На жаль, не для беларусаў. У скачках Андрэй Лыскавец заняў 43-е месца з 50-ці магчымых. Ці варта было з такімі вынікамі ехаць на Алімпіяду?

На спаборніцтвах па скачках з трампліну прысутнічаў былы прэзыдэнт Польшчы Лех Валэнса, які шчыра "хварэў" за нацыянальнага героя краіны Адама Малыша. Ня спраўдзіў Малыш надзеяў. Заняў трэцяе месца: скочыў двойчы выдатна на 98,5 і 98 мэтраў, але ў першай спробе прызямліўся з памылкай, і суддзі зьнялі колькі балаў. Цяпер спадзевы паляка ў на 120-мэтровы трамплін.

У панядзелак пачаліся спаборніцтвы па біятлёне. У мужчынаў алімпійскае золата заваяваў нарвэжац Оле-Эйнар Б'ёрндален. Ён два разы спудлаваў (за кожнае "малако" дадаецца хвіліна штрафу), але дыстанцыю прайшоў у тэмпе кур'ерскага цягніка і прывёз Нарвэгіі золата, паказаўшы выдатны час — 51.03,3. І гэта пры тым, што ў суботу Б'ёрндален браў удзел у лыжных гонках у мужчынаў на 20 км і заняў шостае месца. Не адпачыў нават хк сьлед.

Трэцяе месца ў расейца Віктара Майгурава (51.40,6), які на Алімпіядзе ў 1994 г. у Ліleхамэры выступаў за беларускую зборную.

**Працяг тэмы на старонцы 7.**

камэнтар Сяргея Дубаўца

## Нехаця насустрач

Радыё "Свабода" кажа, што большасьць у свабодных прафсаюзах і большасьць работнікаў прадпрыемстваў падтрымліваюць "лінію на акцыянаваньне", г.зн. падтрымліваюць Лукашэнку. Апазыцыя таксама падтрымлівае: не выступаць жа супраць капіталізацыі! Зь іншага боку, відавочныя сякія-такія зрухі да беларусізацыі з боку ўладаў. Найперш — у дзяржаўных СМІ, дзе зьявіліся "апазыцыйныя" літаратары і круцяць "Народны альбом". Магчыма, гэта прадуманы спосаб падзяліць непрымірымую палітычную апазыцыю і праўдзівую нацыянальную культуру. А магчыма, гэта сам сабою ідзе працэс збліжэньня апазыцыі і ўладаў у межах адной нацыі. Прырода бярэ сваё. І гэта прырода адзінага нацыянальнага арганізму, у якім улада і апазыцыя спаборнічаюць, а не сьмяротна заціліся. У кожным разе, Беларусь ад гэтага толькі выйграе. Ці выйграе апазыцыя, залежыць цяпер найболей ад яе самой, ад яе пагляду на народ і краіну, такія, якія ёсьць, а не такія, якіх хацелася б. Ня бачу нічога заганнага ў тым, што ўрад дае прэмію кнізе "Беларускія народныя крыжы" ў той момант, калі АГП стаіць з партрэтамі А.Клімава ля турмы на Кальварыйскай, і выдавец "Крыжоў" ня робіць дэмаршу. Як не зрабілі дэмаршу ўрадавыя ляўрэаты нашаніўцы Кляшчук і Баразна. Праўдзівыя нацыянальныя вартасьці мусяць атрымліваць дзяржаўную падтрымку. Нацыянальная культура ня можа быць непрымірымаю да войска і ўраду ў межах аднаго народу і адной краіны. Прыроджаны "цынізм палітыкі" ў маіх развагах зводзіцца да таго, што апазыцыя мусіла б забыць пра зьніклых паплечнікаў ППРБ і актуалізавацца, зрабіўшы крок наперад. Да прыкладу, склікаць Кангрэс Дэмакратычных Сілаў у падтрымку афіцыйнай лініі на незалежнасьць (з крытыкай іншых, непрымальных аспэктаў афіцыйнай палітыкі). Супрацьстаяньне — не самамэта. Мэта — Беларусь. Калі зрухаў у гэты бок ня будзе, апазыцыя можа канчаткова маргіналізавацца. У адваротным жа выпадку яна атрымае шанец ізноў стаць рэальнай сілай.

**Сяргей Дубавец**

**Кніга выдавецтва "Наша Ніва" прызнаная найлепшай кнігай году. Старонка 6.**





**Выстава Алены Адамчык на "Бэрлінале". Старонка 11.**

# На руінах Ідылії

## *150 гадоў опэры "Сялянка"*

У самым сэрцы Менску, на рагу вуліцаў Леніна і Інтэрнацыянальнай, стаіць нязграбная аднапавярховая будка, пафарбаваная ў млосны жоўты колер, — тыповая сталоўка для мэханізатараў у заможным калгасе, але з прэтэнзіяй на элегантнасьць. Калісьці тут была звычайная "сьцякляшка" "Пінгвін", дзе можна было напіцца распушчальнае кавы і зьесьці марозіва. Гадоў пяць таму яе пашырылі ды абклалі цэглай. Улетку гэтая бясьтарая будыніна ажыўляецца чырвонымі парасонамі вулічнай кавярні, дзе дзяўчаты ў форменай вопратцы *"Bond"* пачастуюць вас півам і цыгарэтамі. З тылу да будкі сарамліва туліцца сьляпы тарэц, якіх шмат у кожным горадзе, што перажыў бамбаваньне.

У пачатку XX ст. тут стаяў пяціпавярховы гатэль "Эўропа" — самы шыкоўны ў горадзе. Ён быў разбураны ў часе другой сусьветнай вайны, захаваўся толькі флігель — барочная камянічка. Яна стаяла акурат там, дзе цяпер месьціцца сталічны летняй кавярні. У 1950—60-я ў ёй кватаравала Менская музычная вучэльня, пасьля камяніца пачала друзьлець і студэнтаў выселілі. З тае пары яна пуставала. У 80-я на яе месцы маніліся ўзьвесьці новую кансэрваторыю — стылёвы сьнежна-белы хмарачос, падобны да алоўка. Аднак будаўніцтва так і не пачалося.

Камяніцу ж усё адно разбурылі. Не дапамагла ні мэмарыяльная дошка "З бальконы гэтага дому была абвешчаная савецкая ўлада ў Беларусі", ні паходы Адама Мальдзіса ў ЦК, ні акцыя "Майстроўні", што 13 чэрвеня 1984 г. зладзіла мітынг у абарону старажытнага будынку — першы несанкцыянаваны мітынг у найноўшай гісторыі Менску.



Станіслаў Манюшка

Дзякуючы сябрам "Майстроўні" ў грамадзкай сьвядомасьці замацавалася легенда, што ў сярэдзіне XIX ст. у зруйнаваным будынку месьціўся гарадзкі тэатр, дзе 9 лютага 1852 г. адбыўся першы й адзіны паказ Марцінкевічавай "Сялянкі".

**Працяг тэмы на старонцы 10.**

## навіны гаспадарскія

**ЦЭНЫ Ў СТУДЗЕНІ** вырасьлі на 6,1%. Гэта самы высокі за апошнія 16 месяцаў узровень інфляцыі. Вышэйшы паказчык быў толькі ў верасьні 2000 г. — 6,8%. У сьнежні 2001 г. спажывецкія цэны вырасьлі на 5,5%, у студзені 2001 г. — на 4,8%. Па разьліках ураду, у 2002 годзе рост спажывецкіх цэн павінен скласьці ад 20 да 27 працэнтаў. Такім чынам, чвэрць "дыстанцыі" пройдзеная за адзін месяц. Для параўнаньня: у студзені бягучага году спажывецкія цэны ў Казахстане павялічыліся на 0,7, ва Украіне — на 1, у Расеі — на 3,1%.

**КВІТКІ НА ЦЯГНІКІ** падаражэюць напалову. Каб чыгунка ня мела стратаў, грамадзянам трэба аплачваць 35% ад сапраўднага кошту праезду. Раней нізкія тарыфы для насельніцтва кампэнсавалі дзякуючы перавозкам грузаў, аднак летась попыт на гэтую паслугу зьменшыўся.

**12 ЧАЛАВЕК ЗАГІНУЛІ** на працы ў студзені, яшчэ 35 назаўжды сталі інвалідамі. Інспэктары па ахове працы кажуць, што з-за састарэлага абсталяваньня рызыка атрымаць траўму існуе на 80% прадпрыемстваў.

**237 ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ЗБАНКРУТАВАЛІ** летась. Цяпер у гаспадарчых судах разглядаюцца сотні справаў аб банкруцтвах, у тым ліку такіх буйных прадпрыемстваў, як былы вайсковы завод "Калібр" ды Менскі гадзіньнікавы завод.

**МЕНСКІ МАРГАРЫНАВЫ ЗАВОД** хочуць купіць расейцы. Ягоная запазычанасьць сягае пад 3,5 млн. даляраў.

**ЭЛЕКТРЫЧНАСЬЦЬ ДАРАЖЭЕ** на чвэрць. Грамадзяне, што маюць электрапліты, будуць плаціць 17,4, а тыя, хто карыстаецца газам, — 24 рублі за кіляват-гадзіну.

**БОЛЬШ ЕСЬЦІ І ПІЦЬ** сталі беларусы ў 2001 г.. "Сярэдні" жыхар краіны штомесяц спажываў 8 літраў малака ці кефіру, 4,7 кг мяса, 12 рыбы, па 2 кг мукі, крупаў, цукру і макароны. Колькі елі бульбы, статыстыка ня ведае: вылічыць ураджай з прыватных сядзібаў немагчыма.

**ЗВОЛЬНІЦЬ 10% ПЭРСАНАЛУ** зьбіраюцца на трактарным заводзе. Бяз працы могуць застацца каля 2 тыс. чалавек.

**ТРАМВАЙ** з трох злучаных частак вырабілі на заводзе "Белкамунмаш". Ехаць у ім могуць 302 пасажыры за раз.

**90 АЎТОБУСАЎ МАЗ** купіць Румынія. На заводзе называюць зьдзелку надта ўдалай, бо за ўвесь мінулы год тут прадалі толькі 436 аўтобусаў.

**АД 13 ДА 80% ІМПАРТНЫХ ЦЫГАРЭТАЎ** і цыгараў (у залежнасьці ад рэгіёну) трапілі летась ў гандаль Беларусі нелегальна. Пазалетась "шэрага тытуню" было ўдвая меней.

**ПРЫВАТНАЯ ЗАБУДОВА** ў сталіцы застанецца, бо Менгарвыканкам ня мае грошай, каб зьнесьці 17 тысяч драўляных дамоў і даць людзям новыя кватэры. Бліжэйшымі гадамі на "прыватных" вуліцах хіба заменяць асфальт, інжынэрныя сеткі ды ліхтары.

**ЗГОДНА З НОВЫМ УКАЗАМ** прэзыдэнта, страцілі сілу некаторыя яго ранейшыя дэкрэты, уведзеныя ў 1998—99 г. і накіраваныя на абарону спажывецкага рынку. Тады назіраўся дэфіцыт некаторых прадуктаў у сувязі зь іх масавым вывазам за мяжу — у Расею і Ўкраіну. Дэкрэты давалі права органам улады вызначаць гранічныя нормы рэалізацыі тавараў і накладаць абмежаваньні на іх вываз. Цяпер такой патрэбы ўжо няма: больш адтуль вязуць.

**ІГНАЛІНСКАЯ АЭС** пасьля рамонту аднавіла экспарт электрычнасьці ў Беларусь. У студзені літоўцы прадалі нам 350 млн. квт/гадзінаў, ці блізу 12% ад звычайнай патрэбы нашага насельніцтва і прадпрыемстваў у месяц.

**Сяржук Іваноўскі**

### зьнікненьне Юрася Корбана

# Небясьпечныя сувязі віцебскага пацана

**Месяц таму зьнік кіраўнік віцебскага Цэнтру моладзевых ініцыятываў "Контур", намесьнік старшыні мясцовай гарадзкой арганізацыі БНФ і галоўны кандыдат на пасаду кіраўніка абласное суполкі БНФ 23-гадовы Юрась Корбан.**

Корбан зьнік не бясьсьледна: першымі днямі ён некалькі разоў азываўся тэлефанаваньнямі да маці. Прычым званкі гэтыя былі зробленыя зь ягонага ўласнага мабільнага тэлефону. Як паведамілі ў фірме *Velcom*, Корбан званіў маці то зь Віцебску, то з Берасьця, то нават з Варшавы, апошнія тэлефанаваньні былі са сталічных раёнаў Серабранкі і Чыжоўкі. Спачатку Юрась казаў, што неўзабаве зьявіцца дадому, пасьля — што сустрэў нейкага чалавека і змушаны на пэўны час зьехаць разам зь ім, потым — што яны з маці могуць больш ня ўбачацца.

Падчас апошняй тэлефоннай размовы 23 студзеня ён папрасіў маці знайсьці буйную суму грошай — калі што, нават прадаць кватэру — і прывезьці іх 28 студзеня ў Менск. Пра якую колькасьць грошай ішла гаворка, Ніна Корбан ня кажа. Сябры Юрася сьцьвярджаюць, што 20 тысяч даляраў.

Аднак сустрэчы ані з самім Юрасём, ані з кім-небудзь іншым не адбылося, бо маці не атрымала ніякіх гарантыяў, што ейнага сына адпусьцяць. Больш тэлефанаваньняў з вымогамі выкупу не было, хоць маці Корбана ў чаканьні зьвестак пра лёс сына ўзяла нават адпачынак і цэлы тыдзень праседзела каля тэлефону.

Маці пэўная, што тут справа толькі палітычная, што сын ейны пацярпеў за сваю грамадзка-палітычную дзейнасьць: "Нас хочуць запэўніць, што зьнікненьне Юрася — гэта справа ягоных жа рук ці выкраданьне з мэтай выкупу. Але абедзьве гэтыя вэрсіі няслушныя".

Тым ня менш, вэрсію пра датычнасьць крыміналу да зьнікненьня кіраўніка "Контуру" працягваюць распрацоўваць праваахоўныя органы. Тыя 20 тыс. даляраў сапраўды маглі быць сумай запатрабаванага за Юрася Корбана выкупу. Хто ня лічыць у Беларусі, што ў так званым "трэцім сэктары" круцяцца немалыя грантавыя грошы! Гэтыя чуткі і стэрэатыпы рана ці позна павінны былі навесьці рэкет на супрацоўнікаў недзяржаўных арганізацый.

Юрась Корбан добра знаёмы супрацоўнікам "НН", бо менавіта ён зладзіў сустрэчу нашаніўцаў зь віцебскімі чытачамі ў 2000 г. Сустрэча тая прайшла зь вялікім посьпехам у тамтэйшым прэстыжным клюбе "Сава". Корбан — таленавіты арганізатар, душа віцебскага апазыцыйнага асяродку.

Перад той сустрэчай Корбан у гутарцы хваліўся, што зазнаваў "наезды" з боку рэкету, але ўдала адбіваўся.

У Віцебску хадзілі чуткі, што, каб адчапіцца ад адных, ён нават зьвяртаўся па дапамогу іншых падазроных груповак. Некаторы час летась Корбан нават меў асабістых ахоўнікаў. Сяброўка Корбана Вольга Старасьціна ў гутарцы з карэспандэнтам "НН" пацьвердзіла гэты факт, але зазначыла, што гэта была не прафэсійная ахова, а некалькі сяброў віцебскага Маладога Фронту, у які ўваходзіў і сам Корбан.



СЯРЖУК СЕРАБРО

Ю.Корбана саджаюць у міліцэйскую машыну пасьля пікету 10 верасьня 2001 г.

Колькі гадоў таму "Контур" усё ж стаўся ахвярай злачынцаў, што скралі кампутары й іншую аргтэхніку. У выніку гэтага лідэр "Контуру" моцна пасварыўся зь Віктарам Вільманам, кіраўніком Віцебскага саюзу немцаў, у памяшканьнях якога месьціўся офіс суполкі. Аднак знаёмцы Корбана кажуць, што апошнім часам ніякіх справаў зь Вільманам той ня меў. А вымагаць выкуп або проста помсьціць Корбану мог хто заўгодна.

Зьвязана гэта можа быць ня толькі з грантаваньнем "Контуру": Юрась Корбан паралельна з актыўнай грамадзкай дзейнасьцю, меў уласны бізнэс.

Нельга адкінуць і вэрсію сяброў Корбана, што ў ролі выкрадальнікаў выступілі беларускія спэцслужбы, якія гэткім чынам "дапамагаюць" Камітэту фінансавых расьсьледаваньняў па Віцебску даказаць факты неправамоцнага выкарыстаньня сродкаў з боку віцебскіх грамадзкіх арганізацыяў, у тым ліку "Контуру". Бо наконт гэтага ўзбуджаная крымінальная справа, у якой фігуруюць некалькі тысяч даляраў.

У Камітэце, аднак, кажуць, што самі ламаюць галовы, куды падзеўся Корбан, які зьнік у суботу 19 студзеня, а ў панядзелак 21-га мусіў зьявіцца на допыт да фінінспэктараў. Паводле іхнае вэрсіі, Корбан якраз ад іх сам і хаваецца, прыўлашчыўшы пэўную суму. А званкамі да маці з намёкамі аб прымусовым зьнікненьні "абстаўляе" сваю эміграцыю за мяжу.

Калі гэта чарговае палітычнае зьнікненьне, значыць спэцслужбы ўзяліся асвойваць новую схему расправы зь нязгоднымі і сацыяльна актыўнымі, прадстаўляючы іх звычайнымі ахвярамі крымінальнікаў. Праваабаронцы зь "Вясны" падкрэсьліваюць надзвычай эфэктыўную арганізацыю Юрасём Корбанам назіраньня за выбарамі 9 верасьня.

Міліцыя, са словаў маці Юрася Корбана, пакуль нічога ня робіць. Праўда, адмысловую заяву ў праваахоўныя органы яна падала зусім нядаўна, і крымінальная справа па факце зьнікненьня лідэра віцебскага моладзевага руху была адкрытая толькі 12 лютага. Дэзінфармацыяй з боку спэцслужбаў могуць быць і зьвесткі, якія прыйшлі да тых, хто шукае Юрася Корбана прыватна, літаральна адразу пасьля таго, як у Менску былі распаўсюджаныя ўлёткі з інфармацыяй пра зьнікненьне з апісаньнем кіраўніка "Контуру": нібыта групоўка на чале з крымінальным аўтарытэтам Удавам цягае па Менску зьбітага хлопца 25 гадоў, а атабарыліся злачынцы ў доме ў раёне сталічнага заапарку. Там, дзе і былі запэленгаваныя апошнія званкі Юрася Корбана да маці ў Віцебск.

Справай чыіх бы рук ні было зьнікненьне Корбана, для арганізацыяў "трэцяга сэктару" ў Беларусі прабомкаў трывожны званочак. Няўрадавыя арганізацыі з кожным годам набываюць усё болей уплыву і аўтарытэту. Але аўтарытэт няўрадавых арганізацый можа вельмі хутка запляміцца, калі выявіцца, што кіраўнікі "трэцяга сэктару" маюць сувязі з крымінальным сьветам. Хочацца верыць, што Юрась Корбан у гэтым сэнсе чысты. І што зь ім усё ў парадку.

**Ігнат Чакацкі**

### лісты ў рэдакцыю

## Вярніце вёску Цешкаў

**Я родам зь вёскі Цешкаў Нараўлянскага раёну. Нас зь вёскі высялялі ў верасьні ў 1986 г., трэцім этапам. У траўні 1991 году Гомельскі гідрамет абсьледаваў в. Цешкаў на шчыльнасьць забруджаньня яе тэрыторыі і даў заключэньне пра тое, што ў населеным пункце в.Цешкаў шчыльнасьць забруджаньня цэзіем-137 на 13 траўня 1991 г. складае 9,16 кю/км².**

У 1992 г. быў прыняты закон "Пра абарону грамадзян, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС", у якім запісалі: у зоне 5—15 кю/км² жыцьцё дазволена з правам на адсяленьне. Жыхары в.Цешкаў сабралі 80 подпісаў ахвотных вярнуцца ў свае дамы. Са сьпісам у руках я ў 92-м годзе быў на прыёме ў Сяргея Сьцяпанавіча Лінга. Я са сьпісам быў і ў Кеніка. Ён быў гаспадаром мёртвай зоны. Нам рээвакуацыі не дазволілі. Як я зразумеў, ім патрэбна мёртвая вёска і мёртвая зямля. У 94—95 гадох я два разы быў у прыёмнай прэзыдэнта, і паўсюль я атрымаў адказ ісьці да Кеніка. Каля ста адказаў я сабраў за гэтыя гады ад розных міністэрстваў і ўстановаў. У адных адказах ёсьць словы: "У в.Цешкаў пражываньне насельніцтва цалкам магчымае". У другіх адказах мне паведамлялі, што н.п.Цешкаў рээвакуяваць немэтазгодна. У трэціх адказах мне тлумачаць: "У в.Цешкаў насельніцтва можа набраць дозавае апрамяненьне 1,44 мзв у год, а гэта перавышэньне аднаго мзв/год, усталяванага законам". Карацей кажучы, нам рээвакуацыі даваць не жадаюць, надта шмат людзкіх лёсаў зламалі, шмат зьнішчылі скаціны, разьбілі вёску, біцьцём вокнаў абараняліся ад самасёлаў. Любым коштам утрымаць хацелі, каб вёска была мёртвай.

У Нараўлянскім раёне 17 вёсак трэ было адсяляць, а гэта 17000 чалавек, якія жывуць з болей чым 15 кю/км². Гэта Нароўля (сярэдняе забруджаньне 18,96 кю/км², максымальнае 66 кю/км²), Канатоп (23,69, максымум 49,50 кю/км²), Кіраў (27,80, максымум 53 кю/км²), Station Заракітнае (сярэдняе 24,66, максымальнае 56,00 кю/м²) і гэтак далей у астатніх 13 вёсках. Я не разумею тых чыноўнікаў, якія мне кажуць: "Кепскі ці добры закон, але яго трэба выконваць". Раз гэта так, то чаму не выконваюць літары закону, які кажа, што, дзе ўзровень забруджаньня вышэйшы за 15 кюры, людзі павінны быць пераселеныя. А жыцьцё паказвае адваротнае: людзі жывуць на 30 кюры, перасяленьня людзей больш не вядзецца. Іван Кенік казаў журналістам: "Жыцьцё чалавека і ягонае здароўе даражэйшыя за ўсё". Тады чаму людзей з 30 кюры не перасялялі? Выказваньне Кеніка "Жыцьцё чалавека даражэйшае за ўсё" — гэта проста для краснага слоўца.

**Мікалай Гуц, Мазыр**

## Пра дзёньнік Багдановіча

**Ці публікаваць дзёньнік Максіма Багдановіча, ці не? Адказ на гэта дае цытата з А.Пушкіна:**

Пакуль ня просіць у паэта
Ахвяр сьвяшчэнных Апалён,
У сумятні турботаў сьвету
Ён маладушны ловіць плён.

Як усе жывыя істоты Зямлі, М.Багдановіч насіў у сваім арганізьме інстынкт размнажэньня. Калі б ён дажыў да сталага веку, дык такіх брыдкасьцяў аб сабе не пісаў бы. І не апека бацькі вісела над ім, а гуляла ў ім распуста маладосьці. Сэкс стаў вышэй за талент і свайго месца ня ўступіць нізкай (кідкай) цнатлівасьці. Добры розум у галаве — найлепшы цэнзар жыцьця. Ён ведае, што ня ўсё можна паказваць пабожнаму воку, што робіць твая рука. У кожнага чалавека ёсьць свая таямніца душы, якую ён надзейна хавае, нават ад свах інтымных успамінаў, ня кажучы ўжо аб паперы, якая на ўсё прыгодна, таксама для туалету. У чалавечым жыцьці ёсьць пэрыяды, у якіх абставіны вымушаюць рабіць тое, чаго ён ня можа рабіць у іншым, наступным пэрыядзе свайго жыцьця. Публікацыя брыдкіх паводзін чалавека не прыбаўляе яму хараства, а прыніжае яго дзейнасьць. Таму такія рэчы вялікіх людзей ляжаць пад цяжарам архіўных табу.

**84-гадовы пэнсіянэр Б.Пяткевіч, Бабынічы (Полаччына)**

### пацярпелыя за Беларусь

За мінулы месяц: у Віцебску затрыманыя два Валеры — Высоцкі і Паўлоўскі, Уладзіслаў Токараў і Сяргей Шапіра, сябры БНФ, якія зладзілі пікет супраць зьбядненьня народу. Шклоўскі раённы суд аштрафаваў рэдактара газэты "Шклоўскія навіны" Аляксандра Шчарбака на 10 мінімалак і канфіскаваў ягоную аргтэхніку. Суд лічыць, што Шчарбак выпусьціў летась нумар накладам большым за 299 асобнікаў, што незарэгістраванаму выданьню забараняецца. Пракуратура Менску вядзе крымінальную справу супраць прэс-сакратара незарэгістраванага руху "Зубр" Аляксандра Атрошчанкава па артыкуле 368 КК РБ — зьнявага прэзыдэнта. У Гомелі суд пастанавіў канфіскаваць у "Грамадзянскіх ініцыятываў" 5 кампутараў і 2 прынтэры, а таксама аштрафаваць кіраўніка аб'яднаньня Віктара Карніенку на мільён рублёў

## падзеі за тыдзень

### Адзін пратэставаў у Смургонях

**Толькі адзін чалавек у Смургонях падтрымаў "агульнанацыянальную акцыю пратэсту супраць зьбядненьня беларускага народу"** — лідэр мясцовай суполкі камуністаў (ПКБ) Валер Батурын. Мясцовая ўлада вызначыла яму месца выдатнае, на ўскрайку гораду: з аднаго боку — пляцоўка для выгулу сабак, з другога — кантэйнэры са сьмецьцем. Жыхары найбліжэйшых хат спачатку думалі, што пікет праводзіцца супраць таго, што сьмецьце нясвоечасова вывозяць. Але разабрацца, у чым справа, дапамаглі... міліцыянты, якія ўвесь час цікавіліся пікетчыкам — пад'яжджалі, падыходзілі, а некалькі чалавек у форме наагул дзяжурылі з 11.00 да 13.00 непадалёку, аж пакуль акцыя не скончылася. Напрыканцы адбылася незвычайная падзея: мясцовыя тэлевізіёншчыкі, якія здымалі пікет, злавілі ў кадар бабулю, што выносіла кошык з адкідамі. Старой гэта не спадабалася, і яна кінула ў камэру зношаным ботам, прызначаным для кантэйнэру. А потым наагул зьлёгку пабілася з апэратарам. Міліцыянты нават хацелі скласьці на яе пратакол. Ды перадумалі. Пэўна, пашкадавалі.

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

### Настаўнік дабіўся зарплаты праз суд

**Мікалай Уласевіч, настаўнік базавай школы ў Газе на Астравеччыне, зьвярнуўся ў суд, каб яму, а таксама ўсім настаўнікам у тэрмін выплачвалі заробак.** Прычынай звароту сталі сыстэматычныя затрымкі з выплатай грошай у школах. Пасьля разьбіральніцтва, на якое былі запрошаны прадстаўнікі выканкаму і аддзелу адукацыі, перамогу атрымаў вясковы настаўнік. Суд абавязаў Астравецкі раённы аддзел адукацыі ў вызначаны тэрмін выплачваць заробак Уласевічу. Суд папярэдзіў загадчыка аддзелу адукацыі Уладзімера Буляціцкага, што за парушэньне выраку суда ён будзе аштрафаваны на 10 мінімалак.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### Да БХК зьменшыўся давер

**На мінулым тыдні ў Крычаве прайшла перарэгістрацыя сябровў мясцовага аддзяленьня Беларускага хельсынскага камітэту.** Зь сямі крычаўскіх прадстаўнікоў праваабарончай арганізацыі толькі двое пацьвердзілі сваё сяброўства ў ёй. Астатнія пяць адракліся. Прычынамі для адмовы сталася нізкая эфэктыўнасць сумеснай працы, адарванасьць нізавых структур ад цэнтру ды падзеньне даверу як да асобных кіраўнікоў, так і да самой арганізацыі.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

### Бяльніцкія "Зубры" аднавілі дзейнасьць

**Бяльніцкія "Зубры" пасьля паўгадовага перапынку нагадалі пра сябе. Гэтым разам зуброўцы правілі клопат аб месьцячкоўцах.** У ноч зь пятніцы на суботу ў пад'ездах шматпавярховых дамоў і ў месцах размяшчэньня візуальнай рэклямы зьявіліся ўлёткі. У іх маладыя людзі, занепакоеныя ростам цэнаў на камунальныя паслугі, нагадваюць бялынічанам, што тыя, калі ў іхных кватэрах цякуць краны і ў галалёдзіцу не пасыпаюцца пясчанай сумесьсю дарогі, не прыбіраецца сьнег з тратуараў і г.д., павінны зьвяртацца ў жылкамунгас.

Упершыню "Зубр" у Бялынічах прымусіў загаварыць пра сябе летась, калі ў ноч з 8 на 9 лютага фасады 65 грамадзкіх і жылых будынкаў мястэчка былі сьпярэшчаны надпісам "Зубр", што надзвычай абурыла і настроіла супраць яго большасьць месьцячкоўцаў.

**Базыль Ліцьвіновіч, Бялынічы**

### На Сойме КХП БНФ

**9 лютага ў Менску адбылося паседжаньне Сойму Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ.** Заслухалі на ім даклад Зянона Пазьняка. Разгледзеўшы актуальную палітычную сытуацыю, партыйцы вырашылі працягнуць кампанію "Беларуская салідарнасьць" па кансалідацыі беларускага грамадзтва, збор заяваў у грамадзянства БНР і подпісаў у абарону рэлігійнай радыёпраграмы "Голас душы". Асабліва ж важным сябры партыі лічаць году адсьвяткаваць Дзень волі 25 сакавіка. Сябры партыі не прызнаюць легітымнасьці ані прэзыдэнта, ані нацыянальнага сходу, лічаць існую ўладу несправядлівай. Пэрсанальнай палітычнай альтэрнатывай рэжыму яны лічаць Зянона Пазьняка і заклікаюць правесьці датэрміновыя выбары прэзыдэнта на дэмакратычнай аснове пад міжнародным пратэктаратам.

### Адмененыя льготы кнігавыданьню

**З 1 студзеня адмененыя льготы беларускаму кнігавыданьню і кнігагандлю.** Дагэтуль паўтара году выдаўцы не плацілі ПДВ і падатку на прыбытак, а кнігарні — за арэнду. Міністэрства інфармацыі выйшла з хадайніцтвам у аблвыканкамы, каб арэнда для кнігарань была хоць бы таньнейшай.

### Паказчыкі растуць

**Паводле інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу, у Беларусі працягваецца рост валавога ўнутранага прадукту.** У сёлетнім студзені ў параўнаньні зь леташнім ён павялічыўся на 3,6%. Вырасла як прамысловая (на 2,9%), так і сельскагаспадарчая (на 1,5%) вытворчасьць, інвэстыцыі ў асноўны капітал (на 11,8%), уведзена ў эксплюатацыю на 4,2% больш жыльля. Розьнічны тваразварот павялічыўся на 17,8%, аб'ём платных паслуг — на 10,7%.

### Новыя прызначэньні

**Вадзім Мельнік прызначаны першым намесьнікам,** а Іван Герлоўскі і Глеб Пархамовіч — намесьнікамі старшыні Дзяржкамітэту па авіяцыі, Сяргей Булацкі — намесьнікам міністра інфармацыі, Васіль Пугачоў — першым намесьнікам міністра замежных справаў Беларусі, Мікалай Іванчанка — дырэктарам Беларускага канцэрну па матэрыяльных рэсурсах, Генадзь Падгорны — дырэктарам фонду дзяржаўнай маёмасьці Міністэрства эканомікі. Цікава, што Аляксандар Дубко прызначаны намесьнікам старшыні Магілёўскага аблвыканкаму.

**Ул.інф. і паводле БелаПАН**

### Рэдактары просяць не спыняць цiску

**Рэдактары "Пагоні" Мікола Маркевіч, "Народнай волі" Іосіф Сярэдзіч, "Белорусского рынка" Вячаслаў Хадасоўскі і віцэ-прэзыдэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец** на мінулым тыдні сустрэліся з прадстаўнікамі Дзяржпэпартамэнту ЗША і праваабарончых арганізацыяў. На прэсавай канфэрэнцыі ў Вашынгтоне, якая адбылася 7 лютага, яны заявілі, што з часу верасьнёўскіх выбараў становішча незалежнай прэсы ў Беларусі толькі пагоршылася. Журналісты заклікалі Захад не спыняць ціску на беларускія ўлады.

**Паводле радыё "Свабода"**

# Інтэгратары не сьпяшаюцца

*Рознагалосьсі сярод распрацоўшчыкаў "канстытуцыйнага акту саюзнай дзяржавы" сьведчаць аб крызысе беларуска-расейскай інтэграцыі*

Ледзь ня год таму, 2 красавіка, Лукашэнка і Пуцін афіцыйна заявілі аб неабходнасьці ўтварыць працоўную групу па падрыхтоўцы праекту "канстытуцыйнага акту саюзу Беларусі й Расеі". Група была створана ў кастрычніку, а яе першае паседжаньне адбылося толькі 14 студзеня. Мяркуючы па такіх тэмпах, намесьнік кіраўніка прэзыдэнцкай Адміністрацыі Леанід Козік упэўнены, што "канстытуцыйнага акту ня будзе і ў красавіку, траўні, чэрвені".

Зрэшты, праектаў канстытуцыйнага акту, збольшага расейскага аўтарства, пры жаданьні можна знайсьці зь дзясятак. На сумесным паседжаньні беларускі бок гатовы разгледзець толькі тры зь іх. Яшчэ адзін дасланы афіцыйна праект разглядацца наагул ня будзе. Тым ня менш менавіта ён (дарэчы, яго аўтар невядомы) вельмі добра характарызуе жаданьні расейскіх інтэгратараў. Імі прадугледжваецца, што пасаду кіраўніка саюзнай дзяржавы можа займаць толькі расейскі прэзыдэнт. Выкананьне такога праекту прывяло б да зьмены канстытуцыйнага ладу Беларусі і яе ўваходжаньня ў склад Расеі.

Наўрад ці могуць задаволіць беларускія ўлады і іншыя два прарасейскія варыянты акту. Першы з іх распрацаваны нібыта парлямэнцкім сходам СБР, аднак беларускія дэпутаты ў ягонай распрацоўцы амаль ня ўдзельнічалі. У прыватнасьці, летась на закрытым пасяджэньні палаты прадстаўнікоў, дэпутаты Архіпаў і Шпілеўскі скардзіліся менавіта на гэтую акалічнасьць. Сам праект уяўляе сабой даволі аб'ёмісты дакумэнт, што збольшага дублюе дамову аб утварэньні саюзнай дзяржавы.

Яшчэ больш нэгатыўна беларускі бок успрымае праект пастаяннага камітэту, які называюць не інакш як "барадзінскім". Паводле яго, саюз мусіць быць дзяржаўным аб'яднаньнем канфэдэратыўнага тыпу, якое паступова ператворыцца ў новую фэдэрацыю. Аўтары прапануюць тры варыянты кіраваньня дзяржавай. У першым выпадку сумесна могуць існаваць пасады прэзыдэнта і віцэ-прэзыдэнта, якія замацоўваюць за кіраўнікамі Расеі і Беларусі. У другім — прэзыдэнт зьмяняецца віцэ-прэзыдэнтам кожныя два гады. У трэцім варыянце галоўным органам саюзнай дзяржавы павінна стаць Найвышэйшая дзяржаўная рада, у склад якога ўваходзяць кіраўнікі дзяржаў, урадаў і палатаў парлямэнту. Нават дэпутатка Натальля Машэрава, адна з актыўных удзельніц інтэграцыйных працэсаў, аднойчы ня вытрымала й назвала праекты парлямэнцкага сходу і Барадзіна "ашуканствам".



Леанід Козік: "Фількіна грамата!"

Яшчэ больш выразна аб стаўленьні ўладаў Беларусі да расейскіх праектаў сьведчыць выказваньне старшыні беларускай групы па распрацоўцы Канстытуцыйнага акту Козіка. На нядаўняй прэсавай канфэрэнцыі ён заявіў: "Я не магу гэта назваць дакумэнтам" — і рэзка назваў гэтыя варыянты "фількінымі граматамі".

Праект беларускага боку, распрацаваны ў прэзыдэнцкай Адміністрацыі, мае назву "Прынцыпы пабудовы канстытуцыйнага акту саюзнай дзяржавы". Козік ня вельмі ахвотна казаў пра ягоны зьмест, заявіўшы толькі, што для беларускага боку вельмі важна, каб акт адпавядаў міжнароднаму праву і дамове аб саюзнай дзяржаве.

Асноўным спрэчным момантам застаецца пытаньне кіраўніцтва новым утварэньнем. Сёньня Лукашэнку задавальне стан рэчаў: якніяк, ён — старшыня дзяржрады саюзнай дзяржавы. Таму нічыйны варыянт акту, калі пытаньне кіраўніцтва вырашыцца на існых сёньня дамоўленасьцях, яго можа задаволіць. Пуцін наўрад ці будзе абцяжарваць сябе фармальным клопатамі сама меней цягам яшчэ аднаго прэзыдэнцкага тэрміну. Аднак пры такім раскладзе пытаньне кіраўніцтва ў любым выпадку ўзьнікне праз пэўны тэрмін. Таму расейцы і жадаюць інтэгравацца радыкальным чынам. Лукашэнку такія пэрспэктывы не падабаюцца, бо ён тады робіцца звычайным губэрнатарам. Таму й гандлюецца ён за кожнае слова праекту. Час на гэта ёсьць: да сканчэньня прэзыдэнцтва яшчэ чатыры гады. Падобна, што нават сам кіраўнік Беларусі ня ведае, як мусіць выглядаць выдуманы ім саюз.

Нягледзячы на заявы беларускіх чыноўнікаў, што інтэграцыя перайшла ў эканамічнае рэчышча, асноўнымі заўсёды заставаліся пытаньні палітычныя. Нават заявіўшы аб лібэралізацыі эканомікі, што прадугледжвае прыход замежных інвэстараў, улады не сьпяшаюцца саступіць ім ні кроплі сваіх выгод.

Яскравы прыклад — становішча з "Балтыкай". На паседжаньні Рады міністраў у аўторак Лукашэнка сказаў, што ў Беларусі ня будзе ні "Балтыкі", ні якіх іншых расейскіх фірмаў, калі яны будуць навязваць Беларусі свае правілы гульні, і заклікаў расейскіх інвэстараў гуляць па ягоных правілах, г.зн. пакінуць дзяржаве кантрольны пакет акцыяў. У адказ віцэ-прэзыдэнт "Балтыкі" Тлехурай заявіў, што пачынае працэдуру вяртаньня інвэстыцыйных сродкаў зь Беларусі. Канчаткова сытуацыя павінна высьветліцца на нарадзе ў Лукашэнкі, заплянаванай на блізкі час.

Калі ўжо Лукашэнка ня можа з удзелам расейскага капіталу прыватызаваць адно прадпрыемства, можна толькі здагадвацца, што будзе, калі пачнецца прыватызацыя нафтахімічнага комплексу. Гульня пойдзе значна больш сур'ёзная, бо Лукашэнку патрэбна заручыцца трывалай падтрымкай з боку расейскага бізнэсу на выпадак магчымага "інтэграцыйнага ціску" з боку Расеі. Хоць нават у выпадку, калі гэта яму ўдасца, ягоныя шанцы на саюзнае прэзыдэнцтва мізэрныя.

**Валянцін Паўлоўскі**

# Ліст у падтрымку Маркевіча й Мажэйкі

Дзясяткі журналістаў і грамадзкіх дзеячаў Гарадзеншчыны паставілі свае подпісы пад адкрытым лістом да пракурора вобласьці Васіля Літвінава. Падпісанты просяць пракурора "выказаць сваю грамадзянскую ацэнку магчымага прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці журналістаў Паўла Мажэйкі і Міколы Маркевіча". Падпісанты пераканаsuccessfully, што "журналісты Павал Мажэйка і Мікола Маркевіч — ніякія не злачынцы, а людзі сумленныя, з актыўнай грамадзянскай пазыцыяй, патрыёты Беларусі. Перасьлед такіх людзей... ёсьць справаю антыдзяржаўнаю, шкоднаю для краіны. Ён дыскрэдытуе Беларусь і яе праваахоўныя органы ў вачах міжнароднай супольнасьці". Падпісанты заклікаюць спыніць справу супраць журналістаў.

**Ул.інф.**

**13 лютага а 15-й рэдактар газэты "Пагоня" Мікола Маркевіч быў выкліканы ў Гарадзенскую абласную пракуратуру. Там яму прад'явілі абвінавачаньне па ч.2 арт. 367 Крымінальнага кодэксу. 14 лютага аб 11-й гэткае самае абвінавачаньне прад'явілі Паўлу Мажэйку. У Маркевіча дома апісалі маёмасьць.**

# У дзясятцы самых забясьпечаных

## Гутарка з Паўлам Севярынцам

**Гэтым разам "НН" зьвярнулася да Паўла Севярынца не як да лідэра Маладога Фронту, не як да абаронцы Курапатаў, не як да апантанага прапагандыста Слова Божага, а як да геоляга-прафэсіянала, дасьледчыка беларускіх нетраў, які ведае, чым багаты наш край, з чаго беларусам заўтра заможна жыць.**



**Павал Севярынец:** Адразу папярэджу: па спэцыяльнасьці ў мяне працаваць не атрымліваецца. Спрабаваў у "БелГЕА", якое займаецца пошукамі россыпаў каштоўных мэталаў і бурштыну, але толькі некалькі тыдняў пратрымаўся, бо праца сумяшчалася з "палітыкай" і "пасадкамі". Тэма ж маёй дыплёмнай працы была "Бурштын Беларусі" — пра радовішчы бурштыну ў нашай краіне, праблемы і пэрспэктывы іх дасьледаваньня, прамысловай здабычы. Існуе, ведаеце, Вялікае Княства Бурштынавае ад Балтыкі да Чорнага мора. Гэта найбуйнейшая ў сьвеце геалягічная правінцыя, дзе пашыраны бурштыны, якія, па сутнасьці, ёсьць выкапнёвай хваёвай смалой. Увогуле бурштын — гэта сьлёзы, рэакцыя хвояў на серавадароднае заражэньне. Пранізьлівы вобраз.

У старажытнасьці ў паўночных нашых паселішчах — Полацку, Віцебску, Вільні — выкарыстоўваўся прыбалтыйскі бурштын, а на поўдні — у Нясьвіжы, Клецку, Тураве — бурштын беларускага паходжаньня. Найбольшыя бурштынавыя адклады ў нашай краіне на Палесьсі — Гатча-Восаўскае радовішча, таксама пэрспэктыўныя плошчы ў басэйнах тых рэкаў, што ўпадаюць у Прыпяць з Украінскага шчыта. Там знаходзілі бурштыны памерам і з кулак, і з футбольны мяч, але вялікі бурштын — мутны і падобны больш да плястмасы... У прынцыпе, здабыча і апрацоўка бурштыну можа ператварыцца ў нас у значную сувэнірную галіну.

**"НН": Ці можа бурштын даваць Беларусі валюту?**

**П.С.:** Наўрад ці. А вось стаць нацыянальным сувэнірам, вядомым у сьвеце, — вельмі проста. Дужа пасуе нам, на мой густ, і сонечна-мядовы колер бурштыну. Цёплы такі, прыемны.

### Паўтара мэтра на ўсю Эўропу

**"НН": Якімі іншымі карыснымі выкапнямі мы багатыя? Са школьнага курсу геаграфіі помняцца соль ды пясок...**

**П.С.:** Насамрэч Беларусь уваходзіць у дзясятку самых забясьпечаных рэсурсамі краінаў Эўропы. Увогуле, клясычны прыклад звышбагатай краіны — Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, дзе золата і плаціна залягаюць не самародкамі, а цэлымі плітамі. Плюс алмазныя россыпы. У Эўропе значныя рэсурсы маюць Нямеччына, Францыя, Польшча. Вядома, агромністая Расея. На іншых кантынэнтах — Бразылія, Канада, Кітай, Аўстралія. Сярод найбліжэйшых суседзяў — Украіна. Найвялікшае ж наша багацьце — гэта сапраўды соль. Па запасах калійнае ды кухоннае солі мы першыя на кантынэнце. Кухоннай, слоем у паўтара мэтра, усю Эўропу засыпаць можна. Мы ўваходзім у лік самых буйных экспарцёраў калійнай солі ў сьвеце, нароўні з Канадай і Расеяй. Маем вялізны запас пітной вады. Ёсьць дзясяткі мінэралізаваных крыніцаў. Апроч таго, мы маем унікальны комплекс будаўнічай сыравіны — жвір, гліну, пяскі, вапну, мел і г.д. Спадчына ледавіка. Няма практычна аніводнай іншай эўрапейскай краіны, дзе ўсё гэта ў такім багацьці было б прадстаўлена. Іншымі словамі, Беларусь гатовая да грандыёзнага будаўніцтва.

Яшчэ ў нас ёсьць радовішчы магнію, алюмініевай руды, тытан-цырконіевыя россыпы. Магніем мы можам забясьпечыць паўсьвету, бо гэта спадарожнікаў элемэнт у карналіце, што складае аснову нашых калійных радовішчаў. Беларуская зямля багатая на соду, сланцы, даламіт. Самае слабое наша месца — паліўныя рэсурсы. Ёсьць торф, буры вугаль, нафта, але няшмат.

Беларусь вырабляе ўсе тры віды мінэральных угнаеньняў — калійныя, азотныя і фосфарныя. Апошнія гатуюцца на гомельскім заводзе на апатытах з Кольскае паўвыспы, хоць можна было б рабіць гэта на сваіх фасфарытах. Дарэчы, ёсьць вельмі цікавая тэхналёгія іх здабычы зь беларускіх глыбіняў: у адпаведныя пласты запампоўваецца вада, і фасфарыты падымаюцца наверх разам зь ёй.

Яшчэ адзін карысны выкапень — расолы. Гэта палова пэрыядычнай сыстэмы, раствораная ў гарачым стане на глыбіні некалькіх кілямэтраў, рэсурс для індустрыі трэцяга тысячагодзьдзя — для электронікі, хіміі, біятэхналёгіяў. Будучыня геалёгіі — якраз у рэдкіх мэталах і матэрыялах, на якія дагэтуль асаблівай увагі не зьвярталі. А іх у Беларусі шмат: ледавік наваліў цэлыя горы. І матэрыялы тыя робяцца ўсё больш каштоўнымі, бо сьвет паступова адмаўляецца ад мэталу і аддае перавагу кераміцы, шклу, сынтэтыцы і нават такім простым рэчам, як пясок і гліна. А колькі зь існага яшчэ не разьведана!

### Вёскі ля Аколаўскага адсяляюць

**"НН": А жалезныя руды ці ёсьць?**

**П.С.:** У Беларусі адкрытае радовішча жалезістых кварцытаў — Аколаўскае на Меншчыне. Там пакуль нічога не здабываецца, але блізкія вёскі ўжо адсяляюць, рыюць кар'еры. Руды там беднаватыя ў параўнаньні з тымі, што ў Крывым Розе ды Курску, але ў нашых шмат розных дамешкаў, якія можна выкарыстоўваць комплексна.

**"НН": Як даўно былі адкрытыя беларускія магнітныя анамаліі?**

**П.С.:** Пасьля вайны, калі грунтоўна дасьледавалі ўсю тэрыторыю Беларусі. Сьвідравалі крышталічны фундамэнт, які ў цэнтры Беларусі падыходзіць блізка да паверхні. Там і шукалі зрудзяненьні — медзь, малібдэн, нікель.

**"НН": У якіх беларускіх рэгіёнах самыя багатыя нетры і дзе самыя пустыя?**

**П.С:** Найбагацейшае — Палесьсе, Гомельская і Берасьцейская вобласьці. Меншчына — гэта соль, пясок ды гліна. Гарадзеншчына і Магілёўшчына вылучаюцца мелавымі радовішчамі. Напэўна, самая бедная Віцебшчына.

**"НН": Цікава, ці багатыя карыснымі выкапнямі этнічныя беларускія землі ў суседніх дзяржавах?**

*Варта ў школах увесьці факультатыў па геалёгіі. Ведаць сваю зямлю ня менш важна, чым матэматыку*

**П.С.:** Тыя, што засталіся, — значна багацейшыя за страчаныя. Напрыклад, Смаленшчына ў сэнсе карысных выкапняў малацікавая. На Віленшчыне — хіба што да бурштыну бліжэй. У Польшчы этнічныя беларускія землі блізка падыходзяць да глябальнага тэктанічнага разлому, лініі Тэйсэйра-Торнквіста, якая геалягічна падзяляе Цэнтральную і Ўсходнюю Эўропу і праходзіць ад Балтыйскага да Чорнага мора. А там, дзе разлом, заўсёды мігруюць элемэнты і трэба шукаць нейкіх сюрпрызаў. Самая ж цікавая мяжа з Украінай. Мы мяжуем практычна па геалягічнай лініі Украінскага шчыта і беларускага Прыпяцкага прагіну. Украінцам дастаўся крышталічны фундамэнт, а нам — кілямэтры асадкаў, што лепш.

**"НН": Чарнобыльская зона, мусіць, таксама нябедная на рэсурсы? Ці можна там што-небудзь здабываць ва ўмовах радыяцыі?**

**П.С.:** Зона адхапіла кавалак багатага Прыпяцкага прагіну — гэта вялікая страта для геалёгіі. У прынцыпе, браць адтуль карысныя выкапні можна, яны няшкодныя, адно што гэта было б дужа шкодна для людзей, якія б там працавалі. Чарнобыльскія землі лепей было б зрабіць своеасаблівым палігонам для дасьледаваньня наступстваў ядзернай катастрофы. На гэтым, дарэчы, можна было б сур'ёзныя грошы мець. На адмысловыя экспэрымэнты з радыяцыяй ва ўсім сьвеце выкідаюцца мільёны даляраў.

**"НН": А золата пад намі шмат?**

**П.С:** Патроху яно ёсьць амаль паўсюдна. Застаецца знайсьці яго дзе-небудзь у прамысловых колькасьцях. Дарэчы, там, дзе ёсьць золата, добра расьце кукуруза. Беларускае золата ўсё ў жвіры й пяску, россыпамі, бываюць самародачкі да паўсантымэтра, як кулі ад дробнакалібравай вінтоўкі. Золатаздабыча пакуль — фактычна ручная праца. Мэтазгодна шукаць золата на Меншчыне, нават пад самім Менскам, дзе багата нарылі пясчаных кар'ераў.

**"НН": А што з алмазамі? Ёсьць жа цэлая дзяржаўная праграма па іх здабычы, а гомельскі алмазны завод "Крышталь" працуе збольшага з расейскай сыравінай.**

**П.С.:** Каб забясьпечыць працай "Крышталь", трэба наладзіць у Беларусі буйную прамысловую здабычу, аднак у найбліжэйшыя гады наўрад ці ўдасца выйсьці на такі ўзровень. Хоць бы таму, што няма значных інвэстыцыяў. Адна аўстралійская фірма была зацікавілася беларускімі алмазнымі радовішчамі (яны па структуры адпавядаюць аўстралійскім), але супрацоўніцтва не наладзілася. Мо расейцы націснулі? Асноўныя пошукі алмазаў вядуцца сёньня ў Жлобінскай седлавіне. Ёй і цікавіліся аўстралійцы.

### Сьвідравіны забілі глінаю

**"НН": Ці былі яшчэ нейкія выпадкі ўмяшаньня Расеі ў нашыя "геалягічныя справы"?**

**П.С.:** Так. У 70-я, калі беларусы здабывалі па 7—8 мільёнаў тон нафты ў год і пачалі выходзіць на самазабесьпячэньне, кажуць, прыехалі спэцыялісты з Масквы і загадалі гэтыя сьвідравіны на Палесьсі пад Рэчыцай гліністымі растворамі забіць. Маўляў, лягчэй і таньней здабываць нафту ў Заходняй Сібіры. Раскансэрваваць гэтыя забітыя глінай сьвідравіны зараз немагчыма. Другая гісторыя — пра пошукі ўрану на Палесьсі. Нібыта знайшлі, але вынікі тых разьведак засакрэчаныя: шукала маскоўская партыя, а ня нашыя геолягі.

Стэрэатып, што ў нас карысных выкапняў няма, — ад недахопу геалягічнае адукацыі. Я думаю, сёньня варта нават у школах уводзіць хоць бы які факультатыў па геалёгіі. Ведаць беларускую зямлю ня менш важна, чым матэматыку. Бо нас Бог з гэтае зямлі стварыў. І хімічныя элемэнты, і вада зь беларускае глебы падчас абмену рэчываў фармуюць нашае цела. А ўвогуле, Беларусь мае дастаткова рэсурсаў, каб забясьпечваць сябе і сёе-тое экспартаваць, зарабляючы немалыя грошы. Беларуская зямля — грунт і для гаспадаркі, і для нацыянальнай ідэі, і для палітыкі.

**Гутарыў Ігнат Чакацкі**

# Краіны-



**Слынным прыкладам раптоўнага ўзбагачэньня зьяўляюцца краіны Арабійскага паўвострава - Саудаўская Арабія, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Кувэйт.** Яшчэ на пачатку 50-х па гэтых пясчаных тмутараканях вандравалі толькі бэдуіны на сваіх "караблёх пустыні". Усё памянялася пасьля таго, як у 1958 г. на ўзьбярэжжы паўвострава знайшлі радовішчы нафты.

**Да пачатку XX ст. Нарвэгія была малазнаным ускрайкам Дацкага каралеўства,** пад уладай якога яна знаходзілася колькі стагодзьдзяў. Нават пасьля дасягненьня поўнае незалежнасьці яна заставалася небагатай краінай маракоў, рыбакоў і лесарубаў без развітой прамысловасьці. Але нечакана ў 1960-я на нарвэскім шэльфе знайшлі паклады нафты й газу. Нарвэжцаў гэта не агаломшыла: яны не пачалі кідаць грошы налева-направа, а правялі рэфэрэндум, як лепш імі скарыстацца. Вырашылі пакінуць нафтагазавае багацьце ў дзяржаўным уладаньні, а палову прыбытку ад продажу энэрганосьбітаў адкладаць у адмысловы фонд будучых пакаленьняў, якім паліва не хопіць. Паловы прыбыткаў хапае, каб забясьпечыць 4-мільённаму насельніцтву краю самы высокі ўзровень жыцьця ў Паўночнай Эўропе.

**У Вэнэсуэле нафту шукалі ў часы першае сусьветнае вайны, бо верылі, што яна ёсьць.** Але ніхто не чакаў, што яе будзе гэтак шмат. Імгненнаму ўзьлёту спрыяла адмысловае нафтавае заканадаўства, прынятае дыктатарам Гомэсам, якое гарантавала правы замежных уласьнікаў і нізкія экспартныя пошліны на сыравіну. Замежныя кампаніі не марудзілі, разгортваючы сваю дзейнасьць, — у выніку праз восем гадоў здабыча нафты вырасла ў 139 разоў, дасягнуўшы ў 1928 г. 139 мільёнаў барэляў (другое месца ў сьвеце). Вэнэсуэла ператварылася ў "вітрыну" Лацінскае Амэрыкі. Хаця прамысловым гігантам краіне стаць не ўдалося, бо Гомэс пры-

# Гандаль трупамі па-польску

**Гэты скандал ужо каторы тыдзень не сыходзіць зь першых палосаў польскіх газэтаў. У "хуткай дапамозе" Лодзі больш за дзесяць гадоў гандлююць трупамі памерлых пацыентаў. Хто прадае? Дактары, санітары, кіроўцы санітарных машынаў і дыспэтчары. Хто купляе? Пахавальныя бюро гораду Лодзь. Цела памерлага ў "хуткай" называюць "скурай". За адну "скуру" сёньня плацяць 1200—1800 злотых. Кіраўнік лодзкай "хуткай" пацьвердзіў факт гандлю людзкімі трупамі, апісаны журналістамі радыё "Лодзь" і *Gazety Wyborczej*. "Гэта для мяне жудасна, але першыя крокі па ліквідацыі гэтай зьявы ўжо зробленыя. Не хачу болей размаўляць на гэтую тэму. Няма роду без выроду", — сказаў дырэктар "хуткай" Багуслаў Тыка.**



## Як цела стала "скурай"

Уладзімер Сумэра на мяжы 80—90-х працаваў у "хуткай дапамозе" санітарам. Пра гандаль "скурамі" Сумэра ведае бадай усё:

— Гэта ж я прыдумаў дамаўляцца з "хуткай", каб браць у іх "скуры". Сем'і памерлых гадзінамі чакалі, пакуль прыедзе машына зь дзяржаўнай установы і забярэ цела ў трупярню. А час мяняўся, і я падумаў, што тут можна рабіць бізнэс. Купіў мікрааўтобус, раздаў у "хуткай" візытоўкі. Сказаў, каб тэлефанавалі мне, калі будзе што перавозіць. Але нашых магчымасьцяў не ставала — мы не спраўляліся з колькасьцю замоваў. Напачатку мне тэлефанавалі з "хуткай" як калегу. Я аддзячваў сьпярша гарэлкай: вазіў яе ў "хуткую" скрынкамі... Ня мы былі першыя. Калі заплацілі канкурэнты, я прапанаваў хлопцам што-небудзь купляць для "хуткай": тэлевізар, якую-небудзь тахту, коўдры. Адказалі: толькі гатоўкай. І цела хутка сталася "скурай", таварам на продаж. Хадавым таварам.

Які шлях ад выкліку "хуткай" да продажу "скуры"?

Тэлефанаваньне прымае дыспэтчар. Па выніках размовы ён мусіць ацаніць стан пацыента, вызначыць, ці трэба высылаць машыну і якую: для перавозкі (бяз доктара, толькі з кіроўцам і санітарам), для дапамогі на месцы (з доктарам, кіроўцам і санітарам) ці спэцыяльную (дадаткова з мэдсястрой — такі калектыў звычайна высылаецца, калі існуе пагроза жыцьцю). Задача дыспэтчара — выбраць адпаведны тып і тую машыну, што даедзе да пацыента найхутчэй.

Калі пацыент памірае, доктар мусіць пацьвердзіць сьмерць, запоўніць дакумэнты — дыягназ, пасьведчаньне пра сьмерць — і вярнуцца ў машыну. А сям'я застаецца сам-насам з праблемай: паводле санітарных нормаў, цела ня можа ляжаць дома. Яго трэба завезьці ў трупярню, дзе яно застанецца да дня пахаваньня. Сям'я мусіць затэлефанаваць у абраную пахавальную кантору, якая завязе цела ў трупярню.

Мала хто загадзя рыхтуецца да сьмерці блізкага чалавека, таму вельмі важна, каб пахавальнае бюро хутка выставіла рахунак. З такім рахункам можна ісьці ў дзяржаўную службу па дапамогу на пахаваньне (на сёньня больш за 4000 злотых, г.зн. 1000 даляраў) і ўжо з грашыма займацца далейшымі фармальнасьцямі ў фірме й на могілках.

І ўсё.

Хіба тут можна прадаць "скуру"? Можна. Бо ані ў кога няма пад рукой тэлефонаў пахавальных бюро. Анікому па сьмерці блізкага чалавека не прыходзіць у галаву цікавіцца цэнамі, параўноўваць якасьць паслуг. Шмат хто наагул ня ведае, што рабіць. А труп трэба перавезьці. Доктар (санітар, кіроўца) можа даць тэлефон фірмы. І нават адразу затэлефанаваць туды.

Продаж "скураў" хутка стаў добрым бізнэсам. На ім хацелі зарабляць і дыспэтчары — нефармальна дамаўляліся з мэдычным пэрсаналам: я першы дазнаюся пра сьмерць і высылаю тваю машыну па "скуру".

## Два сумныя спадары з паперамі

Доктар ня кажа сям'і, што прыедзе пахавальная фірма X. Бо сваякі могуць быць супраць. Ён кажа: зараз прыедзе машына і забярэ памерлага. Для сярэдняга пэнсіянэра гэта працяг "хуткай". А потым прыходзяць два сумныя спадары. Яны не прадстаўляюцца, а толькі кажуць: просім падпісаць дакумэнты. Няма людзей, якія ў такі момант чытаюць паперкі. І толькі на другі дзень яны бачаць, куды ім трэба прыехаць, каб скончыць фармальнасьці, — ня ў "хуткую", а ў пахавальную кантору.

Шырока распаўсюджаная практыка — атрыманьне дапамогі на пахаваньне прадстаўніком пахавальнай фірмы на падставе пісьмовага дазволу сваякоў. Уласна, гэта адзін з дакумэнтаў, якія сваякі падпісалі "двум сумным спадарам".

Сваякі ня маюць выйсьця, бо фірма падрыхтавала ўсе дакумэнты і ўзяла ў дзяржаўнай службе грошы. А людзі й не заўважылі, што падпісалі згоду на арганізацыю пахаваньня, а калі адмовяцца, дык заплацяць штраф. І яны ўжо ня хочуць спрачацца...

## 1800 за "скуру". Хто болей?

Фірма атрымлівае ад дзяржавы 4000 злотых на дапамогу для пахаваньня (стаўка 2001 году). Чым больш трэба плаціць за цела "хуткай", тым меншы прыбытак. Але, калі ўздымалася стаўкі "хуткай", фірмы ўздымалі плату за пахаваньне.

Працяг на старонцы 13.

**НАЧАЛЬНІК ГАЛОЎНАЙ УПРАВЫ ЛЯЧЭБНА-ПРАФІЛЯКТЫЧНАЙ ДАПАМОГІ МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДАР ЦЫБІН зазначыў, што ў нас падобных справаў не было. Але дадаў, што ў прынцыпе скандал вакол павулёну не зусім дарэчны. Бо кожныя лекі могуць стаць атрутай, а атрута — лекамі. Галоўнае — доза. Рэакцыяй нават на звычайныя лекі можа стаць анафілактычны шок. Таму трэба весьці гаворку не пра лекі, а пра ступень прафэсіяналізму. І, вядома, пра этычныя нормы.**

**— А якія меры існуюць для стрыманьня падобных злачынстваў, апрача этычных нормаў?**

**— На выклікі заўжды выяжджае брыгада, а не адзін доктар. Да таго ж сытуацыя абмяркоўваецца на месцы са сваякамі хворага. У нас існуюць стандарты аказаньня дапамогі, своеасаблівая падстрахоўка: і сам хворы, і ягоныя сваякі могуць спытацца пра лекі, якія ўводзіць доктар. Дый на месцы, у кватэры, застаецца "тара" ад лекаў, якія ўводзілі хвораму.**

**ПРЭСАВЫ САКРАТАР ГЕНЭРАЛЬНАЙ ПРАКУРАТУРЫ БЕЛАРУСІ АЛЯКСЕЙ ТАРАНАЎ катэгарычна заявіў, што ў Беларусі падобных справаў у Беларусі не вяла.**

**СЮЖЭТ РАМАНУ ЮР'Я СТАНКЕВІЧА "Зьбіральнік страху" закручаны вакол выкраданьня органаў. Станкевіч — прызнаны лідэр чорнага жанру ў беларускай літаратуры. Мы пацікавіліся, ці не беларускія рэаліі далі пісьменьніку глебу для напісаньня твору і ці ня сутыкаўся доктар-пісьменьнік Станкевіч у сваёй практыцы з выпадкамі, падобнымі да польскага. Ад адказу Юры Станкевіч ухіліўся, не жадаючы раскрываць сакрэты сваёй творчасьці. А пра цяперашні польскі скандал пісьменьнік пачуў толькі ад "НН".**

# Беларуска была ўдзельніцай "Аль-Кайды"?

**Жонка аднаго з удзельнікаў "Аль-Кайды" была беларускаю, што перайшла ў іслам.**

У лістападзе ў Гамбургу (Нямеччына) арыштавалі мараканца Муніра аль-Матасадэка. Гэты чалавек вёў фінансавыя справы лётчыкаў-камікадзэ, якія зьнішчылі 11 верасьня Сусьветны гандлёвы цэнтар у Нью-Ёрку. Жонка Матасадэка — беларуска. Пра гэта пішуць нямецкія СМІ.

Нямецкія спэцслужбы высьвятляюць, ці ня ўдзельнічала й нашая суайчыньніца ў дзейнасьці тэрарыстычнае арганізацыі. Сьледчыя не выключаюць гэтага, бо яна ўвесь час знаходзілася ў асяродку змоўшчыкаў. Ейны муж быў найлепшым сябрам кіраўніка камікадзэ Мухамада Аты. Менавіта Матасадэк запісаны сьведкам ягонага завяшчаньня.

Ата і шэраг камікадзэ вучыліся ў Тэхнічным унівэрсытэце Гамбург-Гарбург і жылі побач — на Марыенштрасэ, 54. У будынку ж мэтраў праз сто, на Гёшэнштрасэ, кватаравала сям'я Матасадэка.

Наша суайчыньніца N. пазнаёмілася з будучым мужам падчас супольнае вучобы ва ўсё тым жа Тэхнічным унівэрсытэце. Аднакурсьнікі апісваюць яго як хударлявага, негаваркога, задумлівага чалавека.

Яго беларуская жонка таксама была, па сьведчаньнях суседзяў, сьціплым чалавекам. Колькі год таму яна перайшла ў іслам, і яе ніколі ня бачылі без абавязковае хусткі.

Жылі яны ціха, мала кантактавалі з суседзямі. Нядаўна ў іх нарадзілася дачка. Пасьля атакі на Амэрыку Матасадэк сам зьявіўся ў паліцыю і прызнаўся, што быў сябрам камікадзэ.

**Сяргей Рак**

# папялушкі

сабечваў прыбыткі і ўкладваў капітал толькі ў лёгкую прамысловасьць, вэнэсуэльцы амаль не адчулі на сабе наступстваў эканамічнага крызысу 1929 г. Аднак выкарыстаць сваё шчасьце напоўніцу яны ня здолелі. Сёньня ў Вэнэсуэлы нямала праблемаў.

На абшарах колішняга СССР падобнае можна бачыць на прыкладзе **Туркмэністану**, што ад сярэдзіны 90-х, дзякуючы разьведцы новых і распрацоўцы старых газавых радовішчаў ня мае больш бяды з эканомікай. Дэмакратыі там няма, туркмэны ідуць па арабскім шляху разьвіцьця. Затое Туркмэнбашы вызваліў людзей ад аплаты за камунальныя паслугі — палі сьвятла колькі хочаш.

**"Залатая ліхаманка" ахапіла ў 1848 г. пустэльную й дзікую Каліфорнію таксама зьнянацку. Гэтаксама было з "дыямэнтавай ліхаманкай" ў Паўднёвай Афрыцы**. Да таго, як у 1880-я у гэтым краі пачалі здабываць дыямэнты, там жылі адно мясцовыя плямёны ды жменька белых фэрмэраў. Хто мог прадбачыць заможную будучыню таго краю? Між тым цяпер Паўднёвая Афрыка — рэгіянальная супэрдзяржава.

Багацьце могуць прынесьці ня толькі нафта ці золата. **Бразыльская Амазонія зьдзівіла ўсіх сваім росквітам пасьля таго, як у сьвеце з-за імклівага разьвіцьця тэхнічнага прагрэсу пачала расьці патрэба ў каўчуку, які атрымлівалі з бразыльскай гевэі.** За лічаныя гады пасярод джунгляў паўстаў помнік таго росквіту — горад Манаўс, што за часамі "каўчукавага шчасьця" нічым не саступаў эўрапейскім сталіцам. Але казка доўжылася толькі тры дзесяцігодзьдзі да 1910 г., пакуль у бразыльскай Папялушкі ня скралі ейны скарб. Шпег выкраў насеньне, і гевэю пачалі вырошчваць у Маляйзіі. Грошы лёгка прыйшлі і гэтаксама сышлі. Сёньня Манаўс больш не супернік Парыжу.

**Нешта падобнае адбылося й з Чылі, якое нажылося на салетры.** Гэтае ўгнаеньне знайшлося ў пустыні Атакама нечакана. За некалькі месяцаў да знаходкі чылійцы пагадзіліся аддаць той кавалак зямлі суседнім Пэру і Балівіі. Але вельмі хутка сьцямілі, што губляюць, і распачалі Ціхаакіянскую вайну (1879—83) за багатыя салетрай землі. Чылі хаця й аддало здабычу салетры ў замежныя рукі, усё ж добра зарабіла на гэтым скарбе.

Хто ведае, што стане скарбам заўтра?

**Сяргей Радштэйн**

## навіны за тыдзень

### Быкаў пакуль ня вернецца

**Газэта *Frankfurter Rundschau* напісала, нібыта Васіль Быкаў 15 красавіка вяртаецца ў Беларусь.** Аднак насамрэч пісьменьнік не сьпяшаецца на радзіму. Хоць 15 красавіка тэрмін ягонай нямецкай візы канчаецца, ён спадзяецца знайсьці альтэрнатыву вяртаньню, заявіў ён у інтэрвію радыё "Свабода". Цяпер Быкаў працуе над сваімі мэмуарамі.

### Палякі ўводзяць візы

**Беларусы змогуць езьдзіць у Польшчу бязь візаў толькі да лета 2003 г., паведамляе *Gazeta Wyborcza*.** Увядзеньне Варшавай візаў для ўсходніх суседзяў — умова ўступленьня Польшчы ў Эўразьвяз. Чэхія і Вугоршчына ўжо ўвялі візы. Дарэчы, у 2000 г. беларусы наведвалі Польшчу 5,9 млн. разоў, расейцы — 2,75 млн. разоў, а ўкраінцы — 6,1 млн. разоў. За той самы час польскія консульствы па ўсім сьвеце выдалі ўсяго 185 тыс. візаў.

### На чарзе Садам

**Амэрыканскія войскі перадыслякуюцца ў Бахрэйн, Кувэйт, Катар і Саудаўскую Арабію для ўдзелу ў апэрацыі супраць Іраку.** ЗША маюць цьвёрды намер зьнішчыць рэжым Хусэйна ўжо ў сакавіку, нават калі Масква будзе катэгарычна супраць. Калі ж Расея падтрымае акцыю, яна атрымае паўнапраўнае членства ў *NATO* з правам вэта па максымальна шырокім коле пытаньняў.

### Новыя дэталі гібелі "Курску"

**У ходзе сьледзтва ўстаноўлена, што на падводнай лодцы "Курск" падчас крушэньня ўзарваліся ня менш за чатыры тарпэды.** З фрагмэнтаў, сабраных з дна, нават удалося вызначыць, якая менавіта тарпэда і ў якім тарпэдным апараце ўзарвалася першай. Пошукі пад вадой працягваюцца.

### Затрымалі Лжэпуціна

**У мінулы чацьвер невядомы мужчына на аўтамашыне ВАЗ-2110 спрабаваў праехаць праз Баравіцкую браму Крамлю, назваўшыся пры гэтым прэзыдэнтам Расеі.** Парушальнік быў затрыманы супрацоўнікамі Фэдэральнай службы аховы і дзяржаўтаінспэкцыі. Ім аказаўся жыхар вёскі Пагост Уладзімерскай вобласьці. Пасьля затрыманьня ён быў накіраваны на агляд у маскоўскую псыхіятрычную больніцу №17.

### "Рухнама" замест Карану

**Прэзыдэнт Туркмэністану Сапармурат Ніязаў распрацаваў новы арыгінальны спосаб падрыхтоўкі вайскоўцаў:** палова дня павінна прысьвячацца трэніроўкам і фізычным практыкаваньням, некалькі гадзін — догляду быдла і вырошчваньню бавоўны, а рэшта часу — вывучэньню духоўнага наказу туркмэнскаму народу — кнігі "Рухнама", напісанай Ніязавым летась. Прэзыдэнт сам называе кнігу духоўным наказам, але пазьбягае параўноўваць яе зь Біблíяй ці Каранам.

### Нарадзіла шасьцярых

**Жыхарка партугальскага гораду Мадэйра 31-гадовая Ідаліна Сантуш нарадзіла шасьцярню дзяцей** — трох хлопчыкаў і трох дзяўчынак. Важаць навародкі мала — ад 408 да 563 грамаў.

### Выкралі Біблію

**Урад Вугоршчыны пастанавіў зрабіць больш жорсткімі меры мытнага кантролю** ў сувязі зь нядаўнім выкраданьнем з царквы ў мястэчку Віцзолі найрадчэйшага экзэмпляру надрукаванай у канцы XVI ст. Бібліі. Выкрадзеная Біблія — першая перакладзеная на вугорскую мову.

### Аўганскія музыканты атрымаюць інструмэнты

**Індыйскі ўрад паслаў у Аўганістан набор музычных інструмэнтаў, каб можна было паўнавартасна выконваць нацыянальны гімн краіны.** У час панаваньня талібаў большасьць музычных інструмэнтаў у краіне была зьнішчана. Адна з вэрсій нацыянальнага гімну была запісана летась, аднак праз адсутнасьць неабходных інструмэнтаў якасьць яе была вельмі нізкай.

**Паводле Інтэрнэту**

# Радасьць хакеістаў, гора лыжнікаў

Працяг са старонкі 1.

Найлепшым сярод беларусаў быў Вадзім Сашурын — заняў 9-е месца. Ён на чатырох агнявых рубяжах не зрабіў ніводнага промаху, але праехаў дыстанцыю за 52.52,6. А вось Аляксей Айдараў быў сямнаццатым: трасу прайшоў за 51 хвіліну 25 сэкундаў, але ў мішэнь не пацэліў тры разы. Беларусы нібы дапаўняюць адзін аднаго ў біятлёне: Сашурын добра страляе, але слабавата бегае, Айдараў, наадварот, добра бегае, а страляе горай. Тое самае ў Рыжанкова. Магчыма, такі зборны беларускі камбайн дасьць плён у мужчынскай эстафэце ў наступную сераду.

А беларускі-біятляністкі вызначыліся скандалам. Перад гонкай на 15 км расейская дэлегацыя выказала пратэст з нагоды ўключэньня ў беларускі стартавы склад Яўгеніі Куцапалавай і Алены Хрусталёвай. Выявілася, што дамова між беларускай і расейскай фэдэрацыямі біятлёну на пераезд спартовак у Беларусь існуе толькі на словах і юрыдычна не аформленая. Расейцы заявілі, што апратэстуюць вынікі, калі "новыя беларускі" выйдуць на старт. А гэта пагражала б штрафам і ўвогуле зьняцьцем беларускіх біятляністаў з гульняў. Беларусы вырашылі не выпрабоўваць лёсу і зьнялі дзяўчат са стартавага ліста, выклікаўшы з запасу Людмілу Ананка. Тая нават не даехала да фінішу, сышла з дыстанцыі.

Найлепшай сярод беларусак была Вольга Назарава (6-е месца), якая прайграла алімпійскай чэмпіёнцы зь Нямеччыны Андрэа Хенкель (47.29,1) роўна адну хвіліну. Другое месца заняла нарвэжка Ліў Грэт Пуарэ. Трэцяе месца ў Магдалены Форсбэрг са Швэцыі. Ксеня Зікункова – на 38-м месцы, Людміла Лысенка – на 51-м.

Скандал з Куцапалавай і Зікунковай быў не адзінай праблемай на Алімпіядзе. 10 лютага беларускія фрыстайлісты трапілі ў аварыю. Зьміцер Дашчынскі, Аляксей Грышын і Зьміцер Рак вярталіся з трэніроўкі ў алімпійскую вёску на мікрааўтобусе "Шэўрале". За рулём была жанчына-валанцёр, расейка зь пяцігадовым стажам ваджэньня. На васьміпалоснай шашы другі мікрааўтобус "падрэзаў" "Шэўрале". Машыну з нашымі спартоўцамі разьвярнула і вынесла на сустрэчную паласу.

Дзякуй богу, усё абышлося, ніхто не пацярпеў. Жанчына-валанцёр кінулася на машыне ў пагоню за парушальнікам, які ехаў з хуткасьцю амаль 200 км/г. Гнаўся за ім і таксіст, што ў момант аварыі ехаў за машынай беларускіх спартоўцаў. Ён выклікаў паліцыю па рацыі, і тая, узьняўшы колькі шрубалётаў, затрымала парушальніка. Гэта быў 35-гадовы мужчына, які ня меў правоў на ваджэньне аўтамабіля. Яго прывезьлі ў алімпійскую вёску, дзе ён плакаў і прасіў прабачэньня. Завялі справу.

Шэф беларускай місіі Яраслаў Барычка зьвярнуўся да амэрыканскага боку з просьбай замяніць пашкоджаны аўтамабіль, бо ўвесь левы бок машыны быў зьмяты. Арганізатары адмовіліся. Тады Барычка жартам прапанаваў выбраць: ці ён ідзе да прэзыдэнта ЗША, ці аб'яўляе галадоўку. Амэрыканцы спужаліся, і праз 30 хвілінаў у беларускіх фрыстайлістаў быў новы аўтамабіль, а шэфу беларускай місіі ўрачыста ўручылі ключы.

Быў скандал і з харчаваньнем біятляністаў. Трэнэры вырашылі дзеля зручнасьці перавезьці нашых спартоўцаў з алімпійскай вёскі бліжэй да месца спаборніцтваў. Амэрыканцы далі на гэта згоду, паабяцаўшы забясьпечыць добрай ежай. Але далей за абяцаньні справа не пайшла: беларусаў колькі разоў кармілі выключна супамі, кавай і бутэрбродамі. Каб нармальна харчавацца, давялося плаціць. Грошы дало беларускае пасольства ў ЗША па асабістым распараджэньні міністра замежных справаў Міхаіла Хвастова

Зараз беларусы рыхтуюцца да пазасталых дысцыплінаў біятлёну і да фрыстайлу. У апошнім яны маюць рэальныя шанцы. Кваліфікацыя фрыстайлу будзе ў суботу. Фіналы ў жанчынаў — у панядзелак, у мужчынаў — у аўторак.

Далейшы расклад матчаў беларускай хакейнай дружыны такі (час беларускі):

| | |
|---|---|
| Пятніца, 15 лютага. | |
| Беларусь—Расея. | 20.00 |
| Нядзеля (раніца), 17 лютага. | |
| Беларусь—Фінляндыя. | 5.45 |
| Панядзелак, 18 лютага. | |
| Беларусь—ЗША. | 20.00 |

У любым выпадку, нашыя будуць гуляць у чвэрцьфінале. Згодна з правіламі, каманда, што зойме чацьвертае месца ў групе "D", згуляе зь першай камандай групы "C", трэцяя каманда групы "D" — з другой камандай "C" і г.д.

Калі беларусы зоймуць чацьвертае месца ў сваёй групе, яны будуць гуляць 20 лютага (серада) у 20.00 па менскім часе, калі другое месца — у 22.00, калі трэцяе месца — у 1.00, калі першае месца — у 5.15 раніцы, ужо 21 лютага.

**Э.Л.**



REUTERS

Андрэй Расолька

## ц ы т а т а   т ы д н я



"Канечне, не ў пахвалу нам будзе сказана, але ж тут у адной мясцовай газэце пісалі, што, калі б не тлумачэньні камэнтатараў, простаму гледачу было б незразумела, што адбываецца на арэне. Ну і сапраўды, вось скажыце, што б гэта магло значыць..."

**Уладзімер Навіцкі падчас трансьляцыі тэатралізаванай часткі ўрачыстага адкрыцьця Алімпійскіх гульняў у Солт-Лэйк-Сыты.**

# Малышамманія

**У Польшчы за яго хварэе кожны. Не было яшчэ спартоўца, які б абуджаў такія адназначна цёплыя пачуцьці. Але ж праз радасны вэрхал віншаваньняў відаць: ад Ма́лыша чакалі большага, чым проста бронзы. Занадта абнадзеіў ён, апярэдзіўшы ў Закапаным напярэдадні Алімпіяды свайго галоўнага канкурэнта Свэна Ганавальда, занадта закахаў у сябе, пацалаваўшы на каленях пасьля той перамогі закапанскі сьнег. Тады Польшча вярнула сабе надзею, галоўную надзею Алімпіяды, калі не адзіную...**

А надоечы алімпійскія камэры толькі мелькам захапілі, як пры аб'яўленьні першага месца швайцарца Сымона Амана польскія заўзятары пачалі расчаравана згортваць сьцягі. Супрацьстаяньне двух майстроў стала настолькі звыклым, што зьяўленьне трэцяй асобы было ўспрынята як недарэчнасьць. "Золата швайцарца — гэта крыху неспадзяванка, — зьбянтэжана тлумачыў Адам Малыш, — але пэўна польскія заўзятары задаволеныя, бо ж ня немец выйграў".

20-гадовы Сымон Аман — сэнсацыя гэтых Алімпійсікіх гульняў. У мінулым сэзоне ён займаў месца у трэцяй дзясятцы, а сёлета насуперак усім прагнозам нечакана вырваўся ў лідэры. На цырымоніі ўзнагароджаньня ён ажно скакаў на п'едэстале.

Тым ня менш, Польшча трыюмфуе, а журналісты не шкадуюць эпітэтаў. Бронза Малыша — гэта хоць і не журавель у руках, а ўсё ж першы мэдаль палякаў на зімовай Алімпіядзе пасьля доўгага перапынку. "Гэтай хвіліны я чакаў 30 гадоў", — кажа залаты прызёр Алімпіяды 1972 г. у скачках з трампліну Войцех Фартуна. Малыш цяпер — самы папулярны спартовец



REUTERS

Польшчы. 12,5 мільёна палякаў, або 72% тых, хто гэтым часам глядзеў тэлевізар, — траціна дарослага насельніцтва краю — сачылі за палётамі Малыша па тэлебачаньні.

Польскі прэзыдэнт Аляксандар Квасьнеўскі ў сваёй віншавальнай тэлеграме Малышу паспрабаваў выказаць погляды і тых, хто лічыць трэцяе месца Малыша няўдачай, і тых, для каго гэта посьпех: "Віншую з заваёвай бронзавага мэдаля. Дзякую за ўсё, што мы змаглі перажыць дзякуючы Вам. Наперадзе — чарговыя спаборніцтвы. Мэдалі чакаюць..."

І вось учора Малыш заняў другое месца ў скачках з 120-мэтровага трампліну! А першы — зноў Аман.

**Андрэй Чык**

## Буш на дроце

**На ўрачыстым адкрыцьці гульняў амэрыканская фігурыстка Саша Коэн апынулася на трыбуне поба́ч з Джорджам Бушам.** Зрэагавала дзяўчына імгненна: дастала з кішэні сотавік і набрала нумар сваёй маці: "Мама, хочаш пагаварыць з прэзыдэнтам?". Ахова чухала патыліцы, а Буш хвіліну добрасумленна размаўляў з маці фігурысткі.

## Легенда Юты

**Гарналыжная траса ў Сноўбэйсыне названая ў гонар мядзьведзя-грызьлі, які з 1911 па 1923 г. тэрарызаваў мясцовых фэрмэраў.** За 13 гадоў трохмэтровы Стары Эфраім зарэзаў некалькі сотняў авечак, пакуль аднойчы паляўнічыя не здагналі грызьлі і шасьцю стрэламі забілі яго.

## Проці Цупер будзе ня Купэр

**Галоўная суперніца беларускай фрыстайлісткі Алы Цупер аўстралійка Джэкі Купэр зламала 11 лютага нагу.** Яна на трэніроўцы спрабавала зрабіць акрабатычны скачок у тры абароты, але няўдала прызямлілася. Фрыстайлісткі пачынаюць спаборніцтвы 16 лютага, фінал — у панядзелак 18-га.

**Паводле Інтэрнэту**

# 19-даляравая мыльная опэра

## *Плюс чатыры тысячы дробязяў пра нутро сучаснага спорту і эстрады*

**Імя чатырохразовай алімпійскай чэмпіёнкі Вольгі Корбут апошнімі днямі мільгаціць на стужках навінаў. Былая зорка сусьветнай гімнастыкі спрабавала пакінуць супэрмаркет з прадуктамі на суму 19 даляраў, абвінавачвае амэрыканская паліцыя. Сума па амэрыканскіх мерках мізэрная (Корбут жыве ў ЗША з 1991 г., а выехала туды дзякуючы дапамозе беларускай эміграцыі). Сама яна тлумачыць, што забылася грошы ў машыне і выйшла па іх, каб вярнуцца і расплаціцца.**

Да судовага паседжаньня Вольгу Корбут выпусьцілі пад заклад 600 USD. Але за пару дзён скандал разгарэўся далей: у доме, за які Вольга Корбут і ейны сын Рычард запазычыліся банку, былі знойдзеныя фальшывыя 4000 USD стодаляровымі купюрамі. Спартоўка гаворыць, што яна не зьяўлялася ў доме даўно і пра гэтыя купюры ня ведае...

Былы муж Лявон Барткевіч характарызуе Вольгу вельмі станоўча ("сумленны й цудоўны чалавек") і ня верыць у ейную віну. (Цяпер Корбут замужам за амэрыканцам, былым менчуком.)

Прадстаўнікі беларускай эміграцыі не схацелі даваць камэнтароў з гэтай нагоды радыё "Свабода": дапамагалі гэтым людзям, але цяпер успамінаць ня хочам. А не адных такіх Барткевічаў "вывезьлі" нашы добрае душы эмігранты за акіян на пачатку 90-х!

Уладальнік гімнастычнай школы Дэвід Дэй, які ў 1991 г. запрасіў Корбут на працу ў Атланту, зазначыў, што на гімнастку паўплывала жорсткасьць савецкай спартовай машыны. Гэтая жорсткасьць і сфармавала ейныя погляды на жыцьцё. Таму яна, маўляў, лічыць, што "ёй усе абавязаныя".

З гэтай думкай лёгка пагадзіцца, бо прафэсійная жаночая гімнастыка даўно выклікае гарачыя спрэчкі: надта ж адмоўна ўплывае традыцыйная мэтодыка заняткаў на няўстойлівую дзіцячую псыхіку. А выступаюць жа на спаборніцтвах (прыгадайце!) дзяўчаткі 14—15 гадоў: 17—18-гадовыя лічацца ўжо "старымі".

Можа, якраз у гімнастыцы і хаваюцца карані цяперашняга скандалу? Беларускі настаўнік Вольгі Корбут, заслужаны трэнэр СССР Рэнуальд Кныш у інтэрвію "Белорусской газете" не адмаўляў, што яго выхаванка магла зьдзейсьніць дробнае злачынства. Кныш нават намякае на тое, што Корбут — непапраўная клептаманка і расказвае пра падобныя выпадкі яшчэ з тых часоў, калі яна была школьніцай. Маўляў, ён ведаў пра гэтую ейную загану і пільнаваў увесь час, каб не нашкодзіла. Кныш моцна пакрыўджаны на былую выхаванку: у сваіх амэрыканскіх мэмуарах яна нібыта выставіла яго дурнем, алькаголікам, садыстам, які біў яе, каб дабіцца выкананьня сваіх трэнэрскіх установак.

Барткевіч сабраў у Менску спэцыяльную прэс-канфэрэнцыю, каб заявіць пра сумленнасьць былой жонкі. На сустрэчы з журналістамі ён паведаміў, што Вольга ўсё жыцьцё цярпела за сваю шчырасьць, а трэнэр Кныш быццам бы прыставаў да Вольгі і іншых гімнастак, калі працаваў зь імі. Нібыта за гэта Кныша і адхілілі ад працы. Экс-муж прывёў таксама прыклад, як у 1972 г. Корбут абвінавацілі ў крадзяжы, але ў выніку высьветлілася, што грошы Вользе падкінула канкурэнтка за права ўвайсьці ў алімпійскую каманду. Са словаў Барткевіча, яны з Корбут "пражылі разам 22 гады, але я люблю маладзенькіх". У гэтым нібыта і прычына іхнага разводу.

Дзіка гэта ўсё...

"Я думаю, што інцыдэнт з Корбут вельмі сумны, — сказала Шэнан Мілер, якая дапамагла гімнастычнай камандзе ЗША выйграць алімпійскае золата ў 1996 г., — а яна натхніла многіх дзяўчынак займацца гімнастыкай".

**Аркадзь Шанскі**



Вольга Корбут

Холмз".
10.40, 18.35 Дзённік XIX зімовых Алімпійскіх гульняў.
11.00, 21.50 "Сямейныя повязі".
12.20 Добры дзень, Беларусь!
13.05 "Дарогі назад няма". Маст. фільм. 3-я сэрыя, заключная.
14.15 "Скарбы сусьветнай культуры".
14.30 Сад мары.
15.20 "Горац".
16.10 "Пяць цудаў".
16.20 "5x5". Праграма для старшаклясьнікаў
18.20 Зона Ікс.
18.55 "На варце Айчыны". Відэафільм.
19.20 Лірычная камэдыя "Прывід дому майго" (Расея).
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
22.45 "Камісар Шыманскі".
0.30 Беларуская дваццатка.

## СТВ

6.00, 16.30 "Пауэр рэйнджэрз, або Магутныя рэйнджэры.
6.30, 16.05 "Д'яблік".
7.00, 15.40 "Жалезны чалавек".
7.30, 15.15 "Прынцэса Сысы".
8.00, 18.50 "Тэма дня".
8.10, 22.30 "Віртуальны сьвет".
8.20, 18.45 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
8.25 "Сьняданак з Лікай".
8.30 Баявік "Бягучая мішэнь".
10.45, 18.15, 1.10 "М 1".
11.00, 18.00 Спартыўныя навіны.
11.15, 22.20 "Аўтапанарама".
11.30 "Дарма і Грэг".
12.00, 15.00, 19.00, 22.45 "24 гадзіны".
12.15 "Агенцтва". Камэдыйны сэрыял.
12.50 Канцэрт Дэміса Русаса.
13.55 "NEXT".
16.55 "Чарцяня".
19.15 "Добры вечар, маленькі..."
19.30 Фільм жахаў "Крык-3".
23.00 Гістарычная драма "Вальмон".

## ОРТ

8.00, 11.00, 17.00 Навіны.
8.15, 18.00 "Зямля каханьня".
9.15 "Курбан-Байрам". Трансьляцыя з Уфімскай саборнай мячэці.
10.00 "Слабае зьвяно".
10.50 Бібліяманія.
11.20 Дзённік Алімпіяды.
11.50 На XIX зімовых Алімпійскіх гульнях. Горныя лыжы. Слалам-гігант (мужчыны). Фінал. Хакей (жанчыны).
15.00 "Забойная сіла. Мера спыненьня".
16.00 Вялікае мыцьцё.
17.30 Дак. дэтэктыў.
19.00 Поле цудаў.
20.00 Час.
20.35 Баявік "Гарачая кропка".
21.40, 1.20 На XIX зімовых Алімпійскіх гульнях. Хакей (мужчыны). 1/2 фіналу.
23.30 Камэдыя для пераможцаў "Банзай".

## РТР

8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Весткі.
8.15 Сьвята Курбан-Байрам. Трансьляцыя з Маскоўскай саборнай мячэці.
9.05 Алімпіяда-2002. Фігурнае катаньне. Жанчыны. Адвольная праграма.
10.15 Дзяжурная часьць.
10.20 Экспэртыза РТР. Дайджэст.
10.30 Сямейныя навіны.
10.35 "Санта-Барбара".
16.30 Плянэта КВК.
17.00 Прэс-клюб.
18.00 Дзёньнік зімовых Алімпійскіх гульняў.
19.35 Весткі - Масква.
19.55 Сэрыял "Лэдзі Бос".
20.55 Вострасюжэтны фільм "Транзыт для д'ябла".
21.55 Да Дня абаронцы Айчыны. "Панове афіцэры-2002". Сьвяточны канцэрт Алега Газманава.
23.50-1.30 Алімпіяда-2002. Фігурнае катаньне. Жанчыны. Адвольная праграма.

## Культура

9.15 "Партытуры не гараць". Аўтарская праграма А. Варгафціка.
9.40, 16.35 Паходжаньне чалавека. "Першынец".
10.30 Канцэрціна.
10.45 "Цытаты з жыцьця". Акадэмік Аляксандр Чубар'ян.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.45 Разам з Фафалем.
12.00 "Вясёлая карусель". Мультфільм.
12.15 Чым жыве Расія.
12.30 Музычныя дамы. "Тры стагодзьдзі музычнай культуры".
13.00 "Юнацтва камандзіраў". Маст. фільм.
14.45 Улада факту.
15.10 Кіно - дзецям. "Навальнічныя камяні".
15.35 "Прыгоды Мурзілкі", "Мартынка". Мультфільмы.
16.05 Сэнсацыя. Сэнсацыя? Сэнсацыя...
17.50 "Хто там..." Аўтарская праграма В. Верніка.
18.15 "Страсьці па-італьянску".
19.15 Удзячны лёсу. "Прафэсія і рамяство". Аўтарская праграма А. Баталава.
19.45 Дабранач, дзеці!
20.00 "Царская ложа". Нінэль Кургапкіна.
20.45 "Час жаданьняў". Маст. фільм.
22.30 1001 аповед пра кіно.

## НТВ

7.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сёньня.
7.10, 7.35 Раніца на НТВ.
7.50 "На рагу ля Патрыярхавых-2".
9.25 Свая гульня.
10.10 Увага. Вышук!
11.20 Камэдыя "Сем нянек".
13.25 "Працяг будзе...".
14.15 Пэпсы-чарт.
15.25 Прафэсія - рэпарцёр. Сяргей Халашэўскі "Нябеснае прыцягненьне".
15.55 Фільм "Аты-баты, ішлі салдаты..."
17.40 Крымінал.
18.40 Свабода слова.
20.15 Крымінальная Расея. "Чорная стужка".
21.50 Дэтэктыў "Шэрыя ваўкі".
0.10-0.50 Кома.

## CNN

7.00 Навіны.
10.00 Бізнэс-цэнтар.
11.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 22.00, 23.00, 2.00, 3.00, 5.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
12.30, 14.30, 17.30, 0.30 Навіны спорту.
13.00, 16.00 Бізнэс Інтэрнэшнл.
18.30, 22.30, 3.30 Пытаньне - адказ.
19.30. 6.30 Амэрыканскія навіны.
21.30 Бізнэс-навіны.
23.30 Вечаровыя бізнэс-навіны.
0.00, 5.30 Погляд знутры.
1.00 "Грошы" з Лу Добзам.
2.30 Рэпартажы замежных карэспандэнтаў.
4.00 Лары Кінг.

## Эўраспорт

4.00, 12.30, 22.00, 2.45 Керлінг.
4.30, 15.45, 23.30 Паўночнае двабор'е.
5.15, 16.30 Лыжныя гонкі.
6.00, 1.15 Хакей.
8.00, 13.00, 17.15, 20.45, 0.00 Навіны і агляды Алімпіяды.
10.00, 14.00 Фігурнае катаньне.
11.45, 21.00, 0.15 Горныя лыжы.
17.45 Агляд алімпійскага дня.
18.00 SLice. Лядовыя віды спорту.

# СУБОТА, 23 ЛЮТАГА

## БТ

7.00, 9.00, 15.00, 19.00 Навіны.
7.10 Сэрыял "Марыя-граза". 3-я сэрыя.
8.05 Пазнавальны сэрыял "Пятае вымярэньне".
8.30 Існасьць.
9.10, 11.10 Экран індыйскага кіно. "На чужыне". 1-я і 2-я сэрыя.
10.50, 18.35 Дзённік XIX зімовых Алімпійскіх гульняў.
12.35 Сад мары.
13.00 Каралеўскае паляваньне.
13.30 Здароўе. Тэлечасопіс.
14.00 Прыгодніцкі сэрыял "Ідэальная пара". 2-я сэрыя.
15.20 Дэтэктыўны сэрыял "Камісар Шыманскі" (Германія).
16.50 Беларуская дваццатка.
17.20 "Пяць цудаў".
17.50 Да Дня абаронцаў Айчыны. "У імя веры, надзеі, любві..." Відэафільм.
18.15 З дакладных крыніц.
19.20 КВК. Фэстываль Эўралігі. Частка 2-я.
21.00 Панарама.
21.50 "Жывыя і мёртвыя". Маст. фільм. 1-я сэрыя.
23.25 Самба. Міжнародны турнір на прызы А.Лукашэнкі.
0.05 Сэрыял "Каралева мячоў".
0.50 Дак.сэрыял "Успомні пра будучыню".

## СТВ

6.00 Дэміс Русас у Менску.
7.00 "Фільм, фільм, фільм...".
7.15 "У гасьцях у Тофіка".
7.30 "Кот, якога звалі Ік". М/ф.
8.00 "Дыплядокі". М/ф.
8.30 "Мурашкі". Тэлесэрыял.
9.00 "Футурама". Мультыплікацыйны сэрыял.
9.30, 0.30 "М 1" . Музычная праграма.
10.00 "Бафі" Тэлесэрыял.
11.00 "Экзотыка".
11.15 "Рамонт".
11.30 "Аўтапанарама".
11.50 "Сьнеданьне зь Лікай".
12.15 "У небе "Расейскія віцязі" Д/ф.
12.50 "Расейскія браты".
14.30 "Клюб "Белы папугай".
15.30 "Вовачка". Камэдыйны сэрыял.
16.00, 16.25 "Чалавек-павук". М/ф.
16.50 "Марш Турэцкага-2". Тэлесэрыял.
18.00 "Гадзіна пік".
19.00 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
19.25 "Кіно": "Горац: конец гульні".
21.20 "Кіно": Джэймс Бэлушы ў камэдыі "Танец анёла".
23.35 Начны музычны канал.

## ОРТ

7.00, 9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
7.10 Волаты Расеі. Мультсэанс. "Ільля Мурамец", "Дабрыня Мікіціч".
7.35 Служу Расеі! Сьвяточны выпуск.
8.20 Грай, гармонік салдацкі!
9.10 Перш-наперш самалёты... Камэдыя "Нябесны ціхаход".
10.30 "Тайны забытых перамог". Маршал Канстанцін Ракасоўскі
11.15 Солт-Лэйк-Сыты. Дзённік Алімпіяды.
11.45 На XIX зімовых Алімпійскіх гульнях. Хакей (мужчыны). 1/2 фіналу. Канькі. 10000 м (мужчыны).
14.15 Яўген Мацьвееў, Армен Джыгарханян у фільме "Высокае званьне. Дзеля жыцьця на зямлі".
15.55, 17.20 На XIX зімовых Алімпійскіх гульнях. Фігурнае катаньне. Паказальныя выступленьні.
18.00 "Хто хоча стаць мільянэрам?" Сьвяточны выпуск.
19.00, 20.30 Сьвяточны канцэрт да Дня абаронцы Айчыны.
20.00 Час.
21.50 На XIX зімовых Алімпійскіх гульнях. Хакей. Матч за 3-е месца. Горныя лыжы. Слалам (мужчыны).

## РТР

5.55 Да Дня абаронцы Айчыны. "Вікторыя". Фэстываль салдацкай песьні.
7.00 Алімпіяда-2002. Дваябор'е. Спрынт 7,5 км. Трансьляцыя з Солт-Лэйк-Сыты.
7.40, 1.55 Прагноз надвор'я.
7.45 "Тэлепузікі".
8.10 Залаты ключ.
8.30 Здароўе і жыцьцё.
9.00 Пошта РТР.
9.35 Добрай раніцы, краіна.
10.10 "Сто да аднаго".
11.00 "Мэдыкі".
12.00 Да Дня абаронца Айчыны. Дакумэнтальны фільм "Зброя Расеі: невядомыя ўнукі Калашнікова".
13.00, 19.00 Весткі.
13.20 Прыгодніцкі фільм "Белае сонца пустыні".
15.00 Алімпіяда-2002. Хакей. Мужчыны. Паўфінал.
17.00 Мая сям'я.
17.55 Аншляг.
19.25 Люстэрка.
20.00 Да Дня абаронца Айчыны. Вострасюжэтны фільм "У зоне асаблівай увагі". 1977 г.
22.00 Фільм "Салдаты".
22.25 Дзёньнік зімовых Алімпійскіх гульняў.
23.25 Алімпіяда-2002. Лыжы. Мужчыны. 50 км.
1.00-1.56 Гарачая дзясятка.

## Культура

9.00 Праграма перадачаў.
9.10 "Малыш і Карлсан". М/ф.
9.35 Бабуліны рэцэпты.
9.50 Вуглы манэжу.
10.15 ГЭГ. Каралі сьмеху.
10.30 "Залаты п'едэстал". Аляксандар Папоў.
11.00 Графаман.
11.25 Дзікія жывёлы. "Дом, мілы дом".
11.50 Век кіно. "Гаворыць Масква". Маст. фільм.
13.30, 21.00 Навіны культуры.
13.45 "Час музыкі". Тэлечасопіс.
14.10 "Паветраныя рамізьнікі". Дакумэнтальная дылегія.
15.05 Г.Стралкоў. "Я да вас ніколі не вярнуся". Тэлеспэктакль.
16.35 "Вакзал мары".
17.00 "Тэс з роду д'Эрбэрвіляў". Маст. фільм.
18.00 "Сфэры". Міжнародны агляд.
18.40 "Фрак народу".
19.35 "Сеча пры Кержанцы". М/ф.
19.45 Да Дня абаронцы Айчыны. Кінаканцэрт.
20.15 У вашым доме. Эльдар Разанаў.
21.20 Асабістыя ўспаміны пра вялікае жыцьцё.
21.25 Зноў пласьцінка пяе...
21.53 Анонсы.
21.55 "Баляда пра салдата". Маст. фільм.
23.20-23.25 Праграма перадачаў.

## НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 15.00, 18.00 Сёньня
7.15 "Вуліца Сэзам".
7.40 Сэрыял "Люстра, люстра". 9-я і 10-я сэрыі (Аўстралія).
8.25 Без рэцэпту.
9.15 Крымінал. "Шчырае прызнаньне".
9.45 "Жаночы погляд".
10.20 Кватэрнае пытаньне.
11.20 Фільм "Каліна чырвоная".
13.25 Вандроўкі натураліста.
14.05 Свая гульня.
15.25, 18.40 Прафэсія - рэпарцёр.
16.00 "Працяг будзе...".
16.55 Шоў Алены Сьцепаненкі.
19.20 Прэм'ера НТВ. "Агент нацыянальнай бясьпекі-3". 1-я сэрыя. "Зачараваны горад".
20.30 Прэм'ера НТВ. "Армія выратаваньня". Камэдыя.
22.30 Прэм'ера НТВ. "Усе адразу!"
23.05 Сэрыял "Зорная брама".
23.55-1.40 Прэм'ера НТВ. "Я кахаю цябе" (Польшча).

## CNN

7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00, 23.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
7.30, 3.30 Міжнародны рэпартаж.
8.30 Навіны бізнэсу за тыдзень.
9.30, 13.30, 23.30 Рэпартажы замежных карэспандэнтаў.
10.30 Эўропа буйным плянам.
11.00, 4.00 Лары Кінг.
12.30, 14.30, 17.30, 0.30 Навіны спорту.
15.30, 6.30 Дыпляматыя.
16.30 Героі выпускаў навін.
18.30 Прафэсійны гольф.
19.30 Афрыка буйным плянам.
20.30 Эўропа буйным плянам.
21.30 Незвычайны бізнэс.
22.30 Пытаньне - адказ.
1.30 Навіны бізнэсу за тыдзень.
2.30 CCN.dot.com.
5.00 Азія буйным плянам.
5.30 Ваша здароўе.

## Эўраспорт

4.00, 2.15 Канькабежны спорт.
5.30, 12.00, 0.45 Хакей.
7.00, 16.15 Бабслэй.
8.00, 13.30, 17.15, 20.45, 0.30 Навіны і агляды Алімпіяды.
10.00, 14.00 Фігурнае катаньне.
15.45 Паўночнае дваябор'е.
17.45 Агляд алімпійскага дня.
18.00 SLice. Лядовыя віды спорту.
21.00, 23.30 Горныя лыжы.
22.00, 3.00 Лыжныя гонкі.

# НЯДЗЕЛЯ, 24 ЛЮТАГА

## БТ

7.00, 9.00, 15.00 Навіны.
7.10 Сэрыял "Марыя-граза". 4-я сэрыя, заключная.
8.05 "Аграсьвет".
8.30 Арсэнал.
9.10 Мультыклюб.
9.40 Фільм-казка. "Прынцэса з млыну" (Чэхія).
11.25, 18.05 Дзёньнік XIX зімовых Алімпійскіх гульняў.
11.50 "Усё нармальна, мама!" Забаўляльная праграма.
12.30 Тэлевітамін.
12.55 Сэрыял "Каралева мячоў" (Канада-Гішпанія-Ангельшчына).
13.40 Лёс чалавека.
14.05 "Сьпявай, душа!" Грамніцы ў Лёзьненскім раёне.
14.30 "Наша спадчына". Ружанскі палац.
14.50 "І іншыя афіцыйныя асобы".
15.15 "Вясковы дэтэктыў". Маст. фільм (СССР).
16.40 "Сустрэча ў Траецкім" з Аляксандрам Дамарацкім.
17.05 "Час мясцовы". Рэпартажы з правінцыі.
17.30 Плянэта "АРТ".
18.25 XIX зімовыя Алімпійскія гульні. Лыжная гонка. Жанчыны. 30 км. Жывая трансьляцыя з Солт-Лэйк-Сыты.
19.20 Энцыкляпэдыя беларускага спорту. Канькабежны спорт.
19.30 Тэлебаромэтар. Прагноз надвор'я.
20.55 Галоўнае пытаньне.
21.30 "Жывыя і мёртвыя". Маст. фільм (СССР). 2-я сэрыя.
23.05 Парыскі тыдзень высокай моды ў праграме "Новая калекцыя".
23 30 Дэтэктыўны сэрыял "Жулі Леско" (Францыя).
1.15 Дак.сэрыял "Успомні пра будучыню".

## СТВ

6.00 "Разьюшаная плянэта. Ураганы". Д/ф.
7.00 "1/52". Спартыўны агляд.
7.15 "У гасьцях у Тофіка".
7.30 "Кот, якога завуць Ік". М/ф.
8.00 "Дыплядокі". М/ф.
8.30, 19.50, 1.00 "М 1". Музычная праграма.
9.00 "Гадзіна пік".
10.00 "Бафі". Тэлесэрыял.
11.00 "Яе звалі Нікіта . Тэлесэрыял.
12.00 "Сьнеданьне зь Лікай".
12.25 "Прэм'ер-парад "Сталічны"..
12.45 "Кіно": "Тры гільзы ад ангельскага карабіну".
14.45 "Выпадковы сьведка".
15.15 "Агенцтва". Камэдыйны сэрыял.
15.50, 16.20 "Чалавек-павук". М/ф.
16.50 "Марш Турэцкага-2 . Сэрыял.
18.00 "168 гадзін Менску".
19.00 "Дзень добры, доктар!".
19.10 "Аўтапанарама".
19.30 "Радыё-кропка". Музычна-забаўляльная праграма.
20.05 "Арт-экспрэс". Культурныя навіны сталіцы.
20.20 "Пакуль гарыць сьвечка...".
20.40 "Кіно": "Дракула- 2000".
22.50 "Альфрэд Хічкок прадстаўляе".
23.25 Начны музычны канал.
0.15 Дэміс Русас у Менску.

## ОРТ

7.00, 9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
7.10 Мультсэанс. "Нязнайка на Месяцы". Частка 5-я.
7.35 КОАПП.
8.00 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
8.15 "Эх, Сямёнаўна!". Усерасейскі конкурс прыпевак.
8.50 Бібліяманія.
9.10 Сьмехапанарама.
9.50 Смак.
10.10 У сьвеце жывёл.
10.50 Здароўе.
11.30 Спорт-Лэйк-Сыты. Дзённік Алімпіяды.
12.02 На XIX зімовых Алімпійскіх гульнях. Канькі. 5000 м (жанчыны). Фігурнае катаньне. Паказальныя выступы.
13.35 Дыснэй-клюб. "Мікі Маўс і яго сябры".
14.15 Камэдыя "Дачная паездка сэржанта Цыбулі".
15.40 "Куміры". Васіль Ланавой.
16.10 "Радавы Еўдакімаў і яго сябры". Гумарыстычная праграма.
17.20 "Радавы Еўдакімаў і яго сябры". Працяг.
18.10 "Афіцэры" Маст. фільм.
20.00 Час.
20.30 На XIX зімовых Алімпійскіх гульнях. Лыжы. 30 км (жанчыны).
21.05 Гістарычны баявік "Спартак".
0.30 Спорт-Лэйк-Сыты. Дзённік Алімпіяды.

## РТР

5.50 Алімпіяда-202. Бабслэй. Мужчыны. Чацьверка. Шорт-трэк. Трансьляцыя з Солт-Лэйк-Сыты.
7.20, 1.30 Прагноз надвор'я.
7.25 "Тэлепузікі".
7.50 Расейскае лато.
8.40 "ТБ Бінга шоў".
9.20 Добрай раніцы, краіна.
9.55 Сам сабе рэжысэр.
10.50 "Гарадок", Дайджэст.
11.20 Камэдыйны баявік "Востраў МакКінсы".
13.00 Весткі.
13.20 Парлямэнцкая гадзіна.
14.05 Дыялёгі пра жывёл.
15.05 Вакол сьвету.
15.55 "Камісар Рэкс". Телесэрыял.
16.55 ТБ Бінга-навіны.
17.00 "Мужыкі..." Маст. фільм.
19.00 Весткі тыдня.
19.55 Вячэрні сэанс. Адрыяна Чэлентана і Энтані Куін у камэдыі "Блеф" (Італія). 1976 г.
21.50 Алімпіяда-2002. Хакей. Мужчыны. Фінал. Жывая трансьляцыя з Солт-Лэйк-Сыты.
0.35 - 1.30 Дзёньнік зімовых Алімпійскіх гульняў.

## Культура

9.00 Праграма перадач.
9.10 Дзіцячы сэанс. "Вецер у вербах". М/ф.
10.15 Нядоўгія гісторыі.
10.30 Ток-шоў "Наўздагад".
11.00 Тым часам.
11.25 Дзікія жывёлы. "Экспэдыцыя у пустыню".
12.00 Век кіно. "Мір таму, хто ўваходзіць". Маст. фільм.
13.30, 21.00 Навіны культуры.
13.45 Магія кіно.
14.10 Шэдэўры сусьветнага музычнага тэатру. Дж.Вэрдзі. "Атэла". Фільм-опэра. Дырыжор Г.фон Караян.
17.00 "Тэс з роду д'Эрбэрвіляў". Маст. фільм.
18.00 Кінапанарама.
18.40 Экалёгія літаратуры. Юры Бондараў.
19.35 Да 70-годзьдзя Мішэля Лёграна. "Музыка каханьня".
20.15 Блеф-клюб.
21.15 Асабістыя ўспаміны пра вялікае жыцьцё.
21.20 Пры сьвечках. "Маскоўскія "растыньякі".
22.00 "Эскадрон гусар лятучых". Маст. фільм.
23.20-23.25 Праграма перадач.

## НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 15.00 Сёньня.
7.15 "Вуліца Сэзам".
7.40 Пэпсы-чарт.
8.30 Ох ужо гэтыя дзеці!
9.15 Сэрыял "Агент нацыянальнай бясьпекі-ІІІ. 1-я сэрыя. "Зачараваны горад".
10.25 Крымінальная Расея. "Чорная стужка".
11.30 Наша кіно. "Ранішняя шаша".
13.25 Служба выратаваньня.
14.00 Свая гульня.
15.25 Дог-шоў "Я і мой сабака".
16.20 "Жаночы погляд".
16.55 Вочная стаўка.
17.30 Прэм'ера НТВ. Гумарыстычная праграма "НВП.RU".
18.50 Сэрыял. "Агент нацыянальнай бясьпекі-ІІІ". 2-я сэрыя. "Зьдзелка".
20.00 Надоечы.
21.15 Лялькі.
21.35 Сьвет кіно. "Каскадзёры" (ЗША)
23.30 Агляд Лігі чэмпіёнаў.
0.05-1.00 Сэрыял "Зорная брама".

## CNN

7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 0.00, 5.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
7.30, 3.30 Міжнародны рэпартаж.
8.30, 18.30 Рэпартажы замежных карэспандэнтаў.
9.30, 23.30 Эўропа буйным плянам.
10.30 Незвычайны бізнэс.
11.00, 4.00 Лары Кінг.
12.30, 14.30, 17.30, 0.30 Навіны спорту.
13.30 Героі выпускаў навін.
16.30 Афрыка буйным плянам.
19.00 Ток-шоў Вульфа Блітцара.
21.30 Навіны бізнэсу за тыдзень.
22.30 CNN.dot.com.
1.00 Навіны
5.30 Дыпляматыя.
6.30 Агляд гульняў НБА за тыдзень.

## Эўраспорт

4.00, 21.00 Лыжныя гонкі.
4.30, 10.00 Горныя лыжы.
5.30, 11.00, 15.00 Бабслэй.
6.30, 16.00 Шорт-трэк.
8.00, 13.30, 17.15, 19.45, 0.00 Навіны і агляды Алімпіады.
12.00, 1. 15 Хакей.
14.00, 20.00, 0.15 WATTS Games.
17.45 Агляд алімпійскага дня.
18.00 SLice. Лядовыя віды спорту.
22.30 Фігурнае катаньне.



## СЛУХАЙЦЕ РАДЫЁ РАЦЫЯ:

**на кароткіх хвалях 49 мэтраў –**
08:00-10:00 6095 кГц
13:00-15:00 6180 кГц
**на сярэдніх хвалях 278 мэтраў –**
22:00-24:00 1080 кГц
**Час беларускі!**

**Ранішні этэр 8.00-10.00**
8.00-8.20; 8.22-8.40 – актуальныя рэпартажы, інтэрвію, камэнтары, паведамленьні зь Беларусі;
8.20-8.22; 8.40-8.42; 9.30-9.32 – навіны адным радком;
8.45-8.55; 9.45-10.00 – аўтарскія праграмы;
9.00-9.10 – навіны зь Беларусі;
9.10-9.27 – разгорнуты камэнтар на тэму дня, актуальныя рэпартажы, інтэрвію, паведамленьні з рэгіёнаў Беларусі;
9.35-9.45 – паведамленьні пра падзеі культуры, мастацтва, адукацыі й навукі ды інш.

**Дзённы этэр (on line) 13.00-15.00**
падчас жывога этэру ёсьць магчымасьць затэлефанаваць у студыю **радыё "Рацыя": (8-1048-22) 720-40-58**
13.00-13.20; 13.22-13.40 – актуальныя рэпартажы, інтэрвію, камэнтары, паведамленьні зь Беларусі;
13.20-13.22; 13.40-13.42; 14.30-14.32 – навіны адным радком;
13.45-14.00; 14.45-15.00 – аўтарскія праграмы;
14.00-14.10 – навіны зь Беларусі;
14.10-14.27 – разгорнуты камэнтар на тэму дня, актуальныя рэпартажы, інтэрвію, паведамленьні з рэгіёнаў Беларусі;
14.35-14.45 – паведамленьні пра падзеі культуры, мастацтва, адукацыі й навукі ды інш.

**Вечаровы этэр 22.00-24.00**
22.00-22.20; 22.22-22.40 – актуальныя рэпартажы, інтэрвію, камэнтары, паведамленьні зь Беларусі;
22.20-22.22; 22.40-22.42; 23.30-23.32 – навіны адным радком;
22.45-23.00; 23.45-24.00 – аўтарскія праграмы;
23.00-23.10 – навіны зь Беларусі;
23.10-23.27 – разгорнуты камэнтар на тэму дня, актуальныя рэпартажы, інтэрвію, паведамленьні з рэгіёнаў Беларусі;
23.35-23.45 – паведамленьні пра падзеі культуры, мастацтва, адукацыі й навукі ды інш.

**Тыднёвы расклад аўтарскіх праграмаў**
Кнігагляд - пятніца, нядзеля;
Бабілёнская бібліятэка - аўторак, чацьвер;
Блізкае кола - панядзелак, субота;
Бумэранг - серада, пятніца;
Галерэя Клїё - панядзелак, серада;
Грашовы інтарэс - серада;
Дзядзінец - панядзелак;
Дрэва жыцьця - чацьвер, субота;
Жыцьцяпіс - чацьвер, субота;
Квадракола - пятніца, нядзеля;
Лісты на "Рацыю" - аўторак, субота;
Паміж сёньнямі й калісьцямі - аўторак, нядзеля;
Права на рацыю - панядзелак, чацьвер;
Танцы на даху - субота, нядзеля;
Тутэйшыя - аўторак, пятніца.

польскамоўная камічная опэра “Рэкруцкі габрэйскі набор”. У 1841 г. у Менск зь Вільні прыехаў новы генэрал-губэрнатар Мірковіч. У часе ўрачыстасьцяў адбылася й прэм’ера “Рэкруцкага набору”. Ролі выконвалі Дунін-Марцінкевіч (Гогам Бэнатан), Мядынскі, Расадоўскі, Валатоўскі. *Минские губернские ведомости* пісалі: “*Сочинитель Марцинкевич был всех забавнее*”.

Партытура і лібрэта “Рэкруцкага набору” зьніклі бязь сьледу, як і партытуры іншых сумесных польскамоўных твораў Манюшкі і Марцінкевіча — апэрэты “Спаборніцтва музыкаў” і опэры “Чарадзейная вада” (гэты спэктакль прайшоў у Менску 21 раз).

Крыху больш пашанцавала “Сялянцы”, напісанай у 1844 г. У 1846 г. віленскі выдавец Адам Завадзкі надрукаваў тэкст “Сялянкі” ў сваёй друкарні — прадчуваючы, што беларуская мова робіць гэты твор гістарычным. Гэта была першая друкаваная кніга Дуніна-Марцінкевіча. А вось музыка Манюшкі не захавалася, апроч арыі Камісара. Адам Мальдзіс адшукаў ейны рукапіс у зборы Аляксандра Валіцкага, што захоўваецца ў Варшаве ў Нацыянальнай бібліятэцы. У музыцы гэтай арыі адчуваецца ўплыў беларускіх народных песень — як, зрэшты, ва ўсіх творах Манюшкі, напісаных у той час.

Навум Прыгаворка — гэта ня проста абаяльны і дасьціпны пэрсанаж “Сялянкі”, а, у пэўным сэнсе, “другое я” Дуніна-Марцінкевіча. Нездарма ж ён выконваў гэтую ролю на сцэне! Гэтым імем ён падпісваў усе свае беларускамоўныя тэксты. Мне падаецца, што свае беларускія тэксты ён пісаў у вобразе Навума Прыгаворкі, і менавіта з гэтае гульні паўстала беларуская літаратура. Выходзіла літаратура не сялянская, а панская — літаратура паноў, пераапранутых у мужыкоў. Адсюль і ейная тагачасная штучнасьць.

Навум Прыгаворка арганічны. Ягоная беларуская мова гнуткая і выразная. Ён сьпявае і танчыў. Можна сабе ўявіць, як гэта выглядала! Рэпэтыцыяў амаль не было. Пра гэта сьведчыць ліст Дуніна-Марцінкевіча да Адама Завадзкага з просьбай выслаць зь Вільні як мага болей асобнікаў “Сялянкі”. Ліст быў напісаны 1 лютага 1852 г., за восем дзён да прэмьеры: “Калі ж можна выслаць у Менск раней, чым адыходзіць пошта, то было б вельмі добра, бо гэтыя кніжкі неабходныя мне на 9-ы дзень гэтага месяца”.

Відавочна, не было аніякіх нотаў. Большасьць музыкі ў першай беларускай опэры складалі беларускія народныя мэлёдыі, знаёмыя кожнаму шляхціцу зь дзяцінства. На жаль, нам невядома, якая мэлёдыя гучала ў той ці іншы момант. Захавалася хіба толькі сьведчаньне, што ўсе разам танчылі “Мяцеліцу”.

Музычнае суправаджэньне забясьпечваў сялянскі хор зь Люцынкі, якім апекавалася Каміла, старэйшая дачка Дуніна-Марцінкевіча. Упершыню на сцэне былі сапраўдныя мужыкі, у сьвітках да лапцях. Каміла, як і ейны брат Міраслаў, была адораная музычна. Першым гэта заўважыў Манюшка і перадаў абаіх дзяцей у рукі свайго старога настаўніка Дамініка Стафановіча. У 1847 г. яны выступалі ў Вільні, у 1849-м — у Кіеве, у студзені 1850-га — у Менску, у залі Шляхецкага згуртаваньня. *Минские губернские новости* адгукнуліся на іхны выступ з энтузіязмам: “Каміла Марцінкевіч іграла з надзвычайнай пачуцьцёвасьцю, бегласьцю і чысьцінёю найцяжэйшыя творы... а брат яе — Міраслаў звыш таго выказаў надзвычайную энэргію і бегласьць. Дзеці гэныя цалкам заслугоўваюць на пахвалу... яны з часам несумненна спраўдзяць надзею памнажэньнем лічбы эўрапейскіх артыстаў”.

Але ні Каміла, ні Міраслаў ня сталіся прафэсійнымі музыкамі. Камілу ў 1863 г. арыштавалі за ўдзел у паўстаньні Каліноўскага. Працуючы настаўніцай у маёнтку памешчыка Хмары, яна прапанавала жаўнеру Інгерманляндзкага палка грошы, каб ён прадаў зброю. А ён яе здаў. Яна й не аспрэчвала віны. Выслалі яе ў Салікамск.


Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Пацярпеў і Дунін-Марцінкевіч. Яшчэ ў 1861 г. у Трэцім аддзяленьні царскае канцыляры на яго завялі справу — “*О помещике Марцинкевиче, рассылавшем в Западные губернии возмутительные воззвания к литовцам*”. За ягонымі паводзінамі пільна назіраў часовы менскі вайсковы губэрнатар Кушалеў. Трохі больш за год Марцінкевіч знаходзіўся пад сьледзтвам — сядзеў у Менскім астрозе (цяперашняя Валадарка), а потым яго выпусьцілі пад “*строго гласный*”, “*без срока*” паліцэйскі нагляд. 12 гадоў Дуніна-Марцінкевіча трымалі пад хатнім арыштам у Люцынцы. Яму забаранілі выяжджаць з фальварку, ставіць спэктаклі, вучыць дзяцей. Якое гэта было пекла, для такога дзейнага чалавека! Каб палепшыць сваё становішча, Дунін-Марцінкевіч спрабаваў давесьці ўладам сваю ляяльнасьць. У 1870 г. ён пісаў тагачаснаму віленскаму генэрал-губэрнатару: “З прычыны дзёрзкасьці маёй дачкі Камілы...” Можна лічыць, ён здрадзіў сваёй дачцэ, і гэта была драма для іх абаіх.

Але вечарам 9 лютага 1852 г. яны яшчэ пра гэта ня ведалі.

Яны ўвогуле не спрабавалі зазіраць у будучыню і не клапаціліся пра тое, ці дойдзе да нашчадкаў шчасьлівы плён іхнага натхненьня. Дунін-Марцінкевіч з асалодай дыхаў тэатральным паветрам і адначасова дужа нэрваваўся, бо вяскоўцы зь Люцынкі спазьняліся. Каміла хвалявалася: яна выконвала ролю адной зь сялянак. Мастак Адам Шэмеш, вучань славутага Яна Рустэма, да апошняе хвіліны дамалёўваў дэкарацыі. Пісар міравога судзьдзі Авяр’ян Васільеў, які быў за адміністратара, гандляваў пры ўваходзе квіткамі. Антон Прушынскі, фатограф, якому даверылі ролю Караля Лятальскага, ліхаманкава паўтараў тэкст. Работнік друкарні Ляўданскі, які быў актoрам на ўсе ролі, мірна адпачываў. Менавіта ён раздрукаваў афішу, якая шчэ зранку зьявілася на плоце: “*С дозволения начальства. В субботу, 9 февраля 1852 г., будет представлено гг. любителями в пользу бедных. Опера в 2 действиях на польском и простонародном языке. Сочинение Викентия Мартинкевича с музыкой Манюшки, Кржижановского и прочих под заглавием “Селянка”*. Усе 20 сяброў аматарскага тэатральнага гуртка Марцінкевіча са скуры вылазілі, каб пасароміць прафэсійную трупу Вяржбіцкага, якая пачынаючы з 1846 г. грала ў Менску ардынарны расейска-польскі рэпэртуар.

І ў іх атрымалася! Заля была поўная, нягледзячы на тое што ў лютым вуліцы Менску былі небясьпечныя для позьніх мінакоў: на ўскрайкі гораду забягалі ваўкі, а ходнікі падчас адлігі ператвараліся ў адну гіганцкую лужыну. Публіка сустракала самадзейных акатораў зь непрыхаваным энтузіязмам. Газэты былі ў захапленьні. 14 сакавіка 1852 г. “Дзёньнік Варшаўскі” пісаў: “Ніхто ня стане адмаўляць здольнасьцяў Дуніна-Марцінкевіча як у галіне драматургіі, так і паэтыкі... Калі б ягоныя творы былі пастаўленыя на вялікай сцэне, ад гэтага, бясспрэчна, была б карысьць як для тэатру, так і для аўтара”.

Аднак ідылія, якую Дунін-Марцінкевіч прапанаваў сваім гледачам, была зруйнаваная ўжо назаўтра. Губэрнская ўлады забаранілі паказваць спэктакль, у якім побач з польскай гучала і беларуская мова, хай і замаскаваная пад сарамлівае “простанародная”.

Калі верыць легендзе, Дунін-Марцінкевіч разам з дочкамі ўпрогся ў тэатральны рыдван, які па-беларуску завецца вельмі сымбалічным словам “бяда”, і вандраваў па вёсках, паказваючы спэктакль сялянам. У 1853—55 г. ён ставіў “Сялянку” у Бабруйску, Слуцку, Нясьвіжы ды Глуску. Час не спрыяў; канчалася эпоха Мікалая І.

Праз 150 гадоў мы ўжо ня можам пазнаць твар Менску, якім ён апісаны ў лістох Манюшкі: “Напэўна, Жулкоўскі [славуты польскі камічны актор] быў родам з гэтага гораду. А што да Вальтэра, то няма чаго і сумнявацца, што ён быў мянчук. Ня ведаю, чаму Мальер лічыў сябе французам, калі ў Менску ледзь не паказваюць вуліцу, дзе ён нарадзіўся...” Твар Менску зрабіўся змрочны, абыякавы і нецікавы. Дзе ты, Навум Прыгаворка?

**Юлія Андрэева**




**6 лютага ў Купалаўскім прайшоў юбілейны спэктакль “Ідылія”. У залі не было вольнага месца, і толькі ўрадавая ложа чарнела пустэчай. Перад пачаткам спэктаклю з прамовамі выступілі дырэктар тэатру Генадзь Давыдзька, навукоўцы Язэп Янушкевіч і Уладзімер Давыдзька, а таксама кампазытар Уладзімер Кур’ян. Янушкевіч перадаў прысутным прывітаньне ад амэрыканскай праправнучкі Дуніна-Марцінкевіча спадарыні Барбары Чарнавецкай. Сам спэктакль прайшоў, як заўжды, беззаганна. Зоя Белахвосьцік, Лілія Давідовіч, Віктар Манаеў стварылі на сцэне цуды. Публіка, як заўжды, сьмяялася ды плакала. Музыка Кур’яна ўражвала трапнасьцю здагадак. А потым спэктакль скончыўся, але ў паветры ўсё яшчэ луналі гукі палянэзу Агінскага. Натуральна, са словамі Сокалава-Воюша, бо іншага тэксту ўжо быць ня можа.**




### Тое, чаго нельга сфатаграфаваць

**Аўтарка “НН” Алена Адамчык запрашае чытачоў на сваю выставу “Пра тое, чаго нельга сфатаграфаваць”, што адкрыецца на прэстыжным бэрлінскім кінафэстывалі “Бэрлінале”. У пазаконкурснай праграме фэстывалю дэманструецца і фільм “Пра тое, чаго нельга сфатаграваваць”, прысьвечаны Алене і яе творчасьці. Яго зьняў Алег Лукашэвіч, аўтар папулярнай праграмы БТ “Новая калекцыя”.**

# Бэрлінале-2002

**6 лютага пачаўся адзін з самых сур’ёзных эўрапейскіх кінафэстываляў — Бэрлінскі, у якім за галоўны прыз змагаюцца 23 фільмы. Сярод іх — некалькі амэрыканскіх блакбастэраў, шмат эўрапейскіх карцін, а таксама японскія і аўстралійскія кінастужкі. Журы сёлета ўзначальвае індыйская рэжысэрка Міра Наір.**

Адкрыўся фэстываль новай стужкай вядомага нямецкага рэжысэра Тома Тыквэра “Нябёсы” (у галоўнай ролі Кейт Бланшэт). Па словах стваральнікаў, гэта такая сабе “сумесь трылеру, мэлядрамы і маральнай драмы”. Фільм рабіўся сумесна з кінэматаграфістамі ЗША, прычым упершыню Тыквэр зьняў стужку не на нямецкай мове.

Другая нямецкая надзея ў конкурсе — фільм Крыстофэра Рота “Баадэр” пра знакамітага злачынца Андрэаса Баадэра. Гэтага левакатэрарыста іграе Франк Гірынг, у іншых ролях зьняліся Ляўра Тонке і Вадзім Глоўна.

Сярод іншых цікавых конкурсных фільмаў — “*Shipping news*” рэжысэра Ласэ Хальстрама. У ім таксама зьнялася Кейт Бланшэт. Гэта гісторыя ўдаўца, які пераехаў са сваёю дачкой у Ньюфаўндлэнд, на зямлю продкаў. Ролі выконваюць знакамітыя Кевін Спэйсі, Джуды Дэнч, Джуліяна Мур.

Брытанскі рэжысэр Рычард Эйрэ зьняў драму пра знакамітую пісьменніцу Айрыс Мэрдак, якая даведалася, што ў яе хвароба Альцгеймэра. Ролю згасаючай раманісткі грае вялікая ангельская актрыса Джуды Дэнч, а маладыя гады Мэрдак дасталіся Кейт Уінсьлет.

Ніводзін буйны фэстываль ня можа абысьціся без азіяцкай стужкі. На Бэрлінале сёлета — аўтэнтычны японскі поўнамэтражны мультфільм “Чароўнае выкраданьне Чыхіра”, лідэр японскай касы, не разьлічаны на шырокі эўрапейскі ці амэрыканскі пракат. Гэтая анімацыйная стужка рэжысэра Хаяа Міядзакі апавядае пра непаслухмяную дзяўчынку і ейных дурных бацькоў, нячулых да дзіўнага і таямнічага. Бацькі зьелі нешта ня тое і ператварыліся ў сьвіней, а дзяўчынка трапіла ў рабства ў горад духаў ды багоў і толькі пакорай ды цяжкай працай змагла ўратаваць сябе і тату з мамай.

Па-за конкурсам пакажуць “Ідэальны розум”, у якім былы глядыятар Расэл Кроў сыграе звар’яцелага матэматыка — нобэлеўскага ляўрэата.

Адзіная беларуская стужка на фэстывалі — дакумэнтальны фільм “Пра тое, чаго нельга сфатаграфаваць”, прысьвечаная Алене Адамчык, — таксама будзе прадстаўленая па-за конкурсам. А вось украінскія кінэматаграфісты ўдзельнічаюць у конкурснай праграме зь фільмам “Малітва па гетману Мазэпу”.

Мілаш Форман прадэманструе альтэрнатыўна змантажаваную вэрсію “Амадэўса”. Да закрыцьця 52-га Бэрлінскага кінафэстывалю, якое адбудзецца 17 лютага, прымеркаваны паказ фільму Чарлі Чапліна “Вялікі дыктатар”.

**Сяргей Петрыкевіч**

## пошта рэдакцыі

### Батлейка як інструмэнт

**Заўсёды цікава пачытаць, што пішуць аб Беларусі і беларусах за яе межамі.** У аўтарытэтным выданьні навуковага выдавецтва “*Большая Российская энциклопедия*” “Народы і рэлігіі сьвету” (Масква, 1998) натрапіў на кур’ёзную зьвестку. У артыкуле “Беларусы” (Р.А.Грыгор’евай) сярод традыцыйных беларускіх музычных інструмэнтаў побач з бубнам, лірай і жалейкай згадваецца... батлейка. А між іншым, з такіх памылак і недарэчнасьцяў і складаецца гісторыя.

**Усевалад Сьцебурака, Вялейка**

Юры Хадыка, прафэсар, намесьнік старшыні БНФ "Адраджэньне"

# І вяртаецца вецер на кругі свае

**Адзін з найталенавіцейшых аўтараў Старога Запавету ў канцы свайго жыцьця стаў скептыкам і заснавальнікам крытычнага рэалізму. Ён пісаў: "Бывае нешта, пра што кажуць: глядзі, вось гэта новае. Але гэта было ўжо ў вяках, што былі раней" (Экл. 1:10). Гэтае выказваньне Эклезіяста прышло мне на памяць, калі я аж у трох нумарах "НН" прачытаў "Новую гісторыю" П.Севярынца. З аднаго боку, гэта добра. Бо даўно ў паважаным выданьні не было нічога аналітычнага і аптымістычнага. Толькі ёрніцкія і самаедзкія артыкулы А.Чобата.**

**З другога боку, у артыкуле П.Севярынца я не заўважыў нічога новага. Ні "новай палітыкі", ні "эканомікі і духоўнасьці", якія ён лічыць складнікамі "новай гісторыі". Акрамя, можа, "новай генэрацыі, якая ўжо нарадзілася". Што натуральна і аптымістычна. Ненатуральнае толькі яе супрацьпастаўленьне ўсяму "старому".**

**Я счакаў два месяцы, каб даведацца, якія водгукі выкліча "Новая гісторыя", каб не перашкаджаць сваім крытычным рэалізмам выказваньням аўтаравых аднадумцаў. Але не дачакаў. Далей маўчаць нельга, бо чытач забудзецца, пра што гаворка. А Павал палічыць, што ён меў рацыю, пішучы: "Маўчаць лідэры, зрабіўшы выгляд, што яны так і ведалі, – насамрэч проста сказаць няма чаго". Я – адзін зь лідэраў БНФ "Адраджэньне". І мне ёсьць што сказаць як пра "Новую гісторыю", так і пра выбары, якія і зьявіліся прычынай новай гісторыі.**



IREX-PROMEDIA

## Пра апазыцыю

Але пачаць трэба з апазыцыі, якой П.Севярынец дае вельмі непрывабную характарыстыку. Дарэчы, як і многія іншыя журналісты. Ён піша пра "убогасьць цяперашняе апазыцыі". Пра тое, што "апазыцыя ўсё, што магла, ужо сказала". І бачыць выйсьце, "толькі калі апазыцыя пазбудзецца звыклае пыхі, калі любоў стане цаніцца намі ў палітыцы вышэй за нянавісьць". Безумоўна, для гэтых філіпік ёсьць пэўныя падставы, як ёсьць і пэўная доля віны апазыцыі ў тым, што А.Лукашэнка застаўся пры ўладзе. Але ёсьць у мяне і два пытаньні да аўтара гэтых адкрыцьцяў.

Да апошняга часу я лічыў Паўла Севярынца і Малады Фронт складовую частку апазыцыі. Ці трэба разумець, што "убогасьць і пыха" тычацца і самога аўтара? Мне здаецца, што сам Павал падсьвядома адчувае неабходнасьць знайсьці нейкае тлумачэньне сваім пачуцьцям і таму піша: "Іншымі словамі — застанемся мы вечнай апазыцыяй ці ўрэшце ператворымся ў *альтэрнатыву*?". Слова "альтэрнатыва" вылучана шрыфтам і таму ўспрымаецца як нешта адрознае ад апазыцыі, хоць насамрэч між гэтымі паняцьцямі няма розьніцы. Мусім разглядаць "Новае слова" — першую частку "Новай гісторыі" П.Севярынца — як новую форму самакрытыкі.

Другое недаўменнае пытаньне тычыцца самога складу апазыцыі (альтэрнатывы) існуючаму рэжыму. Аўтар прызнае толькі адзін нутраны падзел гэтага паняцьця. Ён піша: "Менавіта яны [моладзь] арганізавалі сапраўды адкрытую й дэманстратыўную апазыцыю рэжыму". Але гэта вельмі спрошчаны падыход. Любая апазыцыя дыктатарскаму рэжыму ўяўляе сабой складаную і неаднастайную структуру. Беларусь не выключэньне. Ігнараваць гэтую акалічнасьць недаравальна палітыку, няхай сабе маладому і новаму.

У канцы лета 1999 г. у Мінску ўтварылася Кансультацыйная рада апазыцыйных палітычных партый (КРАПП) для правядзеньня перамоваў з рэжымам пры пасрэдніцтве КНГ АБСЭ аб падрыхтоўцы свабодных і справядлівых выбараў. Як вядома, перамоваў не адбылося. Выбары як у палату прадстаўнікоў, так і прэзыдэнта адбываліся па недэмакратычных законах зь вялікай колькасьцю парушэньняў гэтых законаў. Таму іх вынікі не былі прызнаныя міжнароднай супольнасьцю. Нявыкананымі аказаліся чатыры ўмовы правядзеньня роўных і справядлівых выбараў. Таму і засталася праблема перамоваў з рэжымам. І, адпаведна, працягнула сваё існаваньне Кансультацыйная рада. У яе склад уваходзяць восем апазыцыйных партый — партыя БНФ і АГП, Партыя камуністаў і ЛДП ды яшчэ чатыры партыі сацыял-дэмакратычнага кірунку. І тым ня менш, гэта ня ўся апазыцыя. Ёсьць яшчэ Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя З.Пазьняка і дзьве экалягічныя партыі, прыналежнасьць якіх да партыйнай апазыцыі бясспрэчная.

Нават з гэтага пераліку відаць, што гаварыць пра апазыцыю існуючаму рэжыму як пра нешта маналітнае не выпадае. І палітычная практыка гэта пацьвярджае. У другую палатку балятаваліся сябры БСДП, ПКБ і ЛДП. Нават у прэзыдэнцкіх выбарах асобна ўдзельнічаў С.Гайдукевіч — лідэр ЛДП.

## Пра выбары

Падчас прэзыдэнцкай кампаніі дэмакратычнае крыло апазыцыі прыклала калясальныя намаганьньні, каб выступіць адзіным фронтам. І тым ня менш прайграла. Чаму? Аўтар "Новай гісторыі" ў сваім аналізе прычынаў амаль бездакорны. Ён піша: "Ня мела прынцыповага значэньня, хто менавіта будзе раскручвацца ў якасьці апанэнта Лукашэнкі". Гэта слушна, хаця многія, асабліва ў час самой кампаніі, зацята спрачаліся, хто лепшы: У.Ганчарык ці С.Домаш? Слушна названая і сапраўдная прычына: "Адзіны быў — не было еднасьці". І гэты канфуз зь еднасьцю патрабуе тлумачэньня.

Як сьведчаць зьвесткі сацыёлягаў, беларускае грамадзтва расколатае прыкладна на дзьве роўныя часткі — за і супраць А.Лукашэнкі. Плюс частка нявызначаных у сваіх сымпатыях.

Перад выбарамі прэзыдэнта было відавочна, што нельга выстаўляць некалькі дэмакратычных прэтэндэнтаў. Бо калі 25% прыхільнікаў А.Лукашэнкі маналітныя ў сваім выбары, то сярод 25% ягоных праціўнікаў ёсьць прыхільнікі і М.Чыгіра, і З.Пазьняка, а ня толькі С.Домаша і У.Ганчарыка. Адзіным трэ было выбіраць чалавека, які быў бы здольны заваяваць яшчэ ня менш чым палову тых, хто вагаецца. А заваяваць іх можна было толькі энэргічнай агітацыйнай кампаніяй "ад дзьвярэй да дзьвярэй". Гэтыя меркаваньні і вызначылі тактычныя межы выбарчай кампаніі.

Партыі, аб'яднаныя Каардынацыйнай радаю дэмакратычных сілаў, спынілі свой выбар на трох кандыдатурах — С.Домаша, У.Ганчарыка і М.Чыгіра. І пайшлі на ўтварэньне шырокай грамадзянскай кааліцыі з удзелам ПКБ. У гэтых, здавалася б, відавочных кроках і хаваліся крыніцы далейшых памылак. Вельмі хутка "тройка" ператварылася ў "пяцёрку" за кошт далучаных П.Казлоўскага і С.Калякіна. Кожны зь іх стаў стварыць сваю каманду падтрымкі з актывістаў тых партый, якія павінны былі правесьці аб'яднаную агітацыйную кампанію. Больш за тое, "пяцёрка" заявіла пра намер самастойна вылучыць адзінага. А партыі сацыял-дэмакратычнага кірунку (БСДП НГ, БСДГ, "Надзея" і Партыя працы) заблякавалі ідэю скліканьня Кангрэсу дэмакратычных сілаў, які мог бы назваць кандыдатуру адзінага безь "пяцёркі".

Усё гэта праявы невысокай палітычнай культуры як саміх прэтэндэнтаў, так і сяброў дэмакратычных партый. Нічога дзіўнага, калі згадаць, колькі год беларусы ведалі толькі кабінэтную палітыку і паддыванныя змаганьні. І калі ўспомніць, колькі яшчэ "дэмакратаў" знайшлося, акрамя дэмакратычнай "пяцёркі". Таму ня мае рацыі П.Севярынец, калі сумняваецца ў здольнасьцях лідэраў "старой" апазыцыі. Бо калі больш за 20 каманд пачалі збор подпісаў кожная за свайго кандыдата, замест таго, каб збіраць подпісы і агітаваць за адзінага, стала відавочна, што гэта — параза. Засталася толькі адно. Паспрабаваць усё-такі рэалізаваць ідэю "адзінага". Зь вялікімі цяжкасьцямі і вельмі запозьнена гэта ўдалося. І сацыёлягі адзначылі імклівы рост рэйтынгу "адзінага", які за тры тыдні дасягнуў прыкладна 30%.

Мараль, якая вынікае з гэтай прыкрай гісторыі, вельмі простая. Шырокая грамадзянская кааліцыя аказалася занадта шырокай і таму недзеяздольнай. Партыі, якія выкарыстоўваюць кансэнсус як прыладу шантажу, не павінны быць удзельнікамі дэмакратычных кааліцый. Няхай яны ўтвараюць кааліцыі "За сацыяльны прагрэс". Іх лёс наўрад ці будзе лепшы за лёс "адзінокага ваўка" С.Гайдукевіча.

## "Каб усе былі адно"

Гэта словы Хрыста, якія прыводзіць эвангеліст Ян. Яны сьведчаць пра тое, што праблема адзінства старая як сьвет. Хрыстос пакідае гэты запавет сваім вучням і аднадумцам. Ён не зьвяртаецца да фарысэяў з садукеямі ці да зэлётаў з эсэнамі. Тым самым ён падкрэсьлівае, што адзінства магчымае на глебе супольнага сьветапогляду і мэтаў. У палітыцы апошняе асабліва важнае. Дастаткова згадаць італьянскіх хрысьціянскіх дэмакратаў, якія неаднаразова ўтваралі кааліцыі з сацыялістамі дзеля палітычнай стабільнасьці і эканамічнага росквіту сваёй краіны. А на Філіпінах хрысьціянскія дэмакраты ўступілі ў кааліцыю з мусульманскай партыяй дзеля спыненьня грамадзянскай вайны.

Гэтыя прыклады сьведчаць, што добрасумленны саюз магчымы з досыць рознымі палітычнымі сіламі. Але добрасумленны — калі партнэры ставяць дасягненьне супольнай мэты вышэй за прыватныя інтарэсы. Таму мяне зьдзіўляе зласьлівы выпад П.Севярынца супроць некаторых удзельнікаў выбарчай кампаніі. Ён піша: "Некаторым здавалася, што новыя словы ў беларускай палітыцы — гэта "бабры" й "зубры". Першыя, былая саўбеларуская намэнклятура з красамоўнай назвай "За новую Беларусь", выявіліся поўнымі палітычнымі пэнсіянэрамі. А другія, маркетынгавая сетка па збыце лібэралізму, скончылі як фінансавыя піраміды".

Ня хочацца быць занадта рыгарыстычным, але нельга не заўважыць, што хамскі тон у адносінах да "палітычных пэнсіянэраў" недарэчны. Тое, што камуністычная намэнклятура — людзі зь ведамі і вопытам кіраваньня — не раскалолася і ня стала на бок Адраджэньня ў пачатку 90-х, было прычынаю паразы першай хвалі дэмакратызацыі. Тое, што цяпер на баку апазыцыі выступае цэлы кабінэт міністраў, — вялікая заваёва беларускай дэмакратыі і падстава для аптымізму. Гэта сьведчыць пра тое, што мы можам перацягнуць на свой бок хісткую частку электарату. Вядома, былой намэнклятуры не хапае дэмакратычнага палітычнага вопыту, што наглядна прадэманстравала "пяцёрка". Але яго не хапае і маладым палітыкам.

Калі я ў дзяцінстве пачынаў занадта выхваляцца, мая бабка прыгаворвала: "Так, так, калі не пахвалішся — хто ж пахваліць?" І мне станавілася сорамна. Гэтую бабчыну прымаўку я ўспомніў, калі прачытаў, што адзінай пасьпяховай была кампанія "Выбірай". Толькі сабе ў заслугу паставіў П.Севярынец, што на выбары прыйшло амаль 90% моладзі. Забыўшыся пры гэтым, што на мабілізацыю моладзі працавалі і тыя ж "зубры" з кампаніяй "Час выбіраць", і тыя 20 дэмакратычных кандыдатаў, што зьбіралі подпісы (ускосны станоўчы вынік памылковай палітыкі), і сам А.Лукашэнка, які прымушаў "вэртыкаль" гнаць студэнтаў на датэрміновае галасаваньне. Справа нават ня ў гэтым. Справа ў тым, што сама па сабе кампанія "Выбірай" недастатковая і непаўнавартасная. Па-першае, трэ было мець лёзунг "Выбірай адзінага", каб кампэнсаваць апрыёрную слабасьць інфармацыйнай кампаніі апазыцыі. Заклік "выбірай" павісае ў безпаветранай прасторы і не гарантуе перамогі. Па-другое, трэ было паклапаціцца пра абарону дасягнутага: сэрбскі досьвед яшчэ доўга будзе для нас раздражняльнікам. Я быў у ноч з 9 на 10 верасьня ў Палацы прафсаюзаў і бачыў там "зуброў", а не П.Севярынца. Ужо за гэта трэба паважаць сваіх камбатантаў-саратнікаў. А не пісаць: "З 1 200 000 маладых выбаршчыкаў... амаль мільён прагаласаваў супраць рэжыму. На жаль, сілаў аднаго толькі новага пакаленьня выявілася недастаткова". І ня будзе дастаткова, калі ў "новага пакаленьня" застанецца такое стаўленьне да "баброў" і "зуброў".

## Пра веру

У свае палітычныя тэксты Павал Севярынец часта ўстаўляе веравызнаўчыя ідэі і выразы, але непасьлядоўна і супярэчліва. Ён то папракае "апазыцыйную эліту" (гэта ж трэба — да чаго дажыліся!) у адсутнасьці духу "еднасьці й салідарнасьці, веры і любові", то абвінавачвае ўсю "беларускую эліту... у ненатуральным одуме". Заклікае апазыцыю "ісьці да рэальнага жыцьця без суфлёраў і прытворства", да людзей, якія "захапляюцца найлепшай у сьвеце беларускай гімнастыкай і сходамі эвангельскіх хрысьціянаў". Жорстка крытыкуе старую апазыцыю, якая "у адзін голас заяўляла аб прыярытэце матэрыяльных і сацыяльных пытаньняў... чым прынізілі беларускую нацыю". І фармулюе нарэшце сваё крэда: "Новыя палітычныя тэхналёгіі — пакаяньне і малітва, мітынговыя служэньні й нацыянальныя евангелізацыі".

Ад усяго гэтага патыхае клерыкалізмам. Заўсёды ваяўнічым і неталерантным. Клерыкальныя партыі вядомы ў гісторыі. Але ў хрысьціянскім сьвеце яны ня выжылі. У Беларусі ў тым ліку. Думаю, што і чарговая спроба ня будзе мець поспеху. Аднак спачатку пра веру. Бо яна для большасьці беларусаў адна — хрысьціянская. Розныя канфэсіі. З-за гэтай канфэсійнай стракатасьці клерыкальная палітыка небясьпечная.

Хрыстос сказаў: "Аддавайце кесарава кесару, а божае — Богу" (Мт. 22, 21). Кесарава — сфэра палітыкі. Божае — царквы. Яны ня блытаюцца і не супрацьстаяць адно аднаму, калі чалавек хрысьціянін, але напаўняюць духоўную сфэру чалавека. Сярод магічных словаў сп.Севярынца, якія ён паўтарае некалькі разоў, — "вера", "воля", "любоў", "дух" — не стае толькі "розуму", які зьяўляецца галоўнай адметнай рысай Духа Сьвятога. А калі б ён дадаў яго да свайго ганаровага шэрагу, то заўважыў бы, што супрацьпастаўленьне "веры" і "волі" прагматызму, іміджу, рэйтынгу, грошам і іншым нядобрым, на думку сп.Паўла, рэчам даволі штучнае.

Яшчэ да Хрыста было сказана: ня хлебам адзіным жывы чалавек. Але гэтая сэнтэнцыя не эліміное праваў "хлеба", а толькі абмяжоўвае іх. Заклікаць палітыкаў ці абвінавачваць іх за ўвагу да матэрыяльных і сацыяльных праблем — поўны абсурд. Як і рабіць з сацыяльных і нацыянальных канфліктаў "мітынговыя служэньні й нацыянальныя эвангелізацыі".

У чым сп.Павел абсалютна справядлівы, гэта ў патрабаваньні маральнасьці ад палітыкаў і беларусізацыі ад дзеючых у Беларусі канфэсій. З характэрнай для яго гіпэрбалізацыяй ён піша: "Адзінай палітычнай пэрспэктывай Беларусі зьяўляецца ўтварэньне магутнага хрысьціянска-дэмакратычнага руху на грунце нацыянальнай ідэі — з масавым апірышчам на каталіцкія, уніяцкія, пратэстанцкія й беларусізаваныя праваслаўныя суполкі... Гэта рух, які зьяднае маладых і рашучых абаронцаў незалежнасьці на вуліцы з хатнімі малітоўнымі гурткамі й вялізнымі агульнаграмадзкімі служэньнямі". Тут ён мае рацыю ў галоўным, але зусім ня новы.

У пачатку існаваньня БНФ "Адраджэньне", калі ішло абдумваньне і фармаваньне галоўных кірункаў і сродкаў дзейнасьці агульнанацыянальнага адраджэнскага руху, я зрабіў на Сойме даклад "Хрысьціянства і адраджэньне беларускай нацыянальнай культуры". Гэта адбылося 13 чэрвеня 1992 г., калі А.Лукашэнка яшчэ не хадзіў у царкву, а П.Севярынец — на мітынгі. Сэнс дакладу быў у абгрунтаваньні хрысьціянскай прыроды традыцыйнай культуры беларусаў і аналізе канфэсійнай палітыкі. У прынятай у 1993 г. Праграме БНФ тэзы дакладу збольшага былі ўлічаныя, а сама Праграма атрымала выразную хрысьціянска-дэмакратычную афарбоўку. Нездарма ж БНФ некалькі год быў спэцыяльна запрошаны арганізацыяй у хрысьціянска-дэмакратычным Інтэрнацыянале.

Горш як было, так і застаецца на сёньня з канфэсійнай палітыкай. Зь пералічаных П.Севярынцам канфэсій толькі ўніяты ў большасьці беларускамоўныя. Некаторыя ксяндзы вядуць службу па-беларуску. Сярод праваслаўных беларускамоўных сьвятароў яшчэ менш. Адзінкі беларускамоўных пастыраў і сярод пратэстантаў. Так і атрымліваецца, што галоўныя канфэсіі абслугоўваюць найперш нацыянальныя меншасьці.

Самае абуральнае, што за 10 год незалежнасьці ні адна з галоўных канфэсій не стварыла кананічнага перакладу Бібліі і багаслужбы. Гэта асабліва абуральна, калі прыгадаць, што сьвятым братам Кірылу і Мятоду хапіла 20 год, каб стварыць пісьмовую мову для дзікага народу і перакласьці на яе Святое пісьмо і літургію. Верагодна, ім дапамагаў Дух Сьвяты і гарачае жаданьне прывесьці да Хрыста новыя народы. А сёньня дзеяньня Духа Святога не відаць, за якія б словы ні хаваліся ярархі найбуйнейшых канфэсій. Таму, думаю, спадзяваньне на "хатнія малітоўныя гурткі й вялізныя агульнаграмадзкія служэньні" дачаснае.

Што ж атрымліваецца з "Новай гісторыі" П.Севярынца, калі адкінуць ад яе бясконцыя паўторы слова "новы"? Там застанецца тое, на чым будаваўся і існуе Народны Фронт. Ад чаго вышлі, туды і вярнуліся. Двойчы я раіў Паўлу прачытаць мой даклад, які быў надрукаваны ў брашуры "Сьветапоглядныя асновы дэмакратычнага руху" (Магілёў: Ратуша, 1993). І двойчы сп.Павал запэўніваў мяне, што ён гэта зрабіў. Але разыходжаньні засталіся. Таму я і спрачаюся зь ім публічна. Так патрабуе хрысьціянская этыка.

А чытачу меркаваць, хто мае рацыю.



АЛЕСЬ ШЫПКО



# Гандаль трупамі па-польску

Працяг са старонкі 5.

Практыка аплаты за "скуры" распаўсюдзілася па ўсёй Польшчы. Ёсьць у Лодзі фірма, якая плаціць толькі 1200 злотых, але прапануе "хуткай" дадатковыя паслугі — арганізоўвае адпачынак у Гішпаніі для дактароў і санітараў. Іншыя плацяць ад 1600 злотых за штуку. У іншых гарадах пахавальныя канторы плацяць супрацоўнікам "хуткай" ад 1000 да 1200 злотых за інфармацыю пра памерлага. У мястэчках цана ніжэйшая — каля 500 злотых. У Чанстахове супрацоўнікі фірмы, якая выйграла тэндэр на празэкцыю ў шпіталі, не аддаюць цела, калі сям'я не карыстаецца іхнымі паслугамі.



### Пасьведчаньне пра сьмерць — казырная карта

У гульню ўступаюць вялікія грошы. У Лодзі адна толькі "хуткая" фіксуе штомесяц каля 400 сьмерцяў. За колькі "скураў" плацяць фірмы "хуткай"? Па вельмі прыблізных падліках, сюды трапляюць грошы за 200—250 "скураў" штомесяц. Пры сярэдняй стаўцы ў 1500 злотых атрымліваецца 300—370 тысячаў штомесяц ці 3,6—4,5 мільёна за год. І ніякіх падаткаў.

Некаторыя прадаўцы "скураў", калі сваякі не пагаджаюцца на прапанову, ідуць на шантаж. Шанцы сям'і невялікія, бо ў доктара ёсьць казырная карта — пасьведчаньне пра сьмерць. Ён адзначае ў ім прычыну сьмерці — можа "адмовіць удзел трэціх асобаў", альбо пацьвердзіць натуральную сьмерць, "не адмаўляючы ўдзелу трэціх асобаў", альбо падазраваць забойства. У гэтым разе працэдура ўскладняецца, сям'я пазбаўляецца цела, якое адпраўляюць на анатамаваньне. А пахаваньне адкладаецца часам на дзясятак дзён.

### Дыспэтчары падказваюць: "Мабыць, памерла"

Змагаюцца і гандляры-дыспэтчары. У іх свой спосаб для адпраўкі па "скуру" абранай машыны.

Напрыклад, нехта звоніць і кажа: "Прыедзьце, бабуля памерла". Раз яна памерла, "хуткай" ня трэба сьпяшацца — сьмерць можна зафіксаваць і праз гадзіну. А дыспэтчару трэба, каб па "скуру" як мага хутчэй прыехала "ягоная" брыгада. І таму ён так скіроўвае размову, каб у дакумэнце запісаць фармулёўку "мабыць, нежывая" заміж "нежывая": "Ці праверылі вы пульс? Ці ўпэўненыя вы, што ёй ужо нельга дапамагчы?" Нарэшце дыспэтчар чуе жаданае "мабыць" і высылае на сыгнал "сваю" машыну.

Да тых, хто памірае і каму напраўду патрэбная дапамога "хуткай", едзе таксама найчасьцей не найбліжэйшая машына, а абраная.

Было і мноства выпадкаў, калі брыгада не сьпяшалася на выклік: чакала, што сьмерць надыдзе да ейнага прыезду. Гэта называлася "Едзем у Мак-Дональдз".

### Анёл Сьмерці, Скуралуп, Мэнгеле

У працаўнікоў "хуткай" былі й красамоўныя псэўданімы: доктар Мэнгеле, Скуралуп...

Самым вядомым зь іх стаў Анёл Сьмерці, які прыходзіў, аглядаў хворага і казаў: о, тут ужо не рэанімуеш. Мераў пульс і развітваўся. А чалавека яшчэ можна было ўратаваць...

Анёл Сьмерці — гэта Раман К., якога звольнілі летась за п'янку на працы. Пры ўладкаваньні на новае месца ён атрымаў з бальніцы хуткай дапамогі Лодзі добрую характарыстыку. Быў арыштаваны па абвінавачаньні ў атрыманьні хабару ад пахавальных фірмаў за продаж інфармацыі пра сьмерць пацыентаў. Мабыць, яго абвінавацяць і ў забойстве, калі пацьвердзіцца, што, заміж таго каб ратаваць хворых, ён прысьпешваў іхнюю сьмерць, каб зарабіць на інфармацыі пахавальным канторам.

### Павулён — мэдыкамэнт сьмерці

У сярэдзіне 2001 г. у лодзкую "хуткую" прыйшоў новы намесьнік дырэктара Януш Мараўскі. Новы намесьнік, сам па спэцыялізацыі анэстэзіёляг, пераглядаючы паперы, вызначыў, што ў "хуткай" назіраецца занадта вялікі попыт на павулён. Гэтыя дужа небясьпечныя лекі выдаваліся па звычайных зборных рэцэптах, якія выпісвалі дактары, папаўняючы запас машынаў. А найчасьцей яго дапісвалі ў рэцэпты — іншым почыркам, чым астатнія лекі.

Павулён трэба ўводзіць толькі ў апэрацыйнай залі, яго не павінен ужываць выязны пэрсанал "хуткай". У ЗША лекі такога тыпу могуць ужываць толькі спэцыялісты. Мала таго, дазволы выдаюцца на пэўны час і абумоўліваюцца дадатковымі пунктамі. У некаторых краінах падобныя прэпараты ўжываюць для выкананьня сьмяротных выракаў пасьля папярэдняга ўсыпленьня пацыента, напрыклад, барбітуратамі.

Расслабляльныя лекі існуюць дзеля таго, каб у апэрацыйнай залі пацыент ня дыхаў, бо за яго гэта робіць машына. Дыханьне не павінна "канфліктаваць" з працай абсталяваньня. Увядзеньне павулёну чалавеку ў поўнай прытомнасьці без усыпленьня — адзін з самых жорсткіх відаў сьмерці. Пацыент у поўнай сьвядомасьці губляе дыханьне. Паколькі ягоныя мускулы цалкам расслабленыя, у яго заплюшчваюцца вочы. Ён нічога ня можа сказаць і нават варухнуць пальцам. Ён задыхаецца і памірае ў пакутах...

У кастрычніку 2001 г. у "хуткай" зьмяніўся — упершыню за 12 гадоў — дырэктар. Новы, Багуслаў Тыка, быў ня доктар, а эканаміст, які раней кіраваў адным з лодзкіх шпіталяў.

Сёньня ўжо вядома, што ўвосень дырэктар Тыка ад новага намесьніка Мараўскага даведаўся пра падазроную сытуацыю з павулёнам. Празь некалькі тыдняў адбылася ягоная размова зь намесьнікам кіраўніка Цэнтральнага сьледчага бюро ў Лодзі.

### Будзе эксгумацыя?

Павулён надзвычай хутка раскладаецца ў арганізьме. Кажуць нават, што ён тэарэтычна мог бы прыдацца для "ідэальнага забойства".

Прафэсар Анджэй Куліг, кіраўнік аддзелу патамарфалёгіі Цэнтральнага інстытуту здароўя польскіх маціярок, адмаўляе:

— Ідэальнага забойства не існуе. Забойца заўжды пакідае сьляды. Адны лёгка распазнаць, другія вымагаюць дасьледаваньняў. Можна дасьледаваць само злучэньне, ці ягоныя рэшткі, ці ўплыў на арганізм. Многія сродкі шкодзяць тканкі, іншыя не пакідаюць такіх відавочных сьлядоў. І тут абавязкова патрэбныя таксыкалягічныя досьледы. А яны ўвесь час удасканальваюцца.

Зь неафіцыйных крыніцаў вядома, што сьледзтва мяркуе правесьці эксгумацыю целаў былых пацыентаў "хуткай", сьмерць якіх выклікае падазрэньні.

### Справа ўсеагульная

Паводле словаў старшыні аддзелу лодзкай пахавальнай канторы "Клепсыдра" Томаша Сальскага, пахавальныя фірмы плацілі "хуткай" ад 1200 да 1600 злотых: "Я ведаю, што палова гэтых грошай трапляла да дыспэтчараў, а другую частку дзялілі на чатырох работнікаў выратавальнай брыгады. Кожны зь іх атрымліваў каля 200 злотых з кожнага памерлага. Канторы "куплялі" ў "хуткай" блізу 200 трупаў штомесяц. Гэта паказвае, што тут круціліся тысячы злотых".

Гаспадар яшчэ адной невялікай пахавальнай канторы ў Лодзі, які пажадаў застацца невядомым, таксама пацьвердзіў, што гандаль трупамі распаўсюджаны ва ўсёй Польшчы.

### На дзяжурства — без мабільніка!

У Кракаве кіраўніцтва ваяводзтва пасьля таго, як выбухнуў скандал, пастанавіла, што пахавальныя фірмы ня могуць дзейнічаць у клініках і іншых установах службы аховы здароўя. Нельга там праводзіць і рэкляму іхных паслуг.

Міністар аховы здароўя Польшчы загадаў правесьці праверку выкарыстаньня расслабляльных, псыхатропных лекаў, а таксама лекаў з наркатычным узьдзеяньнем на асноўных станцыях "хуткай дапамогі" ў краіне.

Мясцовыя ўлады і Міністэрства аховы здароўя пачалі распрацоўваць новыя правілы паводзінаў супрацоўнікаў "хуткай", каб зрабіць гандаль інфармацыяй пра сьмерць немагчымым. Гэтак, у Апалі былі ўведзеныя спэцыяльныя бланкі пасьведчаньняў для сваякоў памерлага. У пасьведчаньні ёсьць пункт пра тое, што супрацоўнікі "хуткай" не давалі сям'і памерлага ніякай інфармацыі што да пахавальных паслуг.

У Быдгашчы рашэньнем ваяводзкага кіраўніцтва "хуткай дапамогі" ўведзеная забарона на ўжываньне мабільных тэлефонаў падчас працы з пацыентамі, каб мэдыкі не маглі перадаваць інфармацыю пра сьмерць пацыентаў пахавальным канторам. Супрацоўнікам "хуткай" забаронена таксама даваць візытоўкі пахавальных кантораў.

Кіраўніцтва паліцыі Польшчы таксама загадала ва ўсіх ваяводзтвах правесьці сьледзтвы ў "хуткай". Праз гэта выйшлі таксама і на іншыя парушэньні. Высьветлілася, што дзьве супрацоўніцы празэктарскай у Бельску Падляскім (там жывуць беларусы) ашукалі амаль 170 сем'яў. Дырэкцыя гэтай установы ў 2000 г. практыкавала спагнаньне платы за дзейнасьць, зьвязаную з выдачай трупаў сваякам. Стаўка складала 150 злотых. Жанчыны, прымаючы грошы, выпісвалі квіток у трох асобніках. На двух дакумэнтах, якія заставаліся ў бальнічным архіве, яны запісвалі 150 злотых, а на квітку, які аддавалі сваякам, — 200 злотых.

Улады многіх ваяводзтваў і падначаленыя ім клінікі забаранілі супрацоўнікам установаў аховы здароўя ўсялякія службовыя кантакты з пахавальнымі фірмамі. Аднак пра супрацоўніцтва паміж бальніцамі і ўстановамі, якія займаюцца пахаваньнямі, кіраўнікі ўстановаў і начальства, якое наглядае за імі, ведалі ўжо не адзін год. Няўжо патрэбны быў лодзкі скандал, каб яны зрабілі адпаведныя захады?

**Аркадзь Шанскі**

**АЛЯКСАНДАР СМОЛЯР, аналітык варшаўскай Фундацыі Сьцяпана Батуры, якая вывучае разьвіцьцё дэмакратыі й адкрытага грамадзтва, лічыць, што давер да польскай сыстэмы аховы здароўя традыцыйна быў вельмі нізкім, але апошні скандал ускалыхнуў усіх. Смоляр лічыць, што ў скандале ёсьць адна добрая рэч. Пасьля такой вялікай увагі да службы аховы здароўя могуць настаць паляпшэньні. Лепш за ўсё, на думку Смоляра, тое, што скандал прымусіць людзей задумацца пра цану польскіх эканамічных зьменаў, якія адбыліся пасьля калапсу камунізму. "Дый наагул задумацца пра маральны ўзровень і пра наступствы эканамічных і сацыяльных пераўтварэньняў пачатку 90-х, — зазначае Смоляр. — Радыкальны пераход ад плянавай эканомікі да рынкавай суправаджаўся жудаснымі тэндэнцыямі. Грамадзкая думка засяродзілася на дасягненьні посьпеху толькі ў фінансавым дачыненьні. Гэта спрыяла карупцыі ў сыстэме аховы здароўя. Гэта спрыяла, калі так можна выказацца, парушэньню маральнай тканкі некаторых частак сыстэмы аховы здароўя". На думку Смоляра, ёсьць і небясьпечны аспэкт у афэры: "Многія палітыкі і журналісты кажуць зараз, што тое, што адбылося ў Лодзі і, верагодна, у іншых гарадах, стварыць уражаньне, нібы гэта паўсюдная зьява, што насамрэч, ведама ж, ня так".**

in memoriam

# Рэабілітацыі не дачакаў

14 сьнежня ў Навагрудку на 79-м годзе жыцьця памёр паэт Самсон Пярловіч. Памёр шчыры беларус. Памёр пясьняр-самавучка з Навагрудчыны.

Гітлераўскія і сталінскія лягеры ня зьнішчылі ў ім сумленьня, любові да роднай Навагрудзкай зямлі, да беларускага слова.

Самсон Пярловіч (а разам зь ім 18 сяброў, у тым ліку і я) 29—30 жніўня 1947 г. вайсковым трыбуналам Баранавіч былі асуджаны на 8—25 гадоў зьняволеньня за прыналежнасьць да падпольнай патрыятычнай арганізацыі "Саюз вызваленьня Беларусі" (СВБ). Самсон атрымаў 10 гадоў.

Пры арышце ў яго быў знойдзены верш "Паднімаецца крыўда", за які зь менскай "амэрыканкі" Пярловіча вадзілі пад канвоем да самога Цанавы. Вельмі ж таму хацелася пабачыць юнака, які пасьмеў узьняць голас супраць Сталіна і ягоных падхалімаў.

Я разам зь Пярловічам прайшоў праз пакуты на лесапавалах Усьць-Вым, на будаўніцтве шахтаў у Карлагу, спаў разам зь ім на голых нарах. І там, на голых нарах, Пярловіч складаў вершы без алоўка, якія мы вучылі на памяць для будучыні.

У 1956 г. Пярловіч вярнуўся ў свой Навагрудак, працаваў, пісаў вершы. Выйшлі з друку ягоныя зборнікі "Заяц на бярозе", "Чарадзейны агонь", "Бясьсьмертнік". Самсон рыхтаваў матэрыялы яшчэ для аднаго зборніка. Не пасьпеў...

Рэабілітацыі не дачакаў.

З 18 сяброў СВБ цяпер засталіся ў жывых толькі тры.

Хочацца верыць, што прыйдзе час, Навагрудчына ўшануе імя свайго слаўнага сына і зерне, пасеянае ім, узыдзе буйным коласам.

Няхай яму яго любая Навагрудзкая зямелька будзе пухам.

**Кастусь Рамановіч, Пінск**

**Самсон Пярловіч**

### Паднімаецца крыўда



І ноччу, і днём падхалімы скуляць
Пра росквіт жыцьця, пра свабоду.
Ад гэтай "свабоды" аж стогне зямля,
У "росквіце" тым — сьмерць народу,

Бо Сталін-тыран, і старых, і малых
Запрэгшы ў прыгонныя ёрмы,
Нявіннай крывёй суцішае іклы,
Каму колькі жыць, ставіць нормы.

Людзей каб прымусіць пакорна маўчаць
Пад страхам, як вязьняў бяспраўных,
Са зграяй сваёю пачаў вынішчаць
Народу сыноў самых слаўных.

А каб заслужыць і праклёны, і боль,
Кляймом страшным — "вораг народу"
Кляймяць чалавека, ды ўсё штораз больш
Зьнішчаюць людзей з кожным годам.

Калі б удалося ўсе косьці сабраць
Усюды, дзе палі ахвяры,
З касьцей тых, напэўна, узьнялася б гара,
Што рвала б вяршыняю хмары.

А сьлёзы і кроў, што замучаны люд
У горы бязьлітасным выліў,
Каб не пранікалі ў матулю-зямлю.
І сонца, мабыць, патушылі б.

Ці ж выцерпіць крыўда? Мільёнам галоў
Яна яшчэ грозна паўстане!
Хіба хто апошнім сумленьнем аглох,
Той толькі мо сьцерпіць маўчаньне.

**Навагрудак, 1947 г.**

## 150 гадоў вадзяному зьліву

**2 лютага 1852 г. у Лёндане** адчынілася першая прыбіральня з вадзяным зьлівам. За выгоды пачалі браць грошы. Аўтар ідэі — Генры Коўл. У Менску ж толькі ў 1873 г. заклалі водаправод.

## Косава

**3 лютага 1927 г. у Косаве (Івацэвіччына)** мясцовыя камуністы зладзілі дэманстрацыю пратэсту супраць арышту сяброў БСРГ. Сабралі пад паўтары тысячы косаўцаў. Сяляне пад чырвонымі сьцягамі і лёзунгамі "Вызваліць рабоча-сялянскіх дэпутатаў" ды "Далоў фашысцкую дыктатуру Пілсудзкага" рушылі па мястэчку, па дарозе разагналі паліцыю. Калі паспрабавалі прайсьці другі раз, паліцыянты пачалі страляць. Загінулі 6 чалавек, дзясяткі былі параненыя.

## Бацька нямецкага цуду

**4 лютага 1977 г.** памёр бацька нямецкага *Wirtschaftswunder* (эканамічнага цуду) Людвіг Эрхард. У 1949 г. канцлер новай Нямеччыны Конрад Адэнаўэр прапанаваў прафэсару эканомікі Эрхарду ўзваліць на плечы клопат пра зьнішчаную і разрабаваную Нямеччыну. Ужо ў 1957 г. дойчмарка стала адной з самых трывалых валютаў у Эўропе. А Эрхард кіраваў эканомікай ажно да 1969 г.: не адпускалі яго на спачын удзячныя суайчыньнікі. Нават сацыял-дэмакраты, што прыйшлі да ўлады ў тым годзе, паслугоўваліся ягонымі рэцэптамі.

А вось беларусы, што ўлетку 1944 г. пакінулі радзіму і аселі ў Нямеччыне, не любілі Эрхарда, бо пры ім распусьцілі лягеры DP (для перамешчаных асобаў). І мусілі дзясяткі тысячаў беларусаў далей ад бацькаўшчыны ў заходні сьвет ехаць шукаць шчасьця.

## Генэрал кавалерыі

**7 лютага 1902 г. у Хоціне (Лепельшчына) нарадзіўся Леў Даватар,** генэрал Чырвонай арміі. Падчас нямецка-савецкай вайны камандаваў кавалерыйскім корпусам на Смаленшчыне, рабіў сьмелыя рэйды ў нямецкі тыл, потым браў удзел у абароне Масквы. За ягоную галаву нямецкае камандаваньне прызначыла ўзнагароду 50 тыс. марак. Даватар загінуў 19 сьнежня 1941 г. у баі ля гораду Руза.

## Вечны мяцежнік

**10 лютага 1452 г. памёр князь Сьвідрыгайла.** Нарадзіўся ён каля 1370 г., калі ягонаму бацьку Альгерду было больш за 70 гадоў. Фактычна тры дзесяцігодзьдзі ён змагаўся зь Вітаўтам за трон ВКЛ. Прымірыліся стрыечныя браты толькі ў 1419 г., калі Сьвідрыгайла атрымаў ад Вітаўта Чарнігаў, Бранск і Ноўгарад-Северскі. Сьвідрыгайла, хоць і быў каталіком (у 1386 г. хрысьціўся пад імем Баляслаў), здабыў вялікую папулярнасьць у праваслаўных баяраў ВКЛ. Пасьля сьмерці Вітаўта Сьвідрыгайлу абралі вялікім князем. Незадаволеная каталіцкая знаць вырашыла зьвергнуць Сьвідрыгайлу і абрала князем Жыгімонта Кейстутавіча. Сьвідрыгайла зьбег у Полацак. Яго падтрымалі праваслаўныя фэадалы з Цэнтральнай і Ўсходняй Беларусі, і ён паспрабаваў стварыць Вялікае Княства Рускае. У ВКЛ пачалася грамадзянская вайна, што трывала амаль чатыры гады. У 1434 г. Жыгімонт прывілеем зраўняў праваслаўных з каталікамі, і тыя кінулі Сьвідрыгайлу. А ў 1435 г. ягонае войска на рацэ Швянтоі было ўшчэнт разьбітае Жыгімонтам Кейстутавічам. Праз пяць гадоў Сьвідрыгайла з усімі памірыўся і атрымаў удзел на Валыні.



## Выкладчык і выдавец

**11 лютага 1877 г. у Менску нарадзіўся Антон Нэканда-Трэпка,** пляменьнік Янкі Лучыны. Скончыў Пецярбурскі тэхналягічны інстытут, электратэхнічныя курсы ў Льежы. У Пецярбурзе быў адным з заснавальнікаў БСГ і суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца". З 1918 г. жыў у Менску, выкладаў у настаўніцкім інстытуце. Бальшавікі арыштавалі яго разам з Вацлавам Іваноўскім, рэктарам Менскага пэдінстытуту, і выслалі абодвух у Смаленск як шпіёнаў. У лістападзе 1919 г. іх адпусьцілі, і яны вярнуліся ў Менск. Іваноўскі прызначыў Трэпку намесьнікам рэктара пэдінстытуту. Набліжалася новая бальшавіцкая акупацыя, і Трэпка вырашыў больш не выпрабоўваць лёсу і выехаў у Вільню. Выкладаў фізіку і матэматыку ў беларускай гімназіі, напісаў некалькі падручнікаў. У 1939 г. саветы, што захапілі горад, арыштавалі Трэпку і як ворага народу вывезьлі ў Сібір. У 1941 г. у СССР пачаў стварацца польскі корпус генэрала Андэрса, і Нэканда-Трэпка вырашыў запісацца ў яго, абы вызваліцца зь няволі. Але дабрацца да Андэрса 65-гадовы пэдагог не пасьпеў: памёр у дарозе ў сьнежні 1942 г.

## Расстралянае пакаленьне

**13 лютага 1927 г. у Менску** скончыў працу II Усебеларускі краязнаўчы зьезд. У ім бралі ўдзел 187 дэлегатаў, што рэпрэзэнтавалі 240 арганізацыяў БССР. Друкаваным органам руху краязнаўцаў быў часопіс "Наш край" (галоўны рэдактар Зьмітрок Бядуля). Прайшло тры гады, і беларускае краязнаўства разам зь ягонымі ўдзельнікамі было прызнанае клясава шкодным. Амаль усе дэлегаты зьезду прайшлі праз Сібір або загінулі.

## Аўтар "Караняслова"

**16 лютага 1802 г. у Магілёве нарадзіўся Фёдар Шымкевіч,** пэдагог ды мовазнаўца. Ён склаў этымалягічны слоўнік "Караняслоў расейскай мовы, параўнаны з усімі найгалоўнейшымі славянскімі гаворкамі і з дваццацьцю чатырма замежнымі мовамі". А ў рукапісах засталіся слоўнікі беларускай, украінскай, сэрбахарвацкай, славенскай ды верхнялужыцкай моваў. Не пасьпеў выдаць, бо памёр рана, у 41 год.

## Вялікі лекар

**18 лютага 1877 г. памёр Вільгельм Гіндэнбург.** Вільгельма Гіндэнбурга ў XIX ст. ведаў увесь Менск. Ён скончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту (1821), у 1825 г. атрымаў месца павятовага лекара ў Ельні Смаленскай губ. У Еленскім павеце жыў Міхаіл Глінка, будучы кампазытар, які і быў ягоным сталым пацыентам. У 1833 г. Гіндэнбург пераехаў у Менск, быў акушэрам пры губэрнскай больніцы, а таксама лекарам у менскай турме. Лекарская практыка магла даваць вялікі даход, але Гіндэнбург большасьць сваіх ганарараў аддаваў на лячэньне беднякоў. Памёр у 1877 г. у галечы, але менчукі пахавалі яго на свае сродкі. А Дастаеўскі напісаў па ім нэкралёг у адной з газэт.

## Васіль Кендыш

**20 лютага 1977 г. у Рычмандзе (штат Мэн)** была заснаваная беларуская праваслаўная парафія. Першую багаслужбу адправіў а.Васіль Кендыш. Многія беларускія дзеячы на эміграцыі станавіліся пры канцы жыцьця праваслаўнымі сьвятарамі. Вось і Кендыш, які разам зь Янкам Станкевічам ды Антонам Адамовічам быў заснавальнікам Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны, быў рукапаложаны ў сьвятары Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Ня раз ад імя гэтае царквы маліўся ў Кангрэсе ЗША.

## Генэрал Цікота

**21 лютага 1952 г. у больніцы №38** на лініі Тайшэт-Брацк-Заярск памёр сьвятар Андрэй Цікота. Цікота нарадзіўся на Віленшчыне ў 1891 г. Ягоны лёс тыповы для сьвятара-беларуса пачатку XX ст.: навучаньне ў Віленскай каталіцкай сэмінарыі, потым у Пецярбурскай духоўнай акадэміі. Браў удзел у I зьезьдзе беларускіх каталіцкіх сьвятароў (1917), быў сябрам Рады БНР. У 1923 г. арганізаваў гімназію ў Друі. У 1933 г. Цікоту выбралі генэралам ордэну марыянаў і ў 1934 г. накіравалі ў Харбін (Манчжурыя) працаваць ва Ўсходняй місіі. У 1939 г. ён узначаліў місію ды стаў дырэктарам ліцэю сьв.Мікалая. У 1945 г. Харбін занялі кітайскія камуністы ды выдалі ўсіх саветам. Цікоту арыштавалі 22 сьнежня 1948 г. і выслалі ў Чыту, а потым — у Тайшэтляг. Недалёкія турэмшчыкі і чуць ня чулі, хто такі генэрал ордэну марыянаў, і на першы допыт прыслалі палкоўніка дзяржбясьпекі. Цікота адмовіўся зь ім гаварыць. Напэўна, пакрыўдзіўся, падумалі сьледчыя і на наступны допыт прыслалі генэрала. Цікоту далі 25 гадоў лягераў. Але ён не пражыў і чатырох. А.Язэп Германовіч пазьней пісаў: "Калі я яго ўбачыў у канцы нашага сьледзтва, пасьля 5-ці месяцаў расстаньня, я дужа зьдзівіўся, як гэты моцны чалавек схудзеў і паслабеў; навет ягоны голас, заўсёды зычны і мілагучны, стаўся прыглушаным, як надтрэснуты звон... Здавалася, што Цікоту ў турме падмянілі. Айцец Андрэй захіснуўся, як вялікі дуб, што дзясяткі гадоў красаваўся на высокай гары йераможна змагаўся з бурамі — аж раптам, удараны перуном, расшчапіўся напалам: адна часьць грукнула на зямлю, а другая, апаленая, стырчэла без сукоў, сумна паглядаючы ў неба".

## Гогаль

**23 лютага 1852 г. расейскі пісьменьнік Мікалай Васілевіч Гогаль** нечакана ўстаў пасярод ночы і загадаў свайму служку Сямёну запаліць у печы. Слуга выканаў загад, і Гогаль укінуў у агонь вялікі скрутак папераў. Большасьць дасьледчыкаў мяркуюць, што ў агні згарэў другі том "Мёртвых душаў". Гогаль праз колькі тыдняў сканаў. Праўда, у тэстамэнце прасіў не хаваць адразу, а пачакаць колькі дзён. Не паслухаліся, закапалі пісьменьніка. І кажуць, што закапалі яго жывым. Бо Гогаль знаходзіўся ў летаргічным сьне.

## Змоўк "Наш голас"

**28 лютага 1927 г.** польскія ўлады забаранілі віленскую газэту "Наш голас". "Наш голас" быў органам БСРГ і праіснаваў толькі месяц. Газэту заснавалі 27 студзеня. З 10 нумароў газэты палову сканфіскавалі.

**Алег Гардзіенка**

# дзе варта быць

## Старая беларуская фатаграфія

**Выстава "Адбіткі вечнасьці" з сэрыі "Беларуская фатаграфія: на стыку стагодзьдзяў" адкрываецца ў галерэі "Нова" Купалаўскай бібліятэцы.** Наведнікі пабачаць старую беларускую фатаграфію — работы малавядомых аўтараў пач. XX ст. Міхала Зубея і Фёдара Ястрэмскага, а таксама малавядомыя работы Яна Булгака. Частка экспазыцыйнага матэрыялу выставы запазычаная з фондаў Музэю гісторыі і культуры Беларусі і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Другую частку экспазіцыі склалі здымкі Міхала Зубея з прыватнай калекцыі Раманюкоў. Бяз шчырай дапамогі нашаніўца Дзяніса Раманюка наўрад ці гэтая выстава была б магчымая. Зафундаваў выставу Інстытут адкрытага грамадзтва. І цяпер з мноства крохкіх адбітачкаў мінулага кожны можа скласьці карціну Вечнасьці.

## Свабода@без.цябе

**У аўторак, 19 лютага, у Беларускім калегіюме (вул.Харужай, 16) адбудзецца прэзэнтацыя кнігі "Свабода@без.цябе".** Пачатак у 18.30. У кнізе апавядаецца пра польскі, мэксыканскі і югаслаўскі спосабы барацьбы за свабоду і дэмакратыю шляхам мастацкіх акцый. Пішацца ў кнізе пра польскую "Памаранчовую альтэрнатыву" 1980-х, пра польскія тэатры "Акадэмія руху", "Правізорыюм", "Тэатар восьмага дня", пра барацьбу індзейцаў пад кіраўніцтвам камандантэ Маркаса, варшаўскі цэнтар дасьледаваньняў сучаснай гісторыі "Карта" і студэнцкі маратон пэрформансаў на вуліцах Бялграду ў 1997 г. Стыль-рэдактарам кнігі выступіў лідэр беларускіх анархістаў Паўлюк Канавальчык, а дызайнэрам — Міхал Анемпадыстаў.

**Ул. інф.**

## Запрашае музэй Караткевіча

**Першых наведнікаў прыняў музэй Уладзімера Караткевіча ў Воршы.** Год пасьля афіцыйнага адкрыцьця важдаліся зь недаробкамі, што засталіся пасьля рэканструкцыі будынку (у якім, дарэчы, нарадзіўся ў 1930 г. будучы клясык). У вітрынах музэю — рукапісы, здымкі і асабістыя рэчы пісьменьніка, кнігі на розных мовах сьвету. На сьценах — творы Драчова, Марачкіна, Купавы.

## Да юбілею песьняра

**Пасол Беларусі ў Вялікай Брытаніі Валер Садоха ўзяў удзел у вечарыне, прысьвечанай 120-м угодкам з дня нараджэньня клясыка беларускай літаратуры Якуба Коласа** і арганізаванай Ангельска-беларускім таварыствам пры ўдзеле беларускага пасольства. На вечарыне выступілі паэтавы сваякі, былі прачытаны ўрыўкі з паэмы "Новая зямля" ў перакладзе паэткі Веры Рыч. Адбыўся невялікі канцэрт, у якім удзельнічалі беларускія дзеці, што знаходзяцца ў Вялікай Брытаніі па лініі няўрадавай арганізацыі "Сакавік". Пасол Садоха ўзяў удзел і ў адкрыцьці выстаўкі работ беларускага мастака Ігара Цішына ў галерэі "Ўарстоўн" у Бірмінгеме. Гэта першая з сэрыі выставак сучасных беларускіх мастакоў, якія плянуецца правесьці ў Бірмінгеме сёлета.

## Выстава ў Пружане

**У музэі-сядзібе "Пружанскі палацык" адчыненая для наведваньня выстава графікі Эдуарда Валасевіча "Вока, якое плача".** Мастак працуе ў плыні "кубічнага сюррэалізму". Усе работы выкананы гуашшу на кардоне ў сьветла-карычневых тонах. У экспазыцыі прадстаўлены 22 карціны мастака — своеасаблівы збор ідэй аўтара за апошнія пяць год, якія ён рэалізаваў летась. Гэта першая асабістая выстава мастака..



Э.Валасевіч. "Сум"

**Юрась Зялевіч, Пружана**

чытанка для дзетак

# Казачка

## на дзень сьвятога Валянціна



Гэтая гісторыя адбылася даўным-даўно, калі ў сьвеце яшчэ правілі каралі, рыцары не шкадавалі свайго жыцьця, баронячы родны край і ўласны гонар, а прыўкрасныя дамы адорвалі герояў сапраўды райскай пяшчотай.

Дык вось, даўным-даўно жыў на сьвеце адзін кароль — зваўся Валянцін Першы і Непаўторны. Адным словам — казырны быў Кароль. Быў ён выбітны ваяка і ў свой час праславіўся многімі перамогамі. А як пастарэў Кароль-ваяка — стаў ён вясёлы гуляка. З суседзямі, зь якімі раней ваяваў, памірыўся, у госьці запрашаў ды балі спраўляў. І вось аднойчы да нашага караля завіталі цыганы. Для цыгана, вядома, дзе фэст — там і я ест. Зайгралі, засьпявалі, затанчылі цыганы, як сьлед усіх развесялілі. А тады адна сымпатычная Цыганка да караля падлабунілася і кажа:



— Пазалаці ручку, саколік, паваражу — усю праўду скажу.

Пазалаціў Кароль шчодра і чакае свайго лёсу. Цыганка раскінула карты і так кажа:

— Ой, саколік, была ў цябе першая жонка — ды ўцякла. Маеш цяпер другую, але ад гэтай сам уцячэш. І будзеш ты мець трэцюю — зь ёй ужо будзеш жыць верна і доўга — да скону.

— Ах ты, махлярка! — абурыўся Кароль. — Пра якіх жонак ты мне пляцеш? Я ж халасьцяк!



— Чакай, саколік, ты ж не даслухаў мяне, — давай выкручвацца хітрая Дамачка. — Першая твая жонка была востра шабелька. Засталася ў маладосьці вайсковая слава твая. Другая твая жана — хмельна чарка. Зь ёй ты цяпер сябруеш, але хутка сам кінеш яе, возьмешся за розум і будзе ў цябе трэцяя жоначка — кніжачка прамудрая...

— Княжычка?! Жоначка?! А чаму б і не!

Кінуўся тады Кароль шукаць жонкі сабе. Прыглядаўся да розных замежных дамаў, але ніводнай не ўпадабаў. А знайшоў у сябе пад бокам, у сваім каралеўстве, маладую ды прыгожую Князёўну. Князёўна была — ні ў казцы сказаць ні пяром апісаць. Пабачыў яе, такую красуню, наш Кароль — закахаўся бязь меры і замуж за сябе запрасіў. Можа, на гэтым і скончылася б тая казачка шчасьліва, але...



Але сэрца той прыўкраснай Дамы ўжо было занята. Кахала яна аднаго маладога і сьмелага Рыцара, які таксама прысягнуў ёй у каханьні і вернасьці. Марылі маладыя пабрацца шлюбам, але мары тыя адкладваліся, бо Рыцар меў адслужыць свой тэрмін у войску.

Пра жаніцьбу са старым Каралём маладая Князёўна нават і слухаць не захацела. Але паспрабуй ты каралеўскай волі працівіцца... Што рабіць?

Напісала тады Князёўна свайму каханаму ліста, расказала ўсё як ёсьць і папрасіла, каб хутчэй прыехаў ды адратаваў неяк. Паклікала свайго служку і даручыла даставіць ліст каханаму. А служка той аказаўся чалавекам нізкім. Ён быў Шасьцёркам. Цішком адкрыў канвэрт, прачытаў ліст і даставіў ня рыцару, а... Каралю. Бач ты, яму было больш карысна, каб князёўна выйшла за караля, тады б і ён у каралеўскі палац уехаў.

Прачытаў Кароль ліст, спахмурнеў. Не хацеў ён мець такую жонку, сэрца якой занятае іншым. Калі б нават сілай узяў, разумеў: усё адно шчасьця ня будзе. Тут ізноў падкруціўся служка, нізкі чалавечак. Раіць Каралю:

— Трэба зрабіць так, каб яна расчаравалася ў ім. Тады разьлюбіць яго і аддасьць сваё сэрца Вам. Я напішу за яе новага ліста. Падраблю так, што не адрозьніш. Прачытае яго Рыцар і нічога не западозрыць. І не прыедзе. А Князёўна падумае, што разьлюбіў. А тут і вы...

Кароль згадзіўся на тое зладзейства. Надта ж закаханы быў. Каварнае гэта пачуцьцё — каханьне. Колькі дзеля яго, каханьня, чынілася благога...

Атрымаў Рыцар ліста, чытае: "У мяне ўсё добра, і табе ўсяго добрага жадаю. Бывай здаровы..." І нешта яму ня верыцца, як бы не яговая каханая пісала. Можна падрабіць почырк, можна падабраць словы, але мовы каханьня не падробіш. Вось і западозрыў наш рыцар штосьці няладнае. Паехаць бы, праведаць. Але ж службу так проста ня кінеш...

Тым часам бедная Князёўна ў роспачы — дзе каханы, чаму ня едзе? Няўжо Караля спужаўся, ад яе адрокся? А Кароль дык рады, думае — цяпер нікуды ня дзенецца, маёй будзе. Ужо і дзень вясельля прызначыў, і гасьцей склікаў. Пацягнуліся госьці ў каралеўскі палац.

І трэба ж было — ехалі яны якраз па той дарозе, якую вартаваў той самы нашчадмануты Рыцар. Пытаецца ён:

— Хто вы такія, куды едзеце?

— Я Кароль крыжацкі са сваім дваром... Я Кароль басурманскі... Я Кароль цыганскі... Едзем да твайго Караля на вясельле.

Прапусьціў рыцар высокіх гасьцей, толькі адну Цыганку-варажбітку запыніў на хвіліну. Расказаў ёй пра сваё каханьне, пра ліст падазроны і папрасіў паваражыць на праўду.

— Ой, саколік, — паспачувала шчырая Цыганка, — калі маеш праўдзівае каханьне, не глядзі, як карта ляжа, слухай, што сэрца скажа...

Ня вытрываў тут Рыцар — кінуў усё ды паляцеў да каханай.

Прылятае... А там ужо і вясельле гатова. Кароль стаіць, госьці стаяць, і Князёўну ні жывую ні мёртвую здрадлівы служка падводзіць. Але як пабачыў Рыцара, зразумеў, што зараз раскрыецца здрада, дык шусь — і даў драла.

— Каханы... — ледзь чутна ўзмалілася Князёўна.

— Каханая! — як пярун, выгукнуў Рыцар і кінуўся бараніць.

Хто дастане зброю ў прысутнасьці караля, мусіць быць забіты — такі закон. Таму ўсе: і служкі, і госьці — паўсталі супраць Рыцара. Ён біўся як герой. Ён усіх паадбіваў і застаўся сам-насам з Каралём. Рыцар быў герой, але дзе вы бачылі, каб Рыцар перамог казырнага Караля?.. Маланкай бліснуў двубой, і сьмяротна паранены Рыцар зваліўся ніцма ля ног сваёй каханай. Князёўна легла побач, і сэрца яе таксама спынілася.

Тым часам пад'ехалі цыганы — мелася ж быць гулянка! Кароль заўважыў варажбітку і кажа са скрухай:

— Гэта ж ты, шэльма, напляла мне пра трэцюю жонку, што буду жыць зь ёй доўга і шчасьліва. Во, глядзі, што з тваё варажбы выйшла.

— Ой, дурань ты дурань, ты ж не дачуў! Я ж табе казала пра трэцюю жонку — кніжачка. Ня княжычка, а кніжачка, прамудрая кніжачка, я ж табе наваражыла манахам быць...

Маладых рыцара і даму пахавалі з каралеўскай пашанаю. Пахавалі побач.

Кароль Валянцін у сваіх грахах раскаяўся, пастрыгся ў манахі і сапраўды са сьвятой кніжачкаю жыў доўга, Усявышняму служыў верна, праславіўся тым, што апекаваўся закаханымі. Пасьля скону быў залічаны да рангу сьвятых і дагэтуль закаханымі апякуецца.

Госьці разьехаліся. Можа, дзе гуляюць, а можа — б'юцца.

Цыганка паранейшаму варожыць на сваіх картах... Толькі як будзе вам варажыць на каханьне, памятайце: не глядзіце, як карта ляжа, слухайце свайго сэрца.

**Сьцяпан Дзінь-Дзілевіч, Вільня, 2002 год**

### Слоўнік беларускіх назваў гульнёвых картаў

**Закон**
**Кароль**
**Дама, Панна**
**Рыцар**
**Два Жаўнеры (дзесяць)**
**Блазан**

**Назвы масьцяў:**
**Чырві, або Сэрца, або Ліцьвін**
**Хрэсьці, або Крыж, або Крыжак**
**Піка, або Віна, або Цыган**
**Бубен, або Званок, або Турак**



казкі жыцьця

# Апоўначы пад Альвасам

Сьвяточныя тэлевізійныя праграмы — як сьвяточныя стравы: добра вытрыманыя ў марынадзе, перасалоджаныя, саланаватыя, гэтаксама прыядаюцца й надакучаюць. Колькі можна сьвяткаваць? Колькі можна весяліцца з нагоды фармальнае зьмены году? Шчоўкнуў тэлевізар пад чароўным рухам маіх пальцаў на шурпатым пульце дыстанцыйнага кіраваньня (сапраўдная чароўная палачка нашых дзён!) Насупіўся. Глядзіць злосна чырвоным вокам... У кватэры ціха-ціха. Хутка поўнач. А мае родныя яшчэ не вярнуліся са сьвятаў. Дзе яны зараз — ва ўтульным пакоі-спакоі? На вуліцы, пад мікрараённай ёлкай? Ці ўжо ідуць па двары, акунаючы ногі ў глыбокія сінія сумёты, як мастак акунае пэндзлі ў паслухмяную фарбу "бэрлінскі лазурак"?..

Я сяджу ля акна, адсунуўшы ўбок белую ўзорыстую фіранку і праз больш тонкую і далікатную "фіранку" другую — на расьпісанай лёгкім марозам шыбе — гляджу на двор, на аддаленыя дамы, на фіялетавы пас вуліцы ўдалечыні, на круглую сьпіну вялізнай рыбы-кіта — дах будынку каралеўскага Камароўскага рынку насупраць...

Містычную цішыню, як белую паперу, разрываюць гучныя агні аматарскага фаервэрку — хаатычна і бессыстэмна!.. Ім усьлед, нібы жабы, недзе далёка квакаюць адзіночныя выбухі пэтардаў. Як гэтыя паўднёвыя жарсьці не гарманізуюць з паўночнай веліччу паўсталае ночы!

На падаконьні стаіць альвас, таксама паўднёвы госьць. Ён прыжыўся ў нашых паўночных кватэрах; можа, таму, што гэтаксама, як і запаветнае наша дрэва — елка, мае ваяўнічыя іголкі і стаічны, нардычны характар.

Поўнач — гэта час цудаў, як вядома зь дзяцінства, з эўрапейскіх чарадзейных казак. Але Поўнач — і прастора цудаў. Па аналёгіі. Я ў гэта веру...

Фанстастычны лес лістоў лекара-альвасу — калючых, пругкіх, крывых — спрыяе зьяўленьню самых фантастычных гіпотэзаў. Старадаўні мітычны кароль Артур мне падаўся сёньня каралём Арктурам. А ў самой народнай назьве кветкі — альвас — мне пачулася Альбарусія (другая, навуковая назва маёй краіны, якую сёньня па-тутэйшаму, па-сямейнаму завем "Беларусь").

...На іголках альвасу, як ёлачныя ўпрыгажэньні, вісяць крохкія словы гераіні-Зімы з купалавай "Адвечнае песьні":

Гуляю я з марозамі,
Гуляю я ізь сьцюжамі,
Сьмяюся я над сьлёзамі,
І ўсіх, і ўсё я дужаю.

**Людка Сільнова**

**З Новага году "НН" ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ. У Менску ў шапіках гэты пятнічны нумар можна купляць ужо З АБЕДУ ЧАЦЬВЯРГА.**

# САБАЧЫЯ гісторыі




Адзін сабака не любіў зімовых Алімпіядаў, бо холадна, лапы мерзнуць. Граждан любіў і зімовыя, і летнія: жонка ў гэтыя дні дазваляла спаць каля тэлевізара і курыць у зацяжку.

Адзін сабака, алімпійскі чэмпіён па біятлёне, зайшоў у прыбіральню. А там быў Граждан, які, адразу пазнаўшы вядомага спартоўца, закрычаў: "Я такі рады магчымасьці яшчэ раз пацьвердзіць глыбокую павагу да Вас — чалавека, які ўвайшоў у гісторыю разам зь Міклухам-Маклаем і Пашай Ангелінай! Дайце я вам дапамагу гузічак расшпіліць..."

Адзін сабака любіў глядзець фігурнае катаньне. Граждану не падабалася: у фігурыстак відаць трусікі, а ён смушчаецца, і да ўсяго мама яшчэ не дазволіла яму жаніцца.

Адзін сабака глядзеў па тэлевізары рэпартаж зь зімовай Алімпіяды. Раптам на экране зьявілася дыктарка і абвясьціла: "Шаноўныя таварышчы! Мінулым летам на лыжах з дому сышоў Граждан, і па сёньняшні дзень ён у розыску. Хто знайшоў лыжы, просьба вярнуць іх на любую спартовую базу. Сьмельчакоў чакаюць прызы і памятныя падзякі!"

Адзін сабака запісаўся ў сэкцыю па скачках з трампліну. Прыйшоў на трэніроўку, а там Граждан прапануе ўсім купіць у яго парашут, каб сабраныя грошы аддаць на разьвіцьцё алімпійскага руху.

Адзін сабака атрымаў запрашэньне наведаць зь візытам добрай волі зімовую Алімпіяду. Прыехаў у аэрапорт — а там Граждан. Убачыў сабаку і закрычаў: "Развaравалі ўсю Расею! А цяпер няма каму шайбу ганяць па Беларусі!"

Адзін сабака прысьніў алімпійскае золата за перамогу ў лыжнай гонцы па цёмным лесе. Расказаў пра гэта Граждану, які адразу ж параіў: "Ня ежце, баценька, нанач. Мне жонка ўжо цэлы месяц не дае, і я, як бачыце, не цікаўлюся гульнямі..."

Адзін сабака, гледзячы тэлевізар, заказаўся ў фігурыстку і сышоў з дому. Граждан і так не начаваў у сваёй кватэры: яму падабалася спаць на вакзале на лаўцы, на якой бяссоннымі начамі тупым кітайскім ножыкам ён выразаў: "Не забуду маць радную!"



Адзін сабака, пасьля таго як нашы хакеісты прадулі ўсе матчы, скінуў з балькону тэлевізар. Убачыў гэта Граждан і, фэкаліямі вымазаўшы сабаку дзьверы, патэлефанаваў у міліцыю: "Я, как кавалер ГТО, долга церпел эці ізьдзявацельства над чалавечаскай сушчнасьцю, но всяму есьць прыдзел. У нас няхватка целявізараў, а эці падхалімы іх выкідаюць. Прашу мне вазьмясьціць маральна-фінансавы ўбытак, а то я выкіну са свайго балкону кравать з малымі дзецьмі і ўсё астальное!"

Адзін сабака вярнуўся зь зімовых Алімпійскіх гульняў. Сустракалі яго з музыкай, і толькі Граждан стаяў у вакзальнай прыбіральні і грыз пачарнелымі зубамі аловак, каб напісаць на сьценцы: "Сягодня он іграет джаз, а заўтра Родзіну прадаст!"

**Віктар Шніп**

## Прыватныя абвесткі



### вітаньні

**Алена**, ты найлепшая сярод усіх кабет ТБМ і суцэльнага сьвету. Суполка "Крывіцкая пагоня"

**Суполка ТБМ "Крывіцкая пагоня"** кажа ўсім беларусам, што Алена з "Хвоі" — самая прыгожая

**Зайчыка з Заслаўя** віншую з Днём сьв.Валянціна. Жадаю каханьня, шчырых сяброў, спраўджаных мар і надзей. Няхай твае цудоўныя вочы заўсёды зьзяюць ад шчасьця! Henad

**Прывітаньне Кнопцы** ад Гузіка

**Беларускіх ліцэістаў** з Днём закаханых! Прывітаньнечкі Дзеружынскай, Франаку Вячорку, Волечцы Гудковай і Аранжыку. Kotačka

**Vinšuju 12 hr.** z vychadam "Pierapynku"! A jak vam naša "Valancinka"? Ci spadabałasia? Kotačka (11 hr.)

### гімназія

**Гарадзкі бацькоўскі камітэт** зьвяртаецца да бацькоў. Хто жадае, каб ягонае дзіця паступіла ў новую беларускую гімназію, якая адчыніцца ў 2002/2003 годзе ў раёне плошчы Якуба Коласа (падрыхтоўчы і 5—8 клясы), пакідайце свае каардынаты. Т.: 213-43-52

### ідэі

**От, апазыцыя!** Панакупляюць пэйджэраў і ходзяць! Менскі

**Дзе міжканфэсійны дыялёг** паміж беларускімі сьвятарамі? А.Надсан, С.Абламейка, У.Завальнюк, І.Спасюк, Бог — адзіны. Беларусь — таксама адна

**Сувораўская вучэльня** — чаму не вучэльня імя К.Каліноўскага? Эдуард

**Калі на плошчы** Незалежнасьці традыцыйны Балван, дзе тады павінен быць помнік К.Каліноўскаму? Эдуард

### калекцыі

**Зьбіраю** беларускія значкі, мэдалі, лятарэйныя квіткі. Шукаю значок "Я снайпэр". Ворша-9, 211030, а/с 46

**Гербы беларускіх гарадоў** і мястэчак. Дасылайце ў любым выглядзе і стане. Буду вельмі ўдзячны. 212040, Магілёў, а/с 26

### кантакты

**Сп.XIT**, да якой канфэсіі належыце?

**Эвангельскія хрысьціяне-баптысты** запрашаюць на набажэнствы штонядзелю а 15-й на Чайкоўскага, 37

**Спадар, якому я** дасылаў тэксты "ULISy!" Калі яны не патрэбныя, вярніце. Інакш — паведамце. Юрась з Гомелю

**"Сьвятая дуброва — Крыўскі Пяроспар"**: нацыянальная ідэя, інтэгральны традыцыяналізм, дахрысьціянскі сьветагляд, этнафундамэнталізм і археафутурызм. http://www.dubrova.cjb.net

**Калі вам даспадобы** розныя прыгоды — заходзьце на наш сайт: www.onalzud.narod.ru

**Нефармалы** і проста шчырыя патрыёты! Чакаем вас на сайце www.onalzud.narod.ru. Зудзянёры

### набуду, прадам

**Беларускамоўную дварнягу** (дзяўчынка) шляхетнага выхаваньня ў надзейныя сьвядомыя рукі за 1 талер прадам. Т.: 262-02-84

**Набуду паляўнічыя** рог ці трубку і "Этнаграфію Беларусі". Т.: (у Вялейцы) (271) 53-84-8

**У краме** ў падземным пераходзе ст.м."Кастрычніцкая" ("Труба") адноўлены продаж беларускіх касэт і дыскаў

**Аўдыё, відэа, паштоўкі, іншае** — фольк, фольк-рок, пастфольк, Сярэднявечча, рыцарства. Т.: 220-68-74

**Прадаюцца 10 асобнікаў** радаводаў беларуска-літоўскіх князёў з календарамі на 2002–2003 год. 1 у.а. Т.: 251-30-15 (увечары)

**Набуду "Гісторыю Беларусі"** Доўнар-Запольскага. Т.: 249-57-55, 214-87-39

**Часопіс "Нацыя"**. Выданьне Беларскае Правінцыі. Беларусь належыць нам! 220012, Менск, а/с 2421, капэрта са зв/а. Пэйдж.: 289-12-12, аб. 4430

**Шаноўнае спадарства!** Набуду з "БК" Яна Чачота, Я.Баршчэўскага. Т.: 207-45-84 (Павал)

**Ці не дашле** хто-небудзь новы нумар "Голасу краю"? 246010, Гомель-10, а/с 99

**Набуду 4-ы том** Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі, энцыкляпэдыю "Беларуская мова". Т.: 230-91-53

**Набуду карты, пляны,** схемы Менску (дарэвалюцыйныя, міжваеннага часу, тапаграфічныя, турысцкія, транспартныя) да 1981 г. Т.: 229-39-18

**Кінапраектар "Вясёлка-2М"** у найлепшым стане прадам. Т.544-21-63 (Марына)

### праца

**Ангельская мова.** Прыватныя ўрокі, пераклады. Т.: 260-45-11. E-mail: yan.matsur@tut.by

**Хлопец** (26 год) шукае працу (досьвед — 4 гады ў гурт. гандлі), в/п кат. В, ПК-карыстальнік. aj-praca@tut.by

**Дапамагу пачаць** уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе. Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089. Менск-89, а/с 122

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст

Імя і прозьвішча

Адрас, тэлефон



## Наступны нумар "НН"

**выйдзе 15 лютага, у пятніцу.**

Бо "НН" выходзіць у пятніцу. У Менску ў продажы — з абеду чацьвярга.

У нумары:

— "...Аб крайнюю белую палоску сьцяга, пасьля абеду, падмацаванага пляшкай гарэлкі, выцірае тлустыя ад сала пальцы ротны..." Запіскі з войска.

— Бунт анархаў: тэма.

## КОШТЫ

**на платныя прыватныя абвесткі** (для прыватных асобаў, на старонку 16):



**Рэклямныя расцэнкі:**

— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 228 руб.

— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 288 руб.

— афармленая абвестка — 144 руб. за кв.см.

— афармленая абвестка памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 186 руб. за 1 кв.см.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: УНП 101115521, рэдакцыя газэты "Наша Ніва", 220600, Менск, вул. Калектарная, 20-а, п. 2-а. Р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ "Белінвэстбанк" Менску, код 763. **На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары "Для пісьмовых паведамленьняў" запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: "За рэклямныя паслугі".**

*"Калі мы павінны змагацца ды нішчыць зло, ці не фанатычнымі будзем?"*

*Жывая Этыка*

# Голас душы!

Але вы мне, рабяты, мала што нашаніўныя, дык яшчэ й няма ладу якія наіўныя: знайшлі дзе праўды шукаць! Рыхтык забыліся навукі клясыка Райкіна — як запускаецца дурачка. Вы просіце ў экзархаце праваслаўнай царквы камэнтару на факт закрыцьця каталіцкай радыёпраграмы "Голас душы", а вам адказваюць, што "калёсы адгружаны" — пардон! — што ідзе нядзельная праваслаўная казань айца архімандрыта Іаана, які ўжо даваў адпаведны камэнтар Кестонскай службе навінаў. Вы сунеце носа ў стужку Кестонскай службы, а там зноў пра калёсы, то ж бо зноў пра нядзельную праваслаўную казань айца архімандрыта Іаана, які ўжо даваў адпаведны камэнтар Кестонскай службе навінаў пра нядзельную казань айца архімандрыта, — вам жа, цікаўнікам такім, нават няўцям, што з экзархату "запускаюць дурачку", пра тое, як у папа была сабака... і г.д.

Дык от жа я й хачу папытацца ў вас — а дзе ж вы былі, праўдалюбцы мае, зь дзесяці да адзінаццаці, дзе ж вы былі, хачу я ў вас папытацца, зь десяці да адзінаццаці? Нябось крычалі: "Голас душы! Голас душы!" Наце, кушайце, наядайцеся, родныя, — вось вам і задушылі, як вы таго й прасілі, якога ж ражна вам яшчэ трэба, якое халеры?! І потым, скажу вам па сакрэце: яны, каталікі беларускія, хрысьціяне зьлева направа, а трэба справа налева, і сваім часам галасавалі за Пазьняка, а трэба было за Бацьку нашага, які (дарма што толькі зямны!) хоць і атэіст і таму зусім не хрысьціянін, можа нават і нехрысьць, але арыентуецца і інтэгруецца справа налева, г. зн. адзіна правільна, дай бог яму здароўечка ў ручкі, ножкі й яшчэ кудысь трошкі.

З малітвай за вас, схізматыкі вы мае,

**Граждан**

## Паштовая скрынка



**І.Хв. зь Берасьця.** Дашлеце выходныя зьвесткі брашуры, каб мы маглі іх надрукаваць.

**Віктару А. зь Менску.** Вас паслухаўшы, дык "НН" мусіць быць дакладнейшаю за навуковыя выданьні, больш інфармаванаю за монстраў інфармацыйнага рынку, здольнаю рабіць сабе дарагую рэкляму і г.д., і ўсё гэта адначасова. А ці шмат грошай ахвяравалі Вы на яе выданьне за мінулы год? З чаго ж возьмецца ўсё гэта?

**Сяргею Б. з Гомелю.** 1) Пакуль ніхто. 2) Беларускае каханьне. Беларускія дзеткі.

**Васілю А. з Магілёва і Віталю С. зь Менску.** Гэта той выпадак, калі чытачоў "НН" пераконваць ужо ня трэба. Дасылайце лепш прапанову проста ў камісію па гімнах.


**НАША НІВА**
**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**




8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 850 ад 20 чэрвеня 2001 г., выдадзенае Менскім гарадзкім выканаўчым камітэтам. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3805.

Нумар падпісаны ў друк 14.02.2002.

Замова № 962.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а